Уладзімір Ліпскі

# Лаўрэнавы працадні



Уладзімір Ліпскі

# Лаўрэнавы працадні

Аповесці



МІНСК «ЮНАЦТВА» 1984

Бел 2
Л 61

Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту

Рэцэнзент **І. У. Клімашэўская**

Мастак **В. М. Бароўка**

**Ліпскі Ул.**

Л 61 Лаўрэнавы працадні: Аповесці. [Для сярэд. і ст. шк. узросту/Маст. В. М. Бароўка] — Мн.: Юнацтва, 1984.— 224 с., іл.

У пер.: 35 к.

Сяргей Марозаў праводзіў вечарам з канцэрта сваю аднакласніцу Марынку. Калі вяртаўся дадому, пачуў крык аб дапамозе: на дзяўчыну напалі хуліганы. Але Сяргей не разгубіўся. Ён смела кінуўся з імі ў бойку, абараніў дзяўчыну. Так пачынаецца аповесць Ул. Ліпскага «Даверлівая душа, або Споведзь Шпундзіка», у якой расказваецца аб маральным станаўленні сучаснага маладога чалавека.

Сённяшняй моладзі прысвечана і аповесць «Лаўрэнавы працадні».

Л $\frac{4803010200-006}{M307(05)-84}$ 44—84

ББК 84Бел7
Бел2

# ДАВЕРЛІВАЯ ДУША,

## АБО

## СПОВЕДЗЬ ШПУНДЗІКА



Першыя пакуты і ахвяры,
Першыя даверлівыя мары,
Хай на змену вам прыйшлі другія —
Самыя вы чыстыя і дарагія.

ВАСІЛЬ ВІТКА

(«Першае, наіўнае каханне»)

* * *

Марынка пацалавала мяне ў той вечар. Разумееце, сама пацалавала.

Я праводзіў яе дадому. Ішлі ўзяўшыся за рукі, гаварылі пра канцэрт. Падышлі да яе пад'езда. Яна чамусьці захвалявалася. Зірнула ўверх і сказала: «Мае не спяць яшчэ. Вунь, бачыш, на сёмым паверсе, трэцяе акно злева». Я шукаў вачыма яе акно, і ў гэты момант яна пацалавала.

Ад нечаканасці я ледзь не абмёр. Калі ачомаўся, убачыў, як мільганула ў дзвярах яе блакітная сукенка.

Адчуў яе цёплыя губы. Хацелася крычаць: «Марынка!.. Я кахаю цябе!..» Хацелася падляцець да сёмага паверха і зазірнуць у трэцяе злева акно: што ж яна робіць цяпер, якія ў яе тата і мама?..

Але нічога гэтага я не зрабіў, а сарваўся раптам з месца і што ёсць сілы пабег па начным горадзе. Задыхаўся ад радасці і шчасця. Мяне неслі нябач-

ныя крылы нязведанай дагэтуль душэўнай узнёсласці.

Нечакана ў аціхлым горадзе нібыта бліснула маланка. Я прыпыніўся, на нейкае імгненне ўхапіўся за галаву і тут пачуў трывожны дзявочы голас: «А-ай!.. Ратуйце!..» Валтузня даносілася з-за кустоў бэзу, якія раслі ў парку.

«Лю-дзі!.. Дапа-а-а...» — зноў пачуўся дзявочы голас, толькі цяпер больш сцішана.

Мне падалося, што там, у бядзе, мая Марынка, і я, не раздумваючы, кінуўся за цёмныя кусты. Толькі паспеў заўважыць, як адзін дзяцюк заломваў рукі дзяўчыне, другі закрываў ёй рот. Не помнячы сябе, я закрычаў: «Што ж вы, г-г-гады?!» — і кінуўся каршуном на дзецюкоў. Ад майго кулака нахабнік, як корак ад шампанскага, паляцеў у кусты. Другі адштурхнуў дзяўчыну і наваліўся на мяне. Стала горача ў галаве. Але я здолеў вылузнуць з-пад яго і прыварыць пару фінгалаў. Дзецюкі навaліліся на мяне ўдвух. Цела, адчуваў, станавілася абмяклым, балючым і стомленым. На нейкі момант страціў прытомнасць. Ачнуўся, калі раз'юшаных нахабнікаў трымалі за рукі нейкія людзі, а нада мной на каленях стаяла дзяўчына і плакала.

Я падхапіўся з зямлі і што ёсць сілы пабег у бок сваёй вуліцы. Чаму так зрабіў, не магу растлумачыць і сёння.

Засталося прыемнае: дзесьці ў маім горадзе жыве дзяўчына, якую я выратаваў ад бяды і якая

плакала нада мной. Засталася і глыбока засела ў маёй душы крыўда: сярод людзей нашага горада ходзяць начныя нахабнікі.

А самае галоўнае — мяне, напэўна, кахае Марынка. Столькі адкрыццяў у адзін вечар!

* * *

Дзіўны народ сталыя людзі. Аніяк не ўцямяць, як нас называць, як з намі быць. Колькі кніг панапісвалі пра наш цяжкі ўзрост. Гэта ж трэба, прыдумалі — п-а-д-л-е-т-к-і! Калі мы толькі падлеткі, то яны старыя клекатуны.

Мяне ж закалыхвалі, дый то з угаворамі, пакуль дундзіў соску. А як навучыўся чытаць і пісаць, здарылася гэта яшчэ за год да школы, дык з тае пары і лічу сябе дарослым.

Ды я дарослым быў ужо тады, калі камандаваў алавянымі салдацікамі. Маё войска брала непрыступныя крэпасці, не раз вярталася з перамогай. Уперадзе, на вараным кані — чырвоны камандзір Сяргей Марозаў. Гэта ж пра мяне напісаны верш:

Тры трашчоткі б'юць трывогу,
І трубач стаіць на пні.
Вылятае на дарогу
Сам Чапаеў на кані...

А ўжо ў сем гадоў я пайшоў штурмаваць крэпасці роднай мовы і алгебры. Ну няхай не сам пай-

шоў, а мяне павялі за ручку. Але ж мяне ніхто не падмяняў ля дошкі, за партай. Ніхто за мяне хатніх заданняў не выконваў. Сам усё. Вось ужо восем доўгіх гадоў сам караскаюся па крутых школьных вяршынях. Дарослыя, дзівакі, думаюць, што цягнуць мяне на тую вяршыню.

Ім — каб хутчэй дабраўся да таго месца, дзе яны самі сядзяць, каб ішоў той жа сцяжынай, якой яны хадзілі. А мне, наадварот, хочацца лезці чмырэзнікам, ахвота закасаць калашыны і памераць лужыны, ускараскацца на самую верхавіну дрэва і пабачыць, як выглядае адтуль мой горад. Для дарослых — гэта дзікунства. А я проста дзічэю ад іхніх выкрыкаў: «нельга!», «не руш!», «не трэба!», «не хадзі!», «не баўся!».

Для мяне, як двойчы два, зразумела, што дарослым чалавек становіцца тады, калі пачынае рабіць нешта вельмі важнае, калі займаецца нечым усур'ёз. Вучоба ў школе — гэта не жартачкі. Не лягчэйшая работа, чым у кантралёркі кінатэатра цёткі Гэлі. Сядзіць, адрывае білецікі. А яна ж, цётка Гэля, яшчэ і абзывае нас гультаямі лахматымі, ёлупнямі даўгалыгімі. Крыўдна: цягнеш «дарослую лямку» восем гадоў, як я вось, а цябе ўсё лічаць бязглуздым дзіцем, усяго толькі нейкім там падлеткам.

У той вечар мяне доўга не было дома. Вярнуўся, калі даўно спачывала сонца і мае бацькі. Вярнуўся акрываўлены, пабіты, напалоханы і злы. Упершы-

ню не спаў усю ноч. Думаў-перадумаў усё сваё жыццё. А пражыў я не так ужо і мала — ажно пятнаццаць гадоў!

* * *

Шпундзікам мяне празвалі даўно. Яшчэ ў другім класе. Як гэта атрымалася, я і сам не згадаю. Мо таму, што прыйшоў у школу малым? Ці таму, што ўсюды соваў свой нос? Каму-небудзь вушы дзяруць — і я там. Збяруцца хлопцы за рогам школы, кураць — я кручуся ля іх. Нехта раз абазваў Шпундзікам і панеслася-пакацілася. З году ў год, з класа ў клас. І сам ужо звыкся, што я — Шпундзік. Нейкая нават перавага ў тым ёсць, што цябе перайначылі. Значыць, прыкмецілі.

А дома мяне Сяргейкам завуць, Сярожам, Сяргуньчыкам, Сярожачкам. Мне аж млосна ад такой саладжавасці. Ну, быў малы, хай сабе і Сяргуньчык. А які я ім цяпер Сяргуньчык? Я ж па метрыцы Сяргей Сямёнавіч Марозаў.

Касцюм нашу сорак восьмага памеру, чаравікі — саракавога. Прымяраў неяк бацькавы касцюмы. Былі б у самы раз, каб не шыракаватыя.

Джынсы люблю. Яны не даюць целу пухнуць. У іх адчуваеш сябе падцягнутым. Ой, а колькі ж папакленчыў у мацеры, каб купіла. Усё аднеквалася: «Няма ў магазінах». Я разумею хітрыкі дарослых. Як добра прыжучыў, дык знайшліся і джынсы. Выходзіць, усё можна, чаго вельмі захочаш.

Захачу ўсцешыць сваіх старых выдатнымі адзнакамі — калі ласка. Захачу не займацца прыбіраннем пакояў — і баста. Адгаворак шмат: то галава можа нечакана разбалецца, то ўрокі не вывучаны...

Вось захацеў схадзіць на канцэрт сталічнага ансамбля «Кляновае лісце» — і схадзіў. Прапусціў урокі, паўдня аціраўся ў чарзе, а ўсё-ткі дастаяўся, атрымаў жаданыя два білецікі. Ох, як буду помніць гэтыя канцэрты. І той, што быў у Палацы культуры, і той, што на вуліцы. Яны нібыта абудзілі мяне, знялі шоры з вачэй. Адметнай зарубкай стаў для мяне той вечар. Ад яго пачаў адлічваць сваё сталенне.

Ляжу вось цяпер у ложку і перадумваю сваё жыццё. Галава пабольвае, але мо не толькі фізічна. Пабольвае і ад думак, якія ў ёй. Такое адчуванне, што іх там залішне многа. А лішняя пара, казаў настаўнік фізікі, можа ўзарваць кацёл. Дык што ж зрабіць, каб не дрынкнуў мой кацялок?

* * *

Ансамбль «Кляновае лісце» я слухаў у дзень апошняга экзамену, а значыць, і мае пакуты пачынаюцца з таго дня.

Найбольш тады хваляваўся, як сустрэнуць мяне, з расквашаным носам, бацькі. За маці непакоіўся. Яна абамлее, калі ўбачыць сыночка ў крыві. Бацька — больш стрыманы, хаця для яго ўражлівай

натуры мой выгляд мог стаць прычынай будучага інфаркту.

Так што ішоў я дамоў у той вечар не проста з пабітым тварам, а цягнуў у хату страшную бяду.

Адной рукой прытрымліваў на твары вільготную ад крыві насоўку, а другой выцягнуў ключ з кішэні, намацаў замок. Дзверы ўрэшце адчыніліся, і я апынуўся ў пярэдняй. Святла ў пакоях не было, значыць, бацькі ўлегліся. Гэта мяне трохі супакоіла, але ненадоўга. Бо тут жа напароўся, як на вострае лязо кінжала, на маміна пытанне:

— Сынулька, вярнуўся?

— Ага.

— Падсілкуйся і кладзіся спаць. Я ўжо не буду падымацца. Сярэдзіна зноў усхадзілася.

— Ага,— зноў адгукнуўся я.

Маё «ага» выходзіла бадзёра. Усчынаць гаворку я не збіраўся, бо маці магла прыйсці на кухню, каб пакарміць мяне. А ўжо як зірне на мой твар, то ў яе разгуляецца не толькі сярэдзіна.

— Ці спадабаўся ж табе канцэрт?

— Ага.

— Ну, добра, раніцай раскажаш,— пагадзілася маці, бо, відаць, падумала, што сваім агаканнем я проста не хачу парушаць іх сну. Відаць, яна падумала пра мяне, якім добрым і спагадлівым расце ў яе сын, і ціхамірна прыпала да падушкі.

Цяпер я ўжо быў у небяспечнай зоне да самай раніцы. Зайшоў у ванную, уключыў святло, зазір-

нуў у люстэрка. Толькі па рыжай чупрыне пазнаў сябе. Твар, белая кашуля і пінжак былі выпацканы ў кроў. Я сам ледзь не абамлеў ад такога выгляду, але скардзіцца не было каму, а тым больш на каго.

Адкруціў кран і жменьку халоднай вады паднёс да асмяглых губ. Вада зайшла ў ранкі, і боль працяў усяго, аж да пятак. Затым я апаласнуў насоўку і пачаў змываць кроў. Было балюча і крыўдна. Ад страху трымцелі ногі, бо ў любы момант нехта з бацькоў мог заглянуць у ванную.

Калі я зноў зірнуў на сябе ў люстэрка, то ўбачыў дзіўную мардуленцыю: нос, як аблупленая, а потым спечаная бульбіна; на шчоках, пад вачамі чырванелі сінякі; вочы зрабіліся вузенькімі-вузенькімі. Ад здзіўлення ніжняя губа міжвольна адвісла, і адтуль выбліснулі белыя зубы. Ну, як у пацука! Засталося толькі прапішчаць: «Зьдрасце, позялюйста, Сюньдзік»... Але мне было нават балюча ўсміхацца.

Ужо за поўнач вызваліўся ад бруднай вопраткі, прышкандыбаў у сваю спальню. Сон адкаціўся ад мяне за высокія горы, за сінія акіяны. Да самай раніцы перад вачыма стаялі мая вясёлая Марынка і заплаканая незнаёмая дзяўчынка. Раз-пораз уздрыгваў, нібыта бараніў іх.

А яшчэ, як ніколі дагэтуль, думаў пра мамку і татку.

* * *

У нашай сям'і, жартуе бацька, адбываецца «сацыяльны працэс» збліжэння горада і вёскі.

Маці і бацька мае — былыя вяскоўцы. Гарадскімі зрабіліся. А я чыста гарадскі тып. Яны нарадзілі мяне, выкармілі, выгадавалі ў горадзе.

Дык хто ж яны, гэтыя людзі, ад якіх я пайшоў зялёным парасткам.

Маці — Яніна Іванаўна. Дальбог, нешта ёсць у ёй ад Леанардавай «Джаконды». Такі ж ласкавы, праніклівы пагляд. Такі ж прыгожы твар і добрая, ледзь прыкметная ўсмешка.

Праўда, раней яна ўсміхалася часцей. Ямачкі на шчоках і роўныя, бялюткія зубы, зіхатлівыя вочы і каштанавая грыўка на акруглым ілбе — усё гэта для мяне дарагія абрысы.

Мае пятнаццаць гадоў даліся ёй не маннай нябеснай. У каштанавую грыўку ўпляліся сівыя валасы, пад вачыма пачалі збірацца маршчынкі.

Маці мая — інжынер, працуе на заводзе, член бацькоўскага камітэта ў школе. А ўвогуле, як кажа бацька, яна — «шыя» нашай сям'і.

І вось у маю галаву пачало находзіць прасвятленне. Пачынаю разумець, колькі непатрэбных клопатаў прынёс сваёй мацеры. Чым адплочваў за яе бязмежную любоў?

Джынсы мне купіла, а яна ж так хацела за тыя грошы набыць сабе прыгожыя басаножкі. Помню,

заўпарціўся: не хачу ехаць у піянерскі лагер! Мама здала сваю пуцёўку ў санаторый і паехала са мной у вёску, да бабулі.

Мая бабуля Хрысціна, маміна маці, жыве ў вёсцы Малінаўка. Дзядулю расстралялі паліцаі за тое, што памагаў партызанам, даў прытулак раненым. З тае пары бабуля адна. Трымае карову, свінню. Сама косіць, абганяе бульбу. А калі мы прыязджаем — рада-рада. У мяне, гаворыць, сілы тады ўтройваюцца. І нічога не дае нам рабіць. Вы, гаворыць, і так у сваім горадзе затлуміліся, пагуляйце, адпачніце. Аднаго разу пачуў, як бабуля даводзіла суседцы: «Ай, Волька, пражыла жыццё, што ў ступе пратаўклася». Мне сорамна стала гуляць у бабулі. А яна кажа, што гэта я падрос.

Пачынаю разумець, чаму мама ніколі не скардзіцца на хатнюю таўкатню, а працуе, спяваючы. Яе ж бабуля навучыла ўсяму. Гэта ж у вёсцы процьма турбот. А ў гарадской кватэры адзіная вайна — з пылам ды з брудным посудам.

Дык вось, маці. Мне ўвесь час здавалася, што яна нарадзілася і жыве толькі дзеля мяне аднаго. Мне цяпер пятнаццаць гадоў, а ёй — трыццаць пяць. Значыць, нарадзіла яна мяне ў дваццаць. Хм, гэта ж у мяне хутка будзе яе ўзрост. А чаму са мной так абыходзяцца?! Я даўно ўжо не дзіця, даўно!



Соладка спяць мае старыя, а мне не спіцца. Думаю пра іх. Называю бацьку і матку старымі. Гэта для красамоўства. Яны ж у мяне самыя маладыя бацькі. Гэта ім толькі здаецца, што я іх бэшчу, не прызнаю. На самой справе — ганаруся імі. У пятым класе, помню, напісаў пра іх сачыненне, дык настаўніца ўслых чытала ўсяму класу: маўляў, вось як трэба разумець і любіць бацькоў! Добра, што хоць прозвішча не назвала. А то ў нас, у класе, не вельмі любяць, калі каго хваляць.

А цяпер мне брыдка і агідна зрабілася. Я ж так мала ведаю пра сваіх родных. Ну што я ведаю пра свайго бацьку?

Ён журналіст. Часта ездзіць у камандзіроўкі, і мама называе яго «кватарантам». Але ж мяне на мякіне, як і вераб'я, не правядзеш. Я ж чую праз зямлю, бачу праз сцяну.

Мама, калі праводзіць бацьку ў камандзіроўку, называе яго зусім не так: «Мой любы, вяртайся хутчэй... Беражы сябе...» А потым лічыць дні, гадзіны, калі ён вернецца. А то паходзіць, паходзіць і ўздыхне: «Як жа там наш бацечка?.. Два дзянькі засталося да яго прыезду...»

Вернецца ён, садзімся ўсе разам на канапе і слухаем дарожныя ўражанні.

Заўтра будзе наадварот. Прыйдзецца мне расказваць свае «дарожныя ўражанні». Ох, як жа пераджыць тое заўтра?..

З бацькам я на «ты», як з сябрам. Але вуха востра трымаю. Мой давер старыя іншы раз накіроўваюць супраць мяне ж. Несумленна. Мо таму мы найчасцей і замыкаемся ад дарослых?

Цікава, што я прыдумаў бы, каб давялося пісаць бацькаву біяграфію. Ага, любы сынок Сяргуньчык, папаўся. Ну-ну, што ты ведаеш пра яго?

Бацьку завуць Сямён Пятровіч Марозаў. Нарадзіўся ў маі месяцы ці то сёмага, ці то пятага, здаецца, у 1940 годзе, у вёсцы Карпілаўка. Жыве з маёй маці ў адной кватэры. У іх ёсць я. Вось і ўсё.

Чакай, чакай! Давай-ка, Шпундзік, памазгуй яшчэ. Бацька твой нарадзіўся ў вёсцы Карпілаўка. Яго бацька, а мой дзядуля, загінуў у вайну. Сорамна, але я не ведаю, колькі яму было гадоў, дзе ён загінуў, якім быў? О, цяпер прыгадваю, як аднойчы мы былі ў вёсцы і нейкі ахмялелы госць усё дапытваўся ў маёй бабулі Анюты:

— Няўжо ты, цётка Пятрыха, за столькі ўдовіных гадоў не сустрэла больш нікога? Прыняла б сабе якога-небудзь чалавека, весялей бы жыла...

Цярпліва слухала бабуля. П'яны госць, відаць, разварэдзіў яе душу. Моўчкі паднялася з лавы, падышла да сцяны, дзе вісела рамка з партрэтам майго дзядулі. Лагодна правяла рукой па шкле.

— Такога няма больш...— прашаптала.

З таго часу яшчэ больш палюбіў сваю карпілаўскую бабулю. Яна ў нечым падобная на малінаўскую, на маміну маму.

Помню, аднойчы сабраліся яны разам у нашай гарадской кватэры. От ужо і нагаманіліся! Я займаўся сваімі справамі, а ўсё слухаў іх. Яны расказалі адна адной пра сваё жыццё, пра сваіх мужоў, пра клопаты гаспадарскія. Пасля і да мяне дабраліся. Параспыталі пра ўсё-ўсё: як у школе вучуся, якія гарадскія настаўнікі, з кім сябрую, якія кніжкі чытаю. От, думаю, вясковыя бабулі, а як цікавяцца ўсім. Мной так даўно ніхто не цікавіўся. Спадабалася яшчэ, што яны абыходзіліся са мной, як з дарослым, з павагай і вельмі даверліва.

Тады, у часе іх гаворкі, даведаўся, што Сямёнка (гэта мой бацька) «каўтнуў горкае долі ў маленстве». Бабуля Анюта працерла хустачкай вочы і расказвала далей: «Жылі ж, мая ты свахначка, пасля вайны ў куранёх. Пойдзе Сямёнка ў поле, назбірае мёрзлае бульбачкі, зробім з іх аладкі і са смакам ядзім. Ой, што было, няхай быльнягом парасце...»

З тае размовы даведаўся, што мой тата старанна вучыўся, пісаў вершы, любіў маляваць. Бач ты, а мне ж ніколі не расказваў пра гэта. Ды хіба ж я не зразумеў бы яго, хіба мне не цікава ўсё гэта?

Але ж, пачакай, як жа так не расказваў. А памятаеш, Сяргуньчык, як табе маці купіла касцюм і ты захныкаў, што занадта вузкія штаны? Бацька ўсхапіўся ад пісьмовага стала і, ледзь стрымліваючы сябе, злосна закрычаў: «Ты-ы!.. Доўга будзеш матку мучыць... На свой рубель будзеш выбіраць вузкія ці шырокія... Я займеў першы касцюм, як

дзесяцігодку закончыў. Цэлае лета хадзіў у лясніцтва дровы пілаваць... Сам грошай зарабіў, сам купіў найлепшы касцюм у свеце...»

Тады зразумеў я гэта як чарговы ўрок маралі і не ўспрыняў яго словы. Цяпер яны стукаюць мне малаточкам у скроні, і адчуваю, як гарачыня распаўзаецца па маім целе. А мо гэта стукаецца ў маю абуджаную душу сталасць? Ці проста я стаміўся? Заплюшчваю вочы, і ружовыя кругі плывуць перада мной. Яны ліхаманкава мітусяцца, потым супакойваюцца, цямнеюць, і ўрэшце лячу ў чорнае бяздонне.

* * *

Эх, Сяргей Сямёнавіч, лімонная твая галава, размазня кіслая: памыўся і ў ложак бабухнуўся. Не спаў, енчыў, думаў. А дзе ж былі твае мазгі, што недапетрылі схаваць акрываўленыя пінжак і кашулю?

Старыя б прачнуліся, пахадзілі б па пакоях і пайшлі б на свае работы. А ты б цэлы дзень — адзін-адзінокі. Агледзеўся б, падлячыў бы свае сінякі. Усё лягчэй апраўдацца. А то маці зазірнула ў ванную і ледзь не самлела.

— Ой, што ж гэта?! — ускрыкнула і загаласіла немым голасам.— Сы-ы-но-о-чак ты-ы мо-ой р-о-дн-е-енькі!..

Падбег бацька. Пачуўся яго грубы, хрыплаваты голас: «Што такое?»

Я сцяўся ў камяк — зараз пачнецца самае страшнае.

Першай у мой пакой віхурай уляцела маці. Яна кінулася да мяне. Абмацала — жывы! Апусцілася на ложак і як мага спакойней спытала:

— Што?! Дзе?..

— Нічога, мама, пакуль жаніцца — загаіцца,— пажартаваў я і мацней прыціснуў насоўку да твару.

— Ну, дзе ж ты так? — зноў спытала маці і заплакала.

Я пачуў, як устрывожана засоп бацька. Тут ужо маўчаннем ці жартачкамі не адкупішся.

— Не хвалюйся, мама. Бег з Палаца культуры, зачапіўся і бразнуўся з усіх чатырох... Нічога, загоіцца. Усё будзе добра.

— Ой, мо пераломы якія на твары... Сямён, чаго ж ты стаіш як слуп, па доктара трэба бегчы...

— Нічога страшнага,— раздражнёна паўтарыў я.— Ніякага доктара мне не трэба... Пройдзе...

Маці асцярожна зняла маю руку з насоўкі. Праз вузенькія шчылінкі вачэй убачыў спалоханыя твары бацькоў, яны ніколі дагэтуль не бачылі свайго Сяргуньчыка пабітым. Маці завохкала яшчэ больш. А бацька чамусьці быў спакойны. Гэта мяне трошкі абурыла. Сын пабіты, а яму, бацьку, хоць бы што. Але я быў рад яго спакою, які ўсё ж перадаваўся і маме.

Калі мама выпрабавала на мне ўсе свае лекі — рабіла прымочкі, змазвала ёдам, давала глытаць

нейкія пілюлі, карміла з лыжачкі,— яна падвяла бацьку да майго ложка і доктарскім тонам сказала:

— Сямёнка, падзяжур ля яго. Мне трэба сёння раненька на працу. Нарада ў нас вытворчая...

— Добра, бяжы... Неяк разбяромся...— адказаў бацька, і я адчуў, што мая «нянька» сапраўды разбярэцца са мной.

Толькі зачыніліся дзверы за мамай, як да мяне падступіўся бацька. Твар яго яшчэ сонны, валасы раскудлачаныя, але вочы даўно ўжо не спалі. З іх глыбокага бяздоння даходзілі да мяне чуллівыя і пранікнёныя промні, якія праціналі ўсё цела.

— Ну, расказвай, аб што ты зачапіўся,— спакойна і ўпэўнена сказаў ён.

І я яшчэ раз пераканаўся, што бацька не толькі журналіст, а і вялікі мудрэц. Ён мог быць следчым ці псіхіятрам. Напэўна, змог бы стаць аўтарытэтным настаўнікам.

Безумоўна ж, я выклаў яму ўсё, як на споведзі. Адзінае толькі схлусіў, што быў на канцэрце з Віцькам Мятліцкім. Ён уважліва слухаў, пачухваў патыліцу. Калі я скончыў, паціснуў маю абмяклую руку і сказаў:

— Цяпер веру — ачуняеш. Доктара табе сапраўды не трэба.

Але праз гадзіну ў кватэру пазванілі — прыйшла дакторка.

— Тут жыве Яніна Іванаўна Марозава?

— Тут, але...— пачаў тлумачыць бацька.

— Ведаю, ведаю, яна цяпер на заводзе. Мы з ёй сябруем. Вось яна папрасіла, каб я паглядзела вашага сына.

Мне добра чуваць размова ў пярэдняй. От неўгамонная матуля, яна далучыла да маёй бяды яшчэ аднаго сведку.

— Дарэмна прыехалі, у яго ўсё нармальна,— казаў бацька.

— Не турбуйцеся, мне не цяжка... Дваццаць гадоў людзей ратую ад хвароб. Прафесія такая...— Дакторка нахілілася да мяне, спытала: — Ну, дзе ж мы так папсавалі свой твар? Ой, якія фінгальчыкі...

— На вуліцы,— рэзка адказаў ёй і спытаў:— Вы часам не вывучалі дэанталогію?

— Гляньце вы...— здзівілася дакторка.— Адкуль жа ведаеш пра гэта?

— Амосава чытаю.

Збоку стаяў бацька, усміхаўся. У гэтую хвіліну выразна адчуў, што мы з ім, як роўныя, а значыць, аднолькава думаем. Гэта падбадзёрыла мяне, і я аглушыў разгубленую дакторку амосаўскай цытатай.

— Сучасная медыцына ведае сто тысяч сімптомаў захворванняў і вывучыла дзесяць тысяч хвароб... А маё захворванне па-за межамі медыцынскіх адкрыццяў.

— Бачу, бачу,— ціха сказала дакторка.— Што ж, адпачывайце. Рабіце прымочкі. Пасцельнага рэ-

жыму можна не прытрымлівацца... Да пабачэння.

Не паспеў адказаць, як дакторка рэзка выйшла з пакоя і за дзвярыма пачуў яе голас:

— Ну і дзеткі пайшлі...

— Такі ўзрост ва ўсе стагоддзі нялёгкі,— адказаў бацька і як бы папярхнуўся. (Я разумею кожны яго жэст. Гэта ж ён падумаў, што адказ атрымаўся па-газетнаму штампаваны, і засаромеўся.)

— Не кажыце... Але такіх ранніх грамацеяў мо яшчэ не бачыў свет... Гэта ж сказала яму нешта неўпапад, і ён мне нагадаў пра дэанталогію...

— Прабачце яму... Дзякуй, што зазірнулі...

— Ды нічога... Я ж не магла адмовіць Яніне Іванаўне... Цяпер я ведаю, чаго ў яе не сходзіць з языка Сярожка... Усяго вам добрага.

— Да пабачэння,— адказаў бацька, і я адчуў у яго голасе задаволенасць.

Падумаў, што тая знаёмая маміна дакторка, мусіць, ніякая не дакторка, а фельчар. І яна ўсё-такі не вывучала дэанталогію.

Спадабаўся мой бацька. Мы з ім заадно. Выходзіць, ён мой сябар!

* * *

Другі дзень летніх канікул. Другі дзень майго зняволення, маёй адзіноты. Такой маркоты і суму, як цяпер, яшчэ не было са мной.

Раніцай старыя разбегліся па сваіх работах. Мяне ўжо не турбавалі. Маці і тая супакоілася, адышлі ад яе страхі. «Нічога, сынулька, адпачнеш хоць».

Адпачнеш? Хэ, ад чаго і ад каго? Маці ўсё па сабе вымярае. Для яе адпачыць значыць палящаць, нічога не рабіць. Не, такі пенсійны адпачынак не па мне. Сустрэцца б з хлопцамі, пагойсаць па парку. У кіно прарвацца ці, урэшце, да якой з бабуль паехаць. Абы толькі вылузнуцца з-пад бацькоўскай апекі, з гэтай тлумнай гарадской кватэры.

Эх, жытуха-морквачка. Зверху прывабная, шыкоўная, а што ў зямлі, які зачынаецца корань? Трэба выцягнуць на святло, каб даведацца. Але ж, калі корань не спадабаўся, назад не ўваткнеш. Добра, падымайся, філосаф Шпундзік. На кухні цябе чакае сняданак багоў. Ага, так і ёсць: яечня, пульхныя бліны, смажанае кураня, кампот з клубніц.

Апетыт прапаў. Да таго ж боль у сківіцах замінаў жаваць. І я разгарнуў газету. Бацька штогод выпісвае іх цэлы пачак. І я пакрысе ўпадабаў сур'ёзнае чытво. У жыцці розныя веды патрэбны. О, учора дакторку прыпёр амосаўскім артыкулам. Запомніць падлетка.

Я разламаў смажанае кураня. Смачна маці гатуе. І калі яна паспявае? Раніцай самы сон, а яна ўсхопіцца і ўвіхаецца каля пліты. Ад кухонных пахаў я часцей за ўсё і прачынаюся. Але сёння апетыт не ішоў да мяне.

Сёння мяне хвалявала ўсё, што чытаў у газеце.

Не, газеты не для сняданка. Можна ўвогуле страціць апетыт. Выходзіць, у свеце, Сяргуньчык, адбываецца нешта больш важнае, чым твае фінгалы пад вачыма. Можаш не хандрыць. Але ж ляжаць галежма з пабітай мордай не вялікая асалода. У галаве тлумяцца розныя-розныя думкі.

І найбольш — пра Марынку. Ці дасце веры, яна з трэцяга класа прыходзіць у мае сны. З гэтага можна смяяцца, толькі нельга перакрэсліць і выкінуць, як непатрэбшчыну, на сметнік.

Раней, калі толькі сустрэў Марынку, яна была падобна на ляльку. Светлыя з вялікім бантам валасы. Тварык, як з мармуру. Каб вы ведалі, як яна ўмее смяяцца! Помню, прынесла ў клас новенькую кніжку пра Нязнайку. Селі мы гуртам і пачалі чытаць. Так атрымалася, што я сядзеў побач з ёй і адчуваў яе плячо, яе дыханне. Тады ўжо цвёрда вырашыў: як вырасту, абавязкова ажанюся з Марынкай.

У паводзінах маіх нешта змянілася, бо маці бегала да класнай, выпытвала ўсё. Дый мяне дапытвала: мо што баліць, мо хто пакрыўдзіў? «Не-е»,— аднекваўся. Хіба ж мог я прызнацца пра сваё каханне? Чытаў у адной казцы, як малады прынц расказаў усім пра сваё каханне і яно пакінула яго. Гэта ж тайна дваіх. Я нават ад Марынкі доўга ўтойваў гэтую тайну.

Каб жа цяпер хоць адным вокам зірнуць на яе.

Каб жа яна хоць ведала, што са мной здарылася. Мо б не так балюча і адзінотна было.

У той вечар мы разам слухалі ансамбль «Кляновае лісце». Гэта быў наш першы самастойны выхад «у людзі». Тое, што прапусціў урокі і выстаяў паўдня ў чарзе, акуплялася Марынчынай радасцю. Ёй вельмі падабаўся ансамбль. Яна ведала яго рэпертуар, сачыла за ім. І ў той вечар яна была такая шчаслівая, быццам я запрасіў яе не на канцэрт, а падараваў кавалачак сонца.

Я таксама ў захапленні ад ансамбля, але ў той вечар мае пачуцці раздвоіліся. І я нават добра не ведаў: каму больш радуюся — ансамблю ці Марынцы? Прабачце, любыя «Кляновікі», цікавейшая за вас Марынка.

Ад думак і ўспамінаў заныла сэрца. І не прыкмеціў, як закончыўся рабочы дзень і дамоў пачалі збірацца мае старыя. Першай прыйшла маці.

— Ну, як ты тут, мой нявольнік? — спыталася яна і пільна зірнула ў твар.— Потны ці плачаш, не разумею?

— Ды што ты, якія слёзы! Мужчыны не плачуць...

— Ой, мужчына мой залаты,— сказала маці і чмокнула ў шчаку.

— А ведаеш, мама,— пераключыў я гаворку на сур'ёзную тэму.— Дзвесце пяцьдзесят беззямельных калумбійскіх сялян захапілі неапрацаваныя землі і засеялі іх.

Маці пільна зірнула мне ў вочы і ціха сказала:

— Бог з імі, сынок... А ты адкуль ведаеш?

— Вычытаў у газеце.

Маці супакоілася.

— Пойдзем на кухню, нечым смачненькім пачастую,— сказала яна, і я згадзіўся.

На кухні заспеў нас бацька. Павячэралі.

— Мне трэба сёння артыкул напісаць,— сказаў бацька і зачыніўся ў сваім пакоі.

Я разумеў старога. Артыкул яму трэба напісаць. А як жа я? На мяне, выходзіць, у яго не стае часу. А карцела ж распытацца: чаму бываюць дваццацігадовыя людзі старымі, а старыя, наадварот, маладымі? Чаму нашы футбалісты ніяк не могуць стаць чэмпіёнамі? Навошта бываюць войны на зямлі? Ай, ды ці мала пра што?

У гэту ноч у мяне зноў была бяссоніца. А ў суседнім пакоі доўга не спалі мае старыя. Маці прыдзірліва шукала ў газетах заметку пра беззямельных сялян. Хацела пераканацца, што я не з'ехаў з глузду. А бацька, небарака, вымучваў артыкул аб эфектыўным прымяненні ў сельскай гаспадарцы грануляваных угнаенняў.

* * *

У нашай кватэры — дзве бібліятэкі: для мяне і для бацькоў. Тая, што для мяне, даўно ўстарэла. Былі б меншыя — брацік ці сястрычка,— ім бы пе-

райшла не толькі мая бібліятэка, перадаваў бы ў спадчыну шмоткі, свой вопыт. Раздзяліў бы вось цяпер сваю адзіноту. А то як воўк у логаве. Толькі што выць трэба навучыцца.

У старых сваё меркаванне: вучыліся-мучыліся, урэшце на пасады ўзбіліся, кватэру атрымалі, цяпер бы толькі з Сяргейкам управіцца. Дзівакі. Як жа яны могуць са мной управіцца, калі вучуся я па новай, складанай праграме. Яны мне слабыя памочнікі.

А тыя кнігі, якія бацькі збіраюць у сваю бібліятэку, я паціху «грызу» цяпер. Пасля школы паўдня ж заўсёды адзін. Хіба ведаюць яны, чым займаюся? Для мяне даўно не сакрэт байкі Эзопа, пісьмы Анны Керн, апавяданні Зошчанкі, вершы Ахматавай. Прачытаў амаль усяго Талстога, Шолахава, Дастаеўскага, Чэхава, Лондана, Максіма Гарэцкага, Кузьму Чорнага. Мо таму і «цяжкаватым» для каго-небудзь стаў? Ды я «цяжкі» з трэцяга класа. Пабег неяк у магазін па сшыткі. Забавіўся там. Гляджу, стаіць на паліцы кніжка «Вучэбны дапаможнік для настаўніка трэцяга класа». Ага, думаю, пра што ж там пішуць? Купіў. Прадаўшчыца нават і не спыталася, навошта мне такая кніжка. Ёй абы заплаціў.

Прыйшоў з пакупкай на ўрок, раскрыў пад партаю і сачу за настаўніцай: ці правільна вядзе ўрок? Разы два заўвагу рабіла:

— Што, Марозаў, заглядваеш пад парту?

— Ды... нічога... Я так...

Мяне ўпачатку вельмі крыўдзіла, калі настаўніца называла па прозвішчу. Які ж я вам Марозаў, хацеў сказаць, я ж проста Сяргей.

Ну, добра. У канцы ўрока настаўніца цікавіцца:

— Якія будуць пытанні, дзеці?

— У мяне ёсць,— падняў я руку, і настаўніца ласкава заўсміхалася. Думаю, зараз не да смеху будзе.— Вы няправільна вялі ўрок.

— Як гэта? — здзівілася яна, згубіла ўсмешку і аж пачырванела.

— А вось, у кніжцы напісана, як трэба ўрок даваць, а вы не так.

— Пакажы, пакажы...

Дзеці зашумелі. Акружылі мяне. Назаўтра ўвесь клас набыў такую кніжку. Мяне вадзілі да дырэктара, выклікалі ў школу бацьку.

А то, таксама ў трэцім класе, хадзіў сам да дырэктара. Во смяльчак! А з чаго пачалося?

Прыехаў неяк у школу інспектар з гарана. Убегла ўсхваляваная настаўніца, дрыжыць:

— Дзеткі, да нас на ўрок прыйдзе інспектар... Калі будзеце ціхенька сядзець, не дам хатняга задання...

— Ура! — загрымелі мы ўсе хорам і, як толькі настаўніца падняла руку, тут жа змоўклі.

З той настаўніцы дырыжор добры мог бы атрымацца. Пачакай, як жа яе звалі? Святлана Архіпаўна, здаецца. От галава. Але ж прайшло з тае

пары шэсць гадоў. Настаўніцы даўно ўжо няма. Мяняюцца яны школамі, як футбалісты камандамі.

Ну, добра, сядзім на ўроку, што мышы. Слухаем, запісваем, шпарым адказы. Інспектар задаволены. Настаўніца ў азарт увайшла, аж забылася пра сваю абяцанку.

— Дома, дзеці, вывучыце...— пачала яна даваць хатняе заданне.

Цяпер я разумею, настаўніца не магла не даць хатняга задання. Гэтага патрабуе методыка. А яшчэ пры рэвізоры, хіба ж можна вольнічаць?

— Вывучыце на памяць верш і прачытайце дадаткова...— працягвала тлумачыць настаўніца.

Клас наш ачнуўся і зашумеў. А я падняў руку і сказаў:

— Вы ж, Святлана Архіпаўна, абяцалі не задаваць.

У перапынку згуртаваў ля сябе самых смелых. Пайшлі ў кабінет да дырэктара і выказалі сваю крыўду на настаўніцу. Хатняга задання ён усё-такі не адмяніў, а мяне прыкмеціў.

Думаў, мо вытураць са школы ці двоечнікам зробяць. Аж не. Закончыў во васьмігодку на «выдатна» і з прыкладнымі паводзінамі.

Столькі планаў было на лета. Дык трэба сядзець дома. Каму ж пакажаш такі твар? Людзей хіба палохаць.

Цэлы дзень у пакоях — я і кнігі. Выбірай любую і чытай.

Другі дзень чытаю «Пісьмы да сына» Чэстэрфілда. Разумны англічанін жыў дзвесце гадоў назад. Як я зайздрошчу яго сыну. Ён жа амаль штодня атрымліваў ад бацькі вялікія лісты:

«Мілы мой хлопчык!

Я спадзяюся і веру, што ты будзеш не толькі маёй уцехай у старасці, але і маім гонарам, і я ўпэўнены, што стану памочнікам, сябрам і настаўнікам твайго юнацтва. Даверся мне.

...Уперадзе ў цябе багата часу, але цяпер ты знаходзішся ў такім перыядзе жыцця, калі адна праведзеная з карысцю гадзіна можа каштаваць больш дваццаці чатырох гадзін наступнага перыяду...»

Хораша пісаў свайму сыну мудрэц Чэстэрфілд. У яго пісьмах — адкрытасць душы, не павучанне, а сапраўдная вучоба.

«Асалода — гэта той рыф, аб які разбіваецца большасць маладых людзей. Не думай, што я збіраюся асуджаць асалоду. Не, я, насупраць, хачу звярнуць тваю ўвагу і рэкамендаваць яе табе, як сапраўдны эпікурэец. Я жадаю табе, каб ты чарпнуў яе цалкам, і мая адзіная мэта — зрабіць так, каб яна цябе не завяла ў зман».

Адкладваю кніжку на гэтым пісьме, заплюшчваю вочы. Мілая мая Марынка, дзе ты цяпер, чым займаешся, пра што думаеш?..

З ложка падымае мяне тэлефонны званок.

— Сынок, ну як ты? — непакоілася маці.

— Нармальна.

— Ці не галодны?

— Не.

— А чым займаешся?

— Чытаю.

— Ну то й добра. Не сумуй толькі. Да вечара.

— Пакуль.

От і пагаварылі з мамай. Цяпер яна будзе спакойная. А я?

Расказаць бы ёй пра Марынку. Ад здзіўлення адняло б мову. Маці ўсё яшчэ думае, што я магу самастойна спраўляцца толькі з лыжкай. Зноў бяруся за Чэстэрфілда.

«Ідзі за сваёй мэтай настойліва і нястомна. І няхай усялякая новая цяжкасць не толькі не пазбавіць цябе мужнасці, але, наадварот, яшчэ болей натхніць. Чалавеку настойліваму вельмі багата чаго ўдаецца...» Малайчына, Чэстэрфілд! І я так буду дзейнічаць у сваім жыцці. А разумееш, Чэстэрфілд, з якім настроем і настырнасцю рушыў бы я наперад, каб такое жывое павучанне меў ад свайго роднага бацькі? Ты не думай, граф, мой татка і мамка таксама разумныя людзі. Але ў іх няма часу на мяне. Ні ў кога яго няма. Такі наш касмічны век.

* * *

Раней дні былі імгненнямі, цяпер сталі вечнасцю.

Падумалася, што я Рабінзон Круза. Востраў — наша кватэра, усё астатняе — дом, вуліца, людзі —

мора. Яно шуміць, бурліць. Але яму ўсё роўна, што ў адной з цагляных клетак марынуе чэрвеньскія дні юнак Марозаў. Цікава, як бы апісаў Дэфо гарадского Рабінзона? Магчыма, так.

«Адарваўся Шпундзік-Рабінзон ад падушкі. Пазяхнуў на поўны рот, пачухаўся, пацягнуўся. Сонца ўдарыла ў сонныя вочы, і ён зразумеў, што дзень даўным-даўно пачаўся, што ён зноў сам-насам са сваёй хваробай і сваімі клопатамі.

Як усе Рабінзоны, Шпундзік вылез са свайго берлагу. Не прыбраў яго, бо вечарам збіраўся зноў вярнуцца туды.

Прыхапіўшы свежыя газеты і транзістар, пайшоў здабываць ежу.

За дзічынай доўга паляваць не давялося. Ён падняў накрыўку каструлі, што стаяла на газавай пліце, а там... качка. Склала, нябога, крылцы, падагнула ножкі, шыйку, бо інакш не змясцілася б у пасудзіне, і як бы кажа: «Еш мяне, Шпундзік, ачуньвай!»

Зазірнуў Рабінзон яшчэ ў адну каструлю, а там — бульба. Дэлікатэс усіх прыстойных еўрапейцаў, яна дыхала на яго цяплом і казытала ў носе, свежая і духмяная. Яшчэ ў адной каструлі быў кампот.

Не ўсцешыўшыся знаходкай, Рабінзон хватануў ручку халадзільніка, пакорпаўся там і дастаў кавалак каўбасы, слоік смятаны, свежыя гуркі. О, цяпер можна садзіцца за стол.

Прыбіраць за сабой не хацелася, і Рабінзон пакінуў на стале ўсё, што засталося пасля сняданка.

Рабінзон бязмэтна пахадзіў па пакоях. Зазірнуў у люстэрка і з агідай адвярнуўся. Падышоў да акна, залез на пісьмовы стол, сеў па-турэцку і задумаўся.

Так ён прасядзеў да абеду. Пра што былі яго думкі? Пра гэта ведае толькі сам Шпундзік-Рабінзон...»

Праўда, ні Дэфо, ні хто іншы не можа ведаць, якія думкі цяпер у маёй галаве. Іх можна даверыць толькі вернаму сябру. А ў мяне, на жаль, няма добрага і ўважлівага Пятніцы, які б бязмежна мне верыў, якому б мог даверыцца я сам.

Лета цяпер. Ні школьных таварышаў, ні настаўнікаў. Хто дзе. Яны і не ведаюць, што здарылася са мною.

Ну, а бацькі? Яны вельмі занятыя людзі.

Неяк, «рэвізуючы» хатнія камоды, напароўся на бацькавы запісныя кніжкі. З цікавасцю перагартаў іх. Там занатаваны яго дарожныя назіранні, запісаны цытаты. Запомнілася адна: «Калі захопіць цябе ідэя — натхніся ёю! Умей сабраць плады з саду свайго дзяцінства». Як жа іх сабраць?

У адным з блакнотаў знайшоў бацькавы запісы пра мяне. З прагнасцю прачытаў.

Глядзі ты, якім разумным быў я яшчэ да таго, як пачаў чытаць кніжкі. Але, напэўна, і цікавейшы быў, бо бацька запісваў мае выказванні. Яны яго

цешылі. Цяпер я з цікаўнага хлопчыка стаў «цяжкім» падлеткам, каструбаватым і замкнёным.

Правільна, замкнёным. Значыць, ёсць што замыкаць. А мо ў маёй схованцы ўсё такое, што ад лішняга позірку можа дачасна сапсавацца? Мо гэта і добра, што я замыкаюся, не паддаюся кожнаму? Бо ў дарослых свой метад выхавання. Заблытаешся.

О, пайшоў аднойчы да свайго школьнага сябра Ігара. У яго — сястрычка малая. Гаварыць толькі навучылася. Сядзім з ім, маркі разглядаем. Падбягае Волька і просіць:

— Ігаёк, мозьна паглядзець майкі?

— Можна,— спакойна адказвае Ігар.

Дзяўчынка асцярожна ўзяла ў рукі марку, а потым здзіўлена сказала, як бы сама сабе:

— А мама казая, нізя майкі б'яць, Ігай будзе біць.

То можна, то няможна. Разбярыся...

Вось сяджу ля акна «цямніцы» і перабіраю ў памяці сваіх сябрукоў.

Да трэцяга класа сябраваў з Іванкам Жданко. Такі ж клубок, як і я. Прыкаціліся мы з ім у школу з аднае вуліцы. Аднолькавыя ранцы ў нас былі: чырвона-белыя з намаляваным воўкам і зайцам, з вялізным надпісам «Ну, погоди!». Іванка горш за мяне ведаў літары, і ён той надпіс прачытаў пасвойму: «Ну, пайдзі!» Нібыта воўк і заяц кожным ранкам загадвалі яму, каб ён схадзіў у школу.

Перад першым вераснем мы з ім збегалі да на-

шага быткамбінатаўскага (а Іванка гаварыў «камбінатарскага») цырульніка, і ён нам парабіў аднолькавыя грыўкі. Касцюмы ў нас былі таксама аднолькавыя. Настаўніца падумала: браты.

Сябравалі, праўда, як браты. Заходзілі адзін па аднаго ў школу. Дамоў — таксама разам. Калі ў ранцах былі цукеркі, яблыкі ці якія іншыя прысмакі, дзялілі пароўну.

Можа б, засталіся братамі і па сёння, каб на маёй дарозе не паўстала чароўная Марынка. Сябар мой Іван не мог даравяць, што я стаў «бабнікам», і абазваў мяне аднойчы, як і ўсе абзывалі, Шпундзікам. З вуснаў сябра гэтая мянушка гучала як абраза. Вытрымаць яе я не мог. Са злосцю садануў яму пад бок добрага кухталя і сказаў:

— А ты — бочка капусная, і я з табой сябраваць не буду!

Іванка заплакаў, толькі, відаць, не ад слоў маіх, а ад кухталя. Дамоў вярталіся ў той дзень рознымі вуліцамі.

Потым прымірыліся трохі. Але не было ўжо той шчырасці і адкрытасці, з якой пачыналі сяброўства. У хуткім часе бацькі яго пераехалі ў другі горад, і з майго сэрца назаўжды выпаў першы сябар Іванка Жданко.

Новым сябрам стаў Віця Мятліцкі. Непрыкметным хлопцам быў у класе, ціхім і замкнутым. У яго — светлая галава. Правільней, у яго светлыя валасы, бо вучыўся ён не вельмі добра. Выйдзе да

дошкі, пачне гаварыць шпарка, а потым змоўкне і стаіць, моршчыць лоб. Вельмі радаваўся, калі яму падказвалі.

Віця ніколі не называў мяне Шпундзікам. Ён пачціва ставіўся да выдатніка Сяргея Марозава. А пасябравалі мы так. Мая Марынка дружыла з Валяй Коцур, а ў Вальку па саменькія вушы закахаўся быў Віця Мятліцкі.

Разам з ім пачалі адбівацца ад першачкоў, якія дражніліся: «Цілі-цілі цеста, жаніх і нявеста». З «нявестамі» хадзілі ў кіно.

Да Віцькі я спачатку прывык, а потым і палюбіў яго. І хоць ён даўно парваў «дыпламатычныя адносіны» са сваёй Валькай, мы з ім сябруем. Ён добры чалавек і вельмі здатны.

Маці дазволіла яму заняць хатнюю кладоўку. У ёй Віця абсталяваў майстэрню, якой бы пазайздросціў сам тата Карла.

Усе чатыры сцяны абвешаны карцінамі, самаробнымі чаканкамі. На адной з чаканак — дзяўчына-вясна. Калі прыгледзецца, можна ў ёй пазнаць Вальку Коцур.

— Як жа табе ўдалося такую карціну адчаканіць? — пацікавіўся я аднойчы.

— Натхненне было,— адказаў Віцька і ўздыхнуў.

Да яго, відаць, часта залятае гэтая чароўная птушка Натхненне. Бо толькі з ёй можна выпаліць з дубовага кораня прыгажуню Неферціці, змайстра-

ваць з саломкі палескага бацяна. Віцьку добра, у яго бацька вядомы ў горадзе мастак.

Цікава мне сябраваць і з Ігарам Сташынскім. У яго багата кніжак па мастацтву. Ён збірае значкі, маркі. Навучыў мяне гуляць у шахматы. Асвойваем разам гітару-сяміструнку.

У Ігара бацькі вельмі добрыя. Заўсёды рады, калі я завітаю да іх. Абавязкова пачастуюць чым-небудзь. Спачатку саромеўся, а потым прывык.

У нашай хаце трохі не так. Мо таму так рэдка ходзяць да мяне таварышы. Віцька і Ігар цяпер у піянерскім лагеры. Яны б хоць пазванілі. Сяджу вось, як арангутанг, у клетцы. То на кухню збегаю, то тэлевізар уключу, то ўсядуся ля акна і назіраю за жыццём вуліцы. Здарава, Сяргей, жывеш!

За маркотнымі думкамі зноў заспелі мяне бацька і маці.

— Ну, як тут наш нявольнік? — бадзёра выгукнуў бацька.

— Ой, сынок, ты зноў не прыбраў на стале,— занепакоілася маці. Але тут жа, бытта мне магло пагоршыць ад яе ўсчування, змякчэла і ўжо іншым тонам дадала:

— Пакажыся, пакажыся... О, дык на папраўку ідзе...

На гэтым наша размова і закончылася. Маці акупіравала кухню, бацька ўткнуўся ў свае паперы.

Разам павячэралі, разам паглядзелі трэцюю серыю фільма «Ад'ютант яго правасхадзіцельства». (Я глядзеў гэты фільм пяты раз.)

Потым кожны з нас схапіў па кніжцы, і мы кінуліся ў свае ложкі.

* * *

Кажуць, я — акселерат.

О, прыходзіць неяк мой стары дамоў і давай мяне прапясочваць:

— Ты, абібок, зусім нахабны стаў. Хоць бы матку пашкадаваў, падлогу калі памыў, дываны б вынес на вуліцу. Біцэпсы вунь якія нагуляў.

Злосць мяне апанавала. Які ж я табе абібок? Ты ж мяне выгадаваў-выкарміў такім. Ты ж захапляўся сваёй «крывіначкай», а цяпер абражаеш. А я ж не супраць, каб ты мяне і цяпер пашкадаваў, памужчынску пагаварыў са мной.

Біцэпсы нагуляў... Зайздросціш? Хто табе перашкаджае мець такія мускулы? Кволішся, а раніцай звычайную зарадку лянуешся зрабіць. З ложка на кухню і на працу.

Сцяўся ўвесь ад абразы. Ты, бацька, анічога і не бачыш, апроч непамытай падлогі. Сам няўломак.

— Мне неахвота,— ціха адказаў яму.

— Як неахвота?! — яшчэ болей азвярэў мой стары.— Ты як са мной гаворыш?

— А ты як са мной? — заўпарціўся я і вырашыў

прыкончыць яго.— Ты ведаеш, што стан маёй нервовай сістэмы вызначаецца зараз зрухамі эндакрыннага характару, у прыватнасці павышанай актыўнасцю шчытавіднай залозы, з'явамі своеасаблівага ўзросткавага тырэатаксікозу...

Я сам толкам не ведаў, што сказануў. Гэта медыкі сцвярджаюць, нібыта ў нашым узросце парушаецца ўзбуджальнасць цэнтральнай нервовай сістэмы: моцныя раздражняльнікі выклікаюць слабы эфект, а слабыя — моцны. Але як бы там ні было, бацька моцна «ўзбудзіўся» на мой спакойны пратэст.

Паміж намі стала маці. Яна хоць і слабы пол, але мацнейшая за бацьку. Па-мойму, даўно вярнуўся да нас матрыярхат. Мужчыны толькі фанабэрацца, што барада ў іх расце.

На бацьку не пакрыўдзіўся. Ён умее толькі пакіпець калі-небудзь, але ніколі не апарыць. Ён жа разумны чалавек і ведае, што дзяцей бізуном даўно ніхто не выхоўвае. Зразумеў я гэта змалку і таму ўпэўнена адчуваю сябе.

Няўпэўненасць падкралася да мяне з іншага боку. Пасля экзаменаў за восьмы клас і пасля той бойкі ў парку, як ніколі дагэтуль, уявіў сабе, што вельмі хутка магу аказацца выпіхнутым «у людзі». Прыйдзецца пакінуць цёплую буслянку і паляцець у іншы горад.

Ды я і цяпер гатовы. Але ж хіба маім старым што-небудзь дакажаш. «Канчай дзесяць класаў і

думай пра інстытут»,— вось іх катэгарычная заява. Тут яны — аднадумцы.

Ну добра, дзесяць дык дзесяць, хай будзе па-вашаму. Толькі ад гэтага вялікі пытальнік, які павіс над маёй галавой, не знік. Ён асеў у маёй галаве.

Дык кім бы мне хацелася быць на гэтым свеце?

У першым класе ўпэўнена ведаў сваё жаданне: буду мастаком. Штодня крэмзаў паперу: то алоўкамі, то фламастэрамі, то фарбамі. Мае няхітрыя малюнкі катоў, дамоў, дзяўчынак і машын былі не толькі ў альбомах. Імі былі ўпрыгожаны мае кніжкі і сшыткі.

Другі клас не ўнёс папраўкі. Змянілася толькі тэматыка. Часта пачалі лятаць касманаўты, па некалькі чалавек адразу. І космас запаланіў мяне. Так быў захапіўся ім, што ўсур'ёз пачаў падумваць, як бы вывучыцца на касманаўта. Нават пісьмо напісаў у Зорны гарадок.

У трэцім класе бацькі сагітавалі пайсці ў музычную школу. Новы занятак захапіў мяне. Уяўляў, як стану вялікім музыкантам, Моцартам ці Паганіні. Усе будуць зайздросціць, будуць шукаць лішніх білецікаў на мае канцэрты, як я цяпер у цырк. Я пераеду жыць у Маскву і калі-небудзь наведаюся на чорнай «Волзе» ў свой горад. Вазьму яшчэ з сабой маскоўскіх клоунаў, і наладзім вясёленькі канцэрт у нашым Палацы культуры.

Я так аднойчы задумаўся пра сваё выступленне, што не прыкмеціў, як на мяне наехала машына. Бу-

дучага вялікага музыканта выхапілі з-пад колаў жывым. А вось скрыпка разам з футаралам была раструшчана. Месяц праляжаў у бальніцы: быў вывіх ключыцы і трэшчына на правай руцэ. Тады нават не ўяўляў яшчэ, што машына не проста наехала на мяне, а наехала на маю залатую мару. Новую скрыпку мне не куплялі, і я не настойваў.

Усё лета перад чацвёртым класам правёў у бабулі Хрысціны. Разам з малінаўскімі хлопцамі хадзіў у грыбы і ягады, купаўся ў сажалцы. А самае галоўнае, яны ўключылі мяне ў сваю футбольную каманду. Я больш-менш навучыўся гуляць і нават забіваць галы. Такую ж каманду арганізаваў у горадзе, ля свайго дома. І пачаў падумваць, як бы стаць футбалістам.

Пра маю задуму даведаўся бацька.

— Што? Футбалістам?! Ні ў якім разе! — рашуча запратэставаў ён.

Рос я паслухмяным і ўвесь пяты клас прахадзіў з бацькоўскай марай — стаць настаўнікам. Аднойчы Антаніна Іванаўна, наша гістарычка, даверыла мне весці ўрок. Ёй трэба было тэрмінова адскочыць некуды, і яна пасадзіла на сваё крэсла мяне.

— Вучні,— звярнулася яна да класа,— я павінна вас пакінуць на нейкі час. Сяргей Марозаў прачытае вам той матэрыял, які стане вашым хатнім заданнем. Калі сустрэнеце незразумелае, я падыду ў канцы ўрока, і разбяром. Добра? Толькі не шуміце.

Як толькі Антаніна Іванаўна выйшла з класа, Мішка Рагаль шпурлянуў у мяне скамечанай, аслюняўленай прамакаткай. Калі б я не сядзеў на настаўніцкім крэсле, я таму Мішку Рагалю павярнуў бы галаву назад. Але моўчкі абцёрся і пачаў чытаць тыя старонкі з падручніка, на якія паказала настаўніца.

— Шпундзік, будзь сябрам, пастаў мне пяцёрку,— азваўся Мішка і зарагатаў.

— Сяргей Сямёнавіч, давай закурым,— унёс прапанову Сяргей Міронаў, а Стась Яськаў падняўся з-за парты, пачырванеў і ўзяў палец у рот.

— Таварыш Марозаў,— пачаў ён жаласлівым голасам.— Дазвольце, калі ласка, мне выйсці. Вельмі патрэбна...

Клас выбухнуў дзікім рогатам. Але тут паднялася мая Марынка і сказала:

— Як вам не сорамна? Не паважаеце Сяргея, дык паважайце Антаніну Іванаўну. Яна ж прасіла ціха сядзець.

Клас прымоўк. Дзякуй табе, Марынка, выручыла.

З таго майго настаўнічання зразумеў: у настаўнікаў цяжкая работа. Я катэгарычна заявіў сваім бацькам, што ніколі ў жыцці не пайду вучыцца на настаўніка.

Цяпер на пытанні бацькоў, кім я ўсё-такі хачу быць, адмахваюся:

— Ай, кім-небудзь буду... Паспею яшчэ выбраць...

Мой флегматычны адказ, бачу, нервуе бацькоў. Яны мо думаюць, што я буду сядзець на іхнім карку да старасці. Як жа яны памыляюцца! Ды я не магу дачакацца таго шчаслівага моманту, калі вылузнуся з-пад іх апекі.

* * *

Сягоння я малайчына, пай-хлопчык. Устаў — прыбраў ложак, паснедаў — памыў посуд. Напаіў халоднай вадой кактусы. Уключыў пыласос і прагудзеў па ўсіх пакоях. Гэта адняло ў мяне гадзіну часу.

Мне ніколі не шкада гэтай гадзіны. У мяне не тое, што ў дарослых,— хапае часу на ўсё. Толькі не падабаецца, калі мной панукаюць, калі не просяць, а загадваюць.

Сягоння ніхто не загадваў, ніхто не прасіў. Сам падахвоціўся папрацаваць і за гэта аж падхваліў сябе. А потым стала брыдка. Я прыгадаў, як мой стрыечны брат Сашка называў хатняе прыбіранне «бабскай таўкатнёй». Сашка ведае толк у працы. Як бы мне хацелася апынуцца зараз у Карпілаўцы, пабачыцца з бабуляй Анютай, пагаварыць з Сашкам!

Прылёг на канапу. Падклаў пад галаву трэці том Джэка Лондана. Чытаць не хацелася. Заплю-

шчыў вочы, і памяць вярнула ў палескую вёску Карпілаўку, дзе мінулым летам быў цэлы месяц.

У вёсцы, як я сябе памятаю, бываў штогод. Але такой асалоды, як тым летам, раней не адчуваў. Відаць, усё таму, што з Сашкам мы пасталелі. З'явілася новая цікавасць да ўсяго. Іншымі вачыма глядзім на белы свет.

Карпілаўка — невялічкая вёсачка. Ні школы, ні клуба там няма. Вучні ходзяць на заняткі за тры кіламетры, а кіно прывозяць раз у месяц. Я доўга не мог зміырыцца з тым, што вясковая вуліца не асфальтаваная, ваду трэба выцягваць з калодзежа. А самае страшнае ўночы, калі ўзнікае патрэба: збірайся і ідзі за хлеў, непадалёк ад якога пачынаецца густы бярэзнік.

Летась да мяне дайшло, што вёска Карпілаўка — цудоўная мясціна. Урэшце зразумеў бабулю Анюту, якая звекавала тут і не хоча пераязджаць у горад. «Я ж, мой сынок,— гаварыла яна майму бацьку,— задыхнуся тамака ў вас, як рыбачка на беразе. Што я ў вас рабіць буду?..»

Якая разумная бабуля. Я толькі пяты дзень дома і то адчуваю цяжкасць: ад думак і адзіноты. А мы ёй прапаноўвалі такое гасцяванне на гады.

У горадзе хадзі толькі там, дзе асфальт пракладзены. Пераходзь вуліцу там, дзе табе паказана.

У вёсцы — вольніца. Апошнім летам аж пазайздросціў Сашку. Ён — мой аднагодак, а на вясковым прасторы выглядае больш сталым і разважлі-

вым. Мужчына, можна сказаць, а я супроць яго — шкет.

У нашым горадзе ранняй вясной прадаюць доўгія цяплічныя гуркі. Яны хоць і вялізныя, але вадзяністыя, як бы штучныя. У вёсцы гуркі з'яўляюцца пазней, у чэрвені. Але ж яны выспелыя, крамяныя. Прыемныя і смачныя.

Нешта падобнае і ў нас з Сашкам. Побач з ім адчуваю сябе трохі цяплічным чалавекам, напоўненым кніжнымі ведамі. Сашка ж спасцігае іх паступова, сталее, набываючы сялянскую мудрасць.

О! Пракручу зараз у памяці адзін дзень з карпілаўскім Сашкам.

— Уставай, санюга,— штурхае ён мяне пад бок і хітравата ўсміхаецца.

Мне ж неахвота ў такую рань пакідаць цёплую коўдру. Але побач стаіць Сашка. На ім — бацькава гімнасцёрка.

— Дамаўляліся ў грыбы? — нагадвае ён учарашнюю вячэрнюю размову. Для Сашкі слова — закон.

— Уга,— адклікаюся з-пад коўдры.

— Ну дык уставай,— кажа ён.

Цёця Надзя, Сашкава маці, падае мне старыя штаны, кашулю, пінжак, гумовыя боты з анучамі.

— Ай, хіба так круцяць? — не вытрымлівае Сашка.

Зрывае з мае нагі анучу, сцеле на падлозе.

— Стаў нагу... О так, загортваеш ражок анучы

пад падэшву, потым р-раз... і сюды...— вучыць ён, і я ў які раз захапляюся маім братам: усё ўмее рабіць.

Ухапілі кашы і — за прыгуменне. Росны бульбоўнік стукае па каленях. Ногі як спутаныя. А Сашку, адчуваецца, лёгка ісці. Перад ім нібыта расступаецца бульбоўнік.

— Ну, прачнуўся ўжо? — падміргвае ён, і ў гэтым падбадзёрванні адчуваю ўвагу не проста Сашкі, а майго апекуна, майго целаахоўніка. Мне здаецца, Сашка можа выручыць з любой бяды.

— Прачнуўся. Бач, і сонейка прачынаецца,— азываюся я і захапляюся ранішняй пазалотай. Яна рассыпалася па вяршалінах бярэзніку, па дахах хат. Сонца — у кожнай кроплі расы. Шкода ступаць па такой прыгажосці. А ў Сашкі свой клопат:

— Ты ж хоць не згубіся ў лесе. Далёка не адыходзь...

— Слухай, а ты басанож ідзеш? — толькі цяпер заўважыў я.

— У мяне ногі, як у паляўнічага сабакі,— жартуе Сашка.

— Холадна?

— Не, прывыклы... Пачакай, па гурку прыхопім.

Сашка лезе рукой пад лісты агурочніку і выцягвае адтуль два тоўстыя гуркі.

— Трэба маці падказаць, каб выбірала,— заклапочана гаворыць ён.— А то жаўцець пачынаюць...

У лесе Сашка, што рыба ў вадзе. А ногі, сапраўды, як у ганчака нюх. Так і кіруюць туды, дзе растуць грыбы.

Я збіраю ў кош усё, што трапіцца пад рукі, а Сашка — прафесіянал: выбірае баравікі, падасінавікі. З сыраежак бярэ толькі зялёныя, тоўстыя. Не грэбуе рыжыкамі. Усё астатняе з прысвістам падфутбольвае. Ён пацвельваецца з мяне:

— О, дык ты болей за мяне нарэзаў. А яшчэ прыкідваўся, што не ўмееш збіраць.

З лесу вяртаемся стомленыя, але задаволеныя. Сняданак чакае нас. Дружным гуртам абсядаем стол: цёця Надзя, дзядзя Федзя, бабуля Анюта (яна жыве ў сваёй хаце, але на сняданак прыходзіць калінікалі да сына), Сашка, я, дзве яго меншыя сястрычкі і кот Базыль.

— Глядзі, назбіралі ж трохі грыбоў,— дзівіцца бабуля Анюта і тым часам як бы падхвальвае нас.

— Стаміўся? — пытаецца ў мяне дзядзька Федзя.

— Так, трошкі,— адказваю я і адчуваю, як здрадніцкая чырвань распаўзаецца па твары. Гэта ж [illegible] павінен быў спытацца ў дзядзькі Федзі. Ён падняўся досвіткам — хадзіў касіць. Пакуль мы прагульваліся па лесе, ён сапраўды намахаўся касой.

— Грыбы яшчэ слаба растуць. Каласавічкі толькі пракідаюцца. Пад восень, во гэта грыбы,— кажа дзядзька Федзя і звяртаецца да Сашкі: — Удзень сходзіш на Кашавараў хутар, павернеш пракосы.

Такой спякотай хутка падвяльвае. Заўтра мо ўправімся і згрэбці.

Сашка не пярэчыць. Ён маўкліва мачае тоўстым блінцом у патэльню са скваркамі. І мне падабаецца, што бацька пазірае на яго, як на сталага працаўніка, свайго памочніка.

Пасля сняданка непаседлівы Сашка ўздумаў майстраваць клетку для трусоў. Насцягваў з гары дошак. Ухапіў пілу, малаток, гэблік, цвікі.

Ён старанна ўвіхаўся з інструментам і ўсё насвістваў «Сямёнаўну». А потым, як убачыў, што атрымліваецца ладная клетка, заспяваў.

— А ў цябе сапраўды ёсць Сямёнаўна? — даверліва папытаўся ў яго.

— Хэ, пытаеш... А ў цябе?

— І ў мяне,— прызнаўся я і пашкадаваў, што побач няма маёй Марынкі. Сашка б ахнуў ад яе прыгажосці.

— На, папрацуй,— сказаў Сашка і перадаў мне чатыры цвікі і малаток.

Я пачаў прыбіваць дошкі да бакавой сценкі клеткі. Тры цвікі былі паслухмяныя, а чацвёрты заўпарціўся. Пачаў падпраўляць сагнутую плешку, ударыў з размаху, а малаток саскочыў з цвіка і мне па пальцы.

— Ох, ёй-ёй!..— не вытрымаў я.

— Трывай, трывай, Сяргей... Пройдзе,— суцешыў Сашка.

Было сорамна плакаць. Стрымліваў сябе, а слё-

зы самі пакаціліся па шчоках. Сашка выцер іх, і гэта мяне расчуліла яшчэ болей: недарэка, нічога толкам не ўмею рабіць.

Сашка злётаў у хату і тут жа вярнуўся з гусіным шмальцам, кавалкам белай анучы. Перавязаў палец. Я пачаў гушкаць, як малое дзіця, балючую руку. А Сашка зноў узяўся майстраваць клетку. Толькі цяпер ужо не спяваў, а гаварыў са мной.

— Цябе бацька лупцаваў калі-небудзь?

— Ты што, хіба дзяцей можна біць?

— Хэ, біць нельга, скуру драць можна,— па-сталаму разважыў ён.

— Няўжо дзядзька Федзя можа?

— Ого, два разы так укапнуў, будзь здароў.

— А за што ж ён так?

— Ды ўсё з-за маіх дурыкаў. Малы яшчэ быў. Палез неяк у Сцяпанішын агарод і пазразаў сланечнік. Семак чорных захацелася. Ну, дык яны мне бокам і вылезлі. Сцяпаніха даведалася, што гэта мая работа, і пажалілася бацьку, а той доўга не думаючы, ухапіў пастронкі і адсвянціў. Дзесятаму заказаў не лазіць па чужых агародах...

— Моцна балела?

— Пытаешся! Цэлы тыдзень абедаў стоячы.

Сашка разгаварыўся. Я разумеў: гэта каб я забыўся пра сваю балячку.

— Ну, а другі раз за што цябе білі?

— За доўгі язык,— адказаў Сашка, паклаў убок малаток, сеў і засмяяўся.— Я не помню ўжо, у пя-

тым ці то ў шостым класе вывучалі па батаніцы тэму: «Два спосабы размнажэння раслін».

— Ага. Гэта ў шостым. Называецца «Размнажэнне семянное і вегетатыўнае»,— падказаў я і, задаволены сваёй светлай галавой, ямчэй усеўся на бярозавым цурбане.

— Дык вось,— казаў Сашка далей,— настаўніца тлумачыла-тлумачыла ўрок, а я потым падняў руку і кажу: «Я ведаю трэці спосаб размнажэння». Ну, клас і ўзарваўся. Усе такімі нязнайкамі прыкідваліся. А то нешта вельмі зразумелае ўсім нагадаў. Урок сарваўся. Бацьку майго паклікалі да дырэктара. Вярнуўся дамоў хмара-хмарай. Каб я, кажа, з-за цябе ногі свае стоптваў? Ухапіў нейкую вяроўчыну дый пачаў хвастаць і прыгаворваць: «Я зараз цябе размножу на тысячу частачак. Эйч, разумнік...»

Сашка пасмяяўся трохі, а потым сур'ёзна заўважыў:

— Так што, была мне лупільня. Твой палец супроць бацькавай вяроўкі — нішто.

— А ён і не баліць,— весела азваўся я і, каб прадоўжыць Сашкаў расказ, пахваліўся: — Пра размнажэнне я чытаў адну кнігу. Бацька аднекуль прынёс.

Мы закончылі майстраваць клетку. Перанеслі з хлява трусікаў, пасадзілі іх у новы домік. Яны смешна абнюхвалі сцены, тыцкаліся сваімі вусатымі мордачкамі да кратаў.

— Есці хочуць,— здагадаўся Сашка.

Ён ухапіў бацькаву касу і посцілку. Выбеглі на прыгуменне. Сашка махнуў некалькі разоў на лапіку, дзе расла канюшына, і пачаў збіраць траву.

— Дай я паспрабую касіць,— папрасіў Сашку.

— На,— абыякава адказаў ён.

Я ўзяўся левай рукой за кассё, правай за ручку, растапырыў ногі і, кропля ў кроплю як Сашка, размахнуўся. Каса прайшлася па мураве і ўваткнулася ў зямлю.

Сашка пачаў вучыць мяне. Разам мы і зламалі касу. Перапалохаўся я да смерці. Ну, думаю, Сашку трэці раз будуць лупцаваць, а мяне — першы. Аж усё абышлося. Дзядзька Федзя пацмокаў языком, добрая каса была, а мне сказаў, усміхаючыся:

— Ніякая навука дарам не даецца.

І я падумаў: дзядзька Федзя не такі ўжо страшны, як распісаў пра яго Сашка.

Пасля абеду мы ўзялі з Сашкам граблі і пайшлі на Кашавараў хутар варочаць сена. Я думаў, гэта недалёка, а хутар той аказаўся за чортавым царствам.

Вярталіся дамоў надвячоркам, разамлелыя і прытомленыя. Сашка зноў разгаварыўся.

— Ты кім хочаш быць? — даверліва спытаўся ён.

— Хто яго ведае. Багата кім хацеў стаць, а цяпер расчараваўся.

— А я хачу — будаўніком,— уздыхнуў Сашка.— Уяўляеш, дамы для людзей будаваць, заводы, пала-

цы. Я мо ўгаварыў бы сваю брыгаду, прыехалі б, адбудавалі школу альбо клуб у нашай вёсцы. Як бы ўсе былі рады!..

Зайздросціў Сашку, калі ён гаварыў пра сваю мару. Яна ў яго ёсць. Ён верыць у яе. І я веру, бо Сашка ўжо змалку будаўнік.

Як помню, ён цягаў мяне ў кар'ер, і мы там узводзілі з пяску цэлыя паселішчы. Потым уздумаў ён рабіць машыну. Мы адпілавалі чатыры дубовыя круглякі. Яны павінны былі стаць коламі. Сашка цэлымі днямі габляваў дошкі, дошчачкі, планкі. Дапамагаць яму ў мяне не было ахвоты, а адзін ён памудрагеліў тыдні са два над сваім «перпетуумам», а потым пасек.

— От каб схема была, каб чарцёж дзе раздабыць,— гаварыў Сашка.

І я верыў: каб яму чарцёж, ён абавязкова склаў бы не машыну, а касмічны карабель.

Заўважаў, Сашка моцна трымаўся сваёй мары. То мацеры палічкі абсталюе ў склепе, то будан зробіць за хлявом і там начуе, то лаўку падправіць, каб не хісталася, то шпакоўню змайструе.

— Ты малайчына, Сашка. Будаўнікі — людзі паважаныя,— разважыў я, як стары, і прыкмеціў, што мая заўвага Сашку спадабалася.

— Нічога, Сяргей, ты таксама кім-небудзь станеш. Мо вучоным якім. Усё кніжкі грызеш ды чыста ходзіш.

...«Чыста ходзіш»,— прыгадаліся цяпер Сашка-

вы словы і круцяцца ў галаве, гучаць як дакор, як нейкі прысуд майго вясковага брата. Мне так захацелася расказаць яму, што было ў парку. Я нават не пасаромеўся б паказаць яму свае фінгалы. Сашка зразумеў бы мяне.

Я падняўся з канапы, пахадзіў па пакоях. Зазірнуў у люстра і таму пабітаму хлюсту, што з'явіўся ў ім, ляпнуў у сківу.

Як галодны, накінуўся на трэці том Джэка Лондана. Магчыма, Сашка і правільна прыкмеціў: мо ў кніжках адшукаю сябе самога?

* * *

— О, сябрук мой Сярожа! — сказаў бы добры Хатабыч.— Карабель нашай адзіноты падплывае да шчаслівага берага Двух Выхадных.

Мы з Хатабычам кінуліся б у скокі, загарланілі «ўра». А ён раптам паднёс бы тонкі, высахлы палец да свайго рота і таямніча сказаў бы:

— О! Найшаноўнейшы Шпундзік!.. Э-э-э, прабач... О! Найсвятлейшы Сяргей Марозаў, на шчаслівым беразе Выхадных чакаюць нас новыя адкрыцці, цікавыя сустрэчы. Рыхтуй для іх мех тваіх пачуццяў!..

Дзіўны і мілы Хатабыч, мой мех пачуццяў ужо даўно перапоўнены. Мне ўжо надакучыла збіраць туды ўсякую ўсячыну. Я ж чакаю выхадных, каб

трохі растранжырыць назапашаныя пачуцці, раздаць іх.

Суботу не лічу выхадным. Для нас, вучняў, гэта звычайны рабочы дзень. От дзе яшчэ адна несправядлівасць. Чаму на нашы плечы валяць такі цяжар? Гэтак жа згарбацець можна.

Для дарослых, гляджу, субота таксама ніякі не выхадны. Мае старыя праводзяць у гэты дзень генеральнае прыбіранне ў кватэры. Маці мые бялізну, наварвае яды. Тым часам старыя гавораць паміж сабой. Галоўныя тэмы ў іх — грошы і я.

Грошай, як я заўважыў, нам заўсёды не хапае. Зарабляюць двое, а пускаюць у абарот — трое. Ну, а я чаму ў іх на языку? Мне іншым разам здаецца, што яны памылкова набылі мяне. Спачатку пазабаўляліся, быццам з цікавай цацкай, а потым цацка ажыла і схапіла іх, як Бураціна тату Карла, за нос. Вось яны і занепакоіліся: брыдка, калі цябе па носе лэпаюць, і не адкінеш, бо гэта ж родная крывіначка. І не ведаюць, што рабіць, як быць. Самому даводзіцца наводзіць масты.

О, паслухайце, за што яны счапіліся на гэты раз.

— Вы як прынялі Валянціну Іванаўну?

— Якую? Дакторку...

— А-а-а...

— Я папрасіла, каб агледзела Сярожку. Думаю, каб страсення не было ці пераломаў. А вы як сустрэлі? Прыйшла жанчына да мяне, трасецца ўся.

— Ды нічога такога не было.

— Як жа не было, калі яна пыталася, як я з такімі грамацеямі жыву?

— Падумаеш, прафесарка аб'явілася.

— А ты і такую не паклікаў да сына.

— А ты залішне квохчаш над ім. Раз ён папрасіў, каб не выклікалі доктара, значыць, і яго трэба паслухаць.

— Выхавацель вынайшаўся. Ты ж сына бачыш раз у тыдзень.

— А ты далей кухні нічога не бачыш.

— Дзякуй за ласку. Ды вы без мяне даўно б загінулі.

Сямейны канфлікт набываў зацяжны характар, абвастраўся. Дарослыя — упарты народ. Ніхто першы здавацца не хоча. Тым больш, яны ўзнялі зараз адвечную тэму: хто ў доме галава?

З тае пары, як я пачаў нешта кеміць, спрэчкі старых, чым бы яны ні пачыналіся, заўсёды заканчваліся высвятленнем гэтага пытання. Мне дык трохі дзіўна, як яны не могуць уразумець святую ісціну: у калектыве павінен быць лідэр. Да чаго ўжо ў нашым двары розныя хлопцы, а ўсё роўна ёсць лідэры. Колькі лідэраў, столькі і калектываў. У адным гурце двух важакоў не бывае.

У нашай сям'і заспрачаліся двое, значыць, бараніць іх трэба трэцяму. Ён павінен быць у тое імгненне праўдзівым суддзёй. На тым трэцім у хвіліны шторму ляжыць вялікая адказнасць: захаваць калектыў.

І вось я кідаюся на кухню, дзе бушуе ўжо дзевяты вал канфлікту.

— Добры дзень, мама. Добры дзень, тата,— гавару спакойна і, як выхаванае дзіця, падыходжу да кожнага з іх і чмокаю ў шчокі. Мама і тата адразу ж лагодняюць.

На кухні ўсталёўваецца цішыня. Але гэта толькі знешняя супакоенасць. Трэба тушыць пажар унутраны.

— Мама, ты прабач, я, відаць, пакрыўдзіў тваю дакторку. Але я невінаваты,— пачаў гаворку і адчуў, як у маці святлее твар, як радасна засвяціліся татавы вочы.— Прыходзіць, разумееш, і пытаецца: «Дзе ж мы папсавалі свой тварык?», «Хто гэта вам такія фінгальчыкі падараваў?» Мне яна адразу не спадабалася. Хіба ж можна так абражаць хворага чалавека? Ну, я ў яе і пытаю: «А вы, выпадкова, не вывучалі ў інстытуце дэанталогію?» Бачу пачырванела дакторка. Я ж якраз чытаў артыкул акадэміка Амосава, у якім ён пісаў пра дэанталогію. Гэта спецыяльная навука ў медыцыне пра тое, як трэба гаварыць з чалавекам, каб не параніць яго словам, а, наадварот, мабілізаваць да актыўнага жыцця.

— Ой, Амосаў ты мой дарагі,— усміхнулася маці і прыгарнула да сябе, потым сустрэлася з бацькавым позіркам, пасур'ёзнела і сказала яму: — Так бы і растлумачыў...

Маці адпускаецца і пачынае даставаць абед.

Мы з бацькам раскладаем лыжкі, відэльцы, талеркі, наразаем хлеб.

— Сёння я вас такой смакатой накармлю, пальчыкі абліжаце,— гаворыць мама, і я адчуваю, што яна болей не сярдуе.

Сядзім за сталом. Бацька на сваім месцы ля акна, я — пасярэдзіне, а мама бліжэй да пліты. Ядзім са смакам абед і вядзём гаворку пра тое-сёе. У такія хвіліны спакою я неяк фізічна адчуваю, што бацька ёсць бацька, а маці ёсць маці. А мне, як ніколі, хочацца быць у такія імгненні іх маленькім сынком...

Субота заканчваецца. Мы па чарзе лезем у ванну. Як джэнтльмены, маму прапускаем першай. Потым мая чарга. Бацька — апошні. Сядзім там падоўгу. Кожны прыхоплівае кнігу альбо пачак газет.

Кніжкі, газеты ў нашай кватэры ўсюды: у зале — на журнальным століку, у спальнях — пад падушкамі, на кухні. Да ўсёй кніжнай ідыліі дапасоўваюцца каляровы тэлевізар, стэрэарадыёла, магнітафон, транзістар і тэлефон. З гэтымі сямейнымі кампаньёнамі ўсе мы моцна звязаны.

Уяўляю сабе катастрофу: па ўзмаху чароўнай палачкі з нашай кватэры знікаюць кніжкі, газеты і ўся гукавая тэхніка. Гэта ж зацьменне сонца, засуха, галадоўка! Мы ў такой сітуацыі сталі б голымі каралямі. А кватэра наша ператварылася б у пячору продкаў, абстаўленую, на дзіва, паліраванай мэбляй, упрыгожаную дыванамі, карцінамі, люст-

рамі. Пра такую багатую пячору мо і марылі першабытныя людзі?

А мо і ў нашы дні багатая пячора — райскі куток для каго-небудзь? А ці няма такіх пячор у нашым доме, у суседнім горадзе?

З гэтымі жахлівымі думкамі заплюшчваю вочы. Але сон доўга не прыходзіць да мяне. Упершыню за пятнаццаць гадоў падкралася і да мяне бяссонніца. Яшчэ не ведаю: ці радавацца мне гэтаму, ці прасіцца на прыём да доктара?



Сам бог, кажуць, спачываў на сёмы дзень стварэння свету. З тае далёкае пары і існуе божая нядзелька. Так тлумачыла мне з'яўленне нядзелі малінаўская бабуля Хрысціна.

Прыкмеціў, колькі б работ ні адольвалі маю бабулю, яна заўсёды трымаецца «божага запавету». У нядзелю адзяе чысцейшую сукенку, пячэ пульхныя блінцы, яечню. І маршчыны яе, здаецца, разгладжваюцца ў нядзельны дзень, і больш гаварлівай становіцца, дабрэйшай.

У нашай гарадской кватэры нядзеля таксама дзень адпачынку. Каб хто карміў, дык з ложкаў бы не вылазілі. Асабліва старыя. Яны такой думкі, што нядзеля якраз для таго, каб адлежацца, адаспацца, пабыць сам-насам, супакоіць нервовую сістэму.

Калі я быў меншы, сваю нядзелю яны прысвя-

чалі мне. Вадзілі ў парк, у кіно. Не праміналі ранішнікаў у Палацы культуры. Ездзілі ў лес, на рэчку. Цяпер яны пазбавіліся гэтых клопатаў. За ручку вадзіць мяне не трэба. І слаўненька. Можна займацца, чым душа пажадае.

Бацькава душа засаджвае яго за пісьмовы стол, і ён нешта творыць для яе, а не для газеты.

Маміна душа — прытулак самых розных жаданняў. Калі яна з ахвотай бярэцца за кухарства, то мы доўга помнім яе абед. Калі садзіцца ля швейнай машыны, то і тут яна сапраўдны творца, пашые што хочаш. Калі яна з любімай кніжкай, то можна пазайздросціць, як яна пранікнёна чытае: смяецца, не стрымлівае ціхіх слёз, усміхаецца, моршчыць лоб.

Мая ж душа заўсёды рвецца на волю. Туды, дзе няма ўважлівага бацькоўскага вока. Пасля снедання мяне толькі і бачылі ў кватэры. З Віцькам Мятліцкім ці з Ігарам Сташынскім ходзім у кіно. А то збіраемся гуртам у парку, ля помніка Янку Купалу, і гаворым пра жыццё-быццё.

Дарослыя, калі бачаць наш гурт, думаюць: шалапаі. Збоку мо і так. Джынсавая лахматая кампанія. Мішка Рагаль і Стась Яськоў кураць. Усе могуць дзіка зарагатаць альбо паваліць Сяргея Міронава і надаваць кухталёў за тое, што занадта языкаты. А што? Правільна, языкатых трэба вучыць.

А каб жа ведалі дарослыя, пра што наша гаворка, пра што наш клопат!

Няма на свеце тэмы, якая б не хвалявала нас. Можам заспрачацца, ці ёсць жыццё на Венеры? Ці была замужам наша хімічка Алена Віктараўна, чаму яна носіць залаты пярсцёнак на левай руцэ? Гэта для нас такая ж тайна, як і крылатыя ракеты.

Апошнім разам завяліся наконт нейтроннай бомбы.

— Братва, чулі? Амерыканцы нейтронную бомбу хочуць зрабіць.

— А якая тая бомба?

— От тумак, як ты да дзевятага класа дапоўз?

— Ты ўжо Эйнштэйн...

— Не вучоны, але ведаю, што калі гахне тая нейтронка, дык ты, Хамяк, не паспееш і хаўкнуць. Растлумач, Шпундзік.

— Слухай, Хамячок, малекулярная твая душа. Радыеактыўнае выпраменьванне складаецца з бэта і гама-прамянёў, якія імчацца з шалёнай хуткасцю і знішчаюць усё жывое на сваім шляху.

— Нават кітоў?

— І ў цябе, Бармалей, клёпак не хапае. Ды кітоў ужо амаль усіх без нейтроннай бомбы ўхайдокалі. Газет не чытаеш.

— А схавацца можна ад той шалёнай маланкі?

— Паспрабуй, Хамяк. Толькі зараз ідзі, зашчаміся ў нару і не дыхай.

— Хлопцы, давайце яму ўсыплем на дарожку. Каб сядзеў у сваёй кратоўцы і чухаўся.

— Ну, ты, Бамбавоз, не лезь, па носе атрымаеш.

— Што вы завяліся?..

— Чуйце, а я вычытаў у адной кніжцы, што кожны атам — гэта маленькая Сонечная сістэма. «Сонцам» служыць ядро, якое ўсярэдзіне атама. «Планеты» — электроны, якія круцяцца вакол ядра па сваіх арбітах.

— Гэта цікава...

— Ой, мамачкі!..

— Што з табой, Хамяк? Мо цыгарэту праглынуў?

— Не-а, хлопчыкі... Я, здаецца, зрабіў адкрыццё.

— Ну дык хрысціся, калі здаецца...

— Не, вы паслухайце, а калі наша Сонечная сістэма не што іншае, як вялізны атам? Нейкі разумны злыдзень з Галактыкі возьме расшчэпіць наш «атам» — і палясцім усе мы з вамі гама-праменямі з хуткасцю бліскавіцы ў бязмежныя прасторы.

— Ну, у цябе не галава, а цэлая акадэмія. Думай цяпер, як перадаць сваё вынаходніцтва галактычанам.

— Табе, Хамяк, мо не ў дзевяты клас трэба клыпаць, а адразу ў аспірантуру? На, пацягні «сцюардэсіну», мо яшчэ што змікіціш.

— Я таксама нешта прыдумаў... — сказаў Віцька Бармалей.

— Ды вы што, эйнштэйнавай кашы ўсе наеліся?

— Давайце напішам заморскаму прэзідэнту пісьмо.

— Апупеў ты, Бармалей.

— Пачакай, паслухай. Складзём пасланне, як некалі запарожцы турэцкаму султану...

— Ты што, захацеў, каб цябе са школы вытурылі?

— Не вытурацць... Нам яшчэ помнік зварганяць.

— Чаго захацеў.

— А што?! І будзем жыць у бронзе вечна.

— Ты хоць у малекулах пражыві...

Той гаворцы не было б канца. Але трэба было ісці дамоў. І так спазніўся на абед.

— Дзе быў? — папыталася маці.

— Гуляў з хлопцамі.

А што я мог болей адказаць?

Так праходзілі мінулыя нядзельныя дні. Гэтага ж выхаднога дня чакаў з асаблівым хваляваннем, бо адзінота і думкі, якія адольвалі ўвесь тыдзень, прывялі да мяжы роспачы. І я вельмі рады, што надзеі апраўдаліся. Мой ласкавы Хатабыч, паслухай, да мяне сапраўды наведаўся шчаслівы дзень. Зараз раскажу.

Раніцай падышоў бацька і па-змоўніцку прашаптаў:

— Прачынайся, Сяргей! Ідэя адна ёсць.

— Якая?! — імгненна адхлынуў ад мяне сон.

— Давай на сённяшні дзень возьмем уладу ў хаце ў свае рукі.

— А ўтрымаем? — хітравата падміргнуў яму.

— Паспрабуем,— адказаў ён аптымістычна.

Такім таямнічым і па-юнацку зухаватым даўно не бачыў яго.

— Значыцца, так,— пачаў бацька выкладваць сваю праграму.— Камандаваць парадам буду я. Ты будзеш маім юнгам. А маці — нашай госцяй на караблі. Заводзь маторы, мой юнга.

Падхапіліся з ложка, апранулі спартыўныя касцюмы, выйшлі на лоджыю. Нядзельнае падарожжа чакалася прыемнае і цікавае, а для гэтага патрабавалася сіла і натхненне. Імі мы і пачалі «атаварвацца» на фізічнай зарадцы.

Потым забарыкадзіраваліся на кухні.

— Ну, што будзем рабіць? — спытаўся мой капітан.

— А што мы ўмеем?

Нашы кухарскія здольнасці, як высветлілася, бедныя: маглі закіпяціць чайнік, разбіць яйкі на патэльню, абабраць бульбу і зварыць яе.

— Не, давай прыдумаем што-небудзь незвычайнае,— падтрымаў яго.

— Гэта можна. Але каб не памерлі з голаду, чакаючы сваёй стравы.

— Давай так,— зноў улез я са сваёй прапановай.— Я буду абіраць бульбу — з яе можна што хочаш прыгатаваць, а тым часам ты пагартай кніжку пра здаровую і смачную ежу.

— Малайчына, мой юнга!

У самы разгар работы на кухню пачала прабі-

рацца наша «госця». Спачатку ціха пашкрабала дзвярной ручкай, а потым і пастукала.

— Што вы робіце? Адчыніце!..

— Зараз, зараз, мама, патрывай трошкі,— адгукнуўся я.

— Вашы дзеткі прыйдуць і сняданак прынясуць,— забасіў бацька.

— От змоўшчыкі... — пачулі задаволены мамін голас, ад гэтага яшчэ з большай ахвотай узяліся за справу.

— О! Эўрыка! — закрычаў бацька.— Знайшоў! Язык з такой стравай можна праглынуць... Бульба, фаршыраваная мясам!.. Значыць, так: абабраць бульбу. Выкруціць з яе сярэдзіну. Падрыхтаваць фарш з цыбуляй, перцам, соллю і ўкласці яго ў бульбу. Усё — у каструлю, заліць тлушчам і —у духоўку.

Мы ўзяліся за работу і праз паўгадзіны адправілі ў духоўку каструлю з фаршыраванай бульбай.

Прыбралі на кухні, праветрылі. Бацька праверыў сервіроўку стала, і мы ўрачыста запрасілі маці на сняданак.

Яна прыйшла на кухню ў сваёй новай блакітнай сукенцы. На шыі быў бурштынавы кулон з залатым ланцужком, на нагах — лакіраваныя белыя туфлі. Яна зрабіла нават прычоску і навяла «марафет» на твары.

— О, юнга, хто завітаў да нас! — ускрыкнуў бацька, і я па голасу і вачах заўважыў, адчуў, што

ён сапраўды ўзрадаваўся прыходу нашай «госці».

Я таксама даўнавата не бачыў маці такой прыгожай і маладой. Яна сарамліва ўсміхалася і ад гэтага рабілася яшчэ больш прывабнай. Бацька паказаў ёй на сваё месца за сталом, а сам сеў бліжэй да пліты. З'елі бутэрброды з маслам і каўбасой.

А бацьку не сядзелася. Ён узяў ручнік і выхапіў з духоўкі каструлю. Зняў накрыўку, і дыхнула адтуль прыемнымі пахамі.

— Ух ты, атрымалася! — узрадаваўся бацька.— Гатова!

— А давай, капітан, так і назавём нашу страву — «ухты»!

— Малайчына, юнга. Падаём на стол «капітанскую ухты»! — урачыста аб'явіў бацька.

Маці была радая-радая. Хваліла нашу «ухты» і ўсё гаварыла, што ў яе ніколі так не выходзіла. Мы былі на сёмым небе.

Пасля снедання «капітан» пайшоў праводзіць нашу «госцю». Уключыў для яе радыёлу. Паставіў любімую пласцінку — песні Тухманава. І тут жа ўляцеў на кухню. У яго рухах і позірку было нешта ад закаханага маўра.

— Сяргей! — балюча абхапіў ён мяне за плечы.— Наш карабель ідзе правільным курсам! Самаадчуванне экіпажа нармальнае!

— Я рад, капітан. Трэба ведаць, хто вядзе карабель,— пачаў падладжвацца пад прапанаваную бацькам гульню.

— Давай хуценька прымем, памыем посуд...

Мы закончылі кухонныя справы. Пабеглі ў спальню, пераапрануліся і выйшлі ў параднай форме.

Якраз жа гучаў вальс. Мой капітан галантным кавалерам падышоў да мамы і запрасіў на танец. Брава кружацца мае старыя! У захапленні і не прыкмеціў, як яны падвальсавалі да мяне і бацька прапанаваў:

— А цяпер прашу вас... Не дрэйфіць, юнга!

Я ўпершыню танцаваў з мамай.

Тата паапладзіраваў нам і аб'явіў:

— А зараз — гадзіна паэзіі. Кожны дэкламуе свайго любімага аўтара.

Мама чытала Ганну Ахматаву. Яна так пранікнёна чытала ахматаўскія радкі, быццам сама выпакутавала іх.

Бацька любіць Сіманава. Суровая ваенная лірыка гучала з яго вуснаў так выразна і задушэўна, аж вочы зрабіліся вільготнымі. У тыя хвіліны мне чамусьці прыгадаліся малінаўскі і карпілаўскі дзядулі, якія не дачакаліся Перамогі. Я ж іх ніколі не бачыў, а то, як жывыя, завіталі ў нашу кватэру.

— Тата, а ты памятаеш свайго бацьку? — нечакана сарвалася пытанне з маіх вуснаў.

Бацька ўздыхнуў, вочы памякчэлі. На нейкі момант ён абхапіў шырокімі далонямі твар і ціха загаварыў:

— Было спякотнае лета. Мы, вясковыя шкеты,

гулялі ў пяску. Раптам да нас падышоў мужчына. Падняў мяне ўгору на выцягнутых руках... Пацалаваў... Не памятаю твару, яго слоў. Запомніўся толькі касцюм — руды ў палоску... Гэта і быў мой тата. Так ён развітаўся са мной, ідучы на фронт... Хай бы ж я твар яго лепей запомніў, чым касцюм...

Мы сядзелі ціха-ціха. Кожны задумаўся пра сваё. Першы ачнуўся бацька, сказаў:

— Сяргей, твая чарга. Чые вершы будзеш чытаць?

Я чытаў Вазнясенскага. З дыкцыяй у мяне выходзіла не вельмі складана. Дый спатыкаўся часта аб закавырыстыя словы, сэнсу якіх не ведаў. Мне было трохі і сорамна, што стаў ахвярай моды. Пагнаўся дэкламаваць Вазнясенскага і запароўся. А мог бы, галава садовая, бліскуча прачытаць Купалу. Я ж так люблю яго вершы.

— А зараз пачытаем Пімена Панчанку!

Бацьку не пазнаць.

— Загадвайце старонкі і задумвайце пажаданні,— падкарэкціраваў ён сваю прапанову.— Хто першы?

— Ты і будзь першы. Не супроць, Сяргей? — азвалася мама.

— Я — за.

Бацька на імгненне заплюшчыў вочы і аб'явіў:

— Няхай мой верш будзе на сорак дзевятай старонцы.

Ён тут жа разгарнуў кніжку і пачаў чытаць:

Той дзень прапаў і страчаны навекі,
Калі ты не зрабіў таго, што мог;
Калі не паспрыяў ты чалавеку,
Няшчыры быў, зманіў, не дапамог...

Бацька задаволены вершам. Чытаў душэўна. А як закончыў, падышоў да мамы і пацалаваў яе. Ад перапоўненых пачуццяў, ці што?

Надышла маміна чарга. Яна доўга думала, як бы вылічвала, на якой старонцы можа быць яе верш, а потым ціха сказала:

— Пяцьдзесят трэцяя...

Бацька адшукаў гэтую старонку і паднёс маме кніжку: такая ўмова — кожны сам чытае верш. Пакой запоўніўся меладычным маміным голасам:

Усё жыццё:
Юнацтва, сталасць, старасць —
Свае адзнакі ў нас пераплялі.
Як юнакі, цяпер мы часта марым,
А ў маладосці сталымі былі...

Мы падхапіліся з крэслаў і пачалі вітаць маму. А яна засаромелася і раптам заплакала.

— Што з табой, Яня? — занепакоіўся бацька.

— Ды так, нічога. Прабачце,— звярнулася яна да нас, змахнула слязу на шчацэ і ўсміхнулася: — Даўно вершаў не чытала... Ну, а ты, Сярожка, які выбраў?

Я назваў старонку. Бацька адшукаў яе і падаў томік Панчанкі. Я пачаў дэкламаваць:

А я маладых не лаю
За доўгія валасы,
А я маладым не раю
Галіцца дзеля красы.

Узяты мой высокі тон чытання трохі паслабеў, голас уздрыгнуў. Мне падалося, што Пімен Панчанка зазірнуў у таямніцу маіх думак. І ўжо больш ціха чытаў далей:

Не бэшчу ні міні, ні максі,
А джынсы і сам бы надзеў.
Былі б толькі твары, не маскі
У маладых людзей.

Закончыў чытаць. Спякотнай гарачынёй шыбанула ў твар. Ад верша, ад думак, ад бацькоўскай хвальбы.

Маці папрасілася пачытаць кнігу, а мы з бацькам скрыжавалі мячы над шахматнай дошкай. Ён даўно не паддаецца мне, гуляе сур'ёзна. Тут бацьку проста не пазнаць. Ён, здаецца, падключае да шахматнай баталіі ўсе 14 мільярдаў нейронаў мозгу. Але нахрапам Бастылію не возьмеш. Бацька не ўлічвае, што ў маім пісьмовым стале паўгода ляжыць падручнік шахматных задач, і я ўважліва пачытваю яго.

Перамога прыйшла да мяне нечакана. А галоўнае, ціха і неспадзявана для партнёра. Ён стомлена падняў галаву, зірнуў на мяне, працягнуў руку.

Па кволым поціску і сарамлівым позірку зразумеў: бацьку хацелася б заўсёды быць моцным і непераможным. Ва ўсім, і не толькі ў шахматах. Але ж я расту, падрастаю, даганяю яго, магу й перагнаць. Мы такія!

Потым бавіліся ля тэлевізара. Адначасна чыталі газеты, пераглядалі сямейныя альбомы. Бацькі, як ніколі, былі шчодрыя на ўспаміны, гаваркія.

Позна клаліся спаць.



Панядзелак, кажуць,— цяжкі дзень. Гэта як для каго.

Хто нядзелю нашпігоўваў сябе спіртам, таму панядзелак — марудны дзень. Не радасны ён і для лежабокаў. Трэба вылазіць з логавішча, ісці на працу. Такіх людзей, відаць, багата сярод дарослых, бо вельмі ж часта чую скаргі на цяжкі панядзелак.

Для мяне, калі ў школу хаджу, гэты дзень таксама нялёгкі. Вучыцца, гаворыць мая бабуля Анюта, усё роўна што зямлю араць іголкай. А калі «арэш» цэлы тыдзень? Дык адзін дзень не грэх і палайдачыць. Так што, нядзеля, як ні адпачывай, спакваля размагнічвае чалавека, і ў панядзелак трэба пачынаць як бы спачатку.

Учарашняя нядзеля так намагніціла душу, узрушыла пачуцці, што панядзелак здаўся мне цудоў-

ным святам. Бацькі пайшлі на працу. Але мне здавалася, што ўвесь доўгі дзень яны са мной. Умеюць жа, калі захочуць, быць цікавымі! Але чаму такі настрой рэдка находзіць на іх? Дзівакі!

Яны чамусьці схільны лічыць прыстойнымі тых з нас, хто сур'ёзна захапляецца музыкай, маляваннем, якім-небудзь рамяством. Хто ходзіць роўненька, не прыносіць клопатаў. Якая ідылія!

Ну, а калі я нічога не ўмею рабіць, дык што? А магчыма, мой галоўны занятак — думаць, аналізаваць, шукаць адказаў на тое, што не дае спакою?

Раззлаваны, замітусіўся па кватэры, як тыгр у клетцы. Падышоў да кніжных паліц. Пудамі сабрана мудрасць. Чэрпай, хапай, плавай у ёй. Зараз я знайду падтрымку сваім развагам.

О! Тое, што трэба: «Абломаў» А. Ганчарова. «На Гарохавай вуліцы, у адным з вялікіх дамоў, народанасельніцтва якога хапіла б на цэлы павятовы горад, ляжаў раніцай у ложку, на сваёй кватэры Ілья Ільіч Абломаў»,— прачытаў пачатак рамана. Потым, не адрываючыся ад кнігі, сеў у крэсла. Стразіны, гуллівы настрой хутка пакінуў мяне. Трагедыя Абломава зноў прымусіла задумацца пра сябе. Чорт, нешта я пачаў глыбока задумвацца пасля таго вечара. Мо чалавекам станаўлюся? Ён жа таксама, як і я, любіў марыць, фантазіраваць. «Думка гуляла вольнай птахай па твары, пырхала ў вачах, садзілася на паўадкрытыя губы, хавалася ў маршчынах на лбе...»

Ён нічога не ўмеў рабіць і нічога не хацеў рабіць. А я што магу і чаго хачу? Праўда, да абломаўскіх трыццаці двух гадоў яшчэ далекавата. Жыццё кім-небудзь зробіць, быць таго не можа.

У мяне няма Захара, які б апранаў панчохі і раніцамі расчэсваў чупрыну. Але ж у мяне ёсць маці і бацька. О, пабеглі на працу, а сняданак пакінулі на стале. Захачу — новы касцюм купяць. Заенчу — у турысцкую паездку адправяць. Няўжо бацькі мае настолькі аслеплі, што і не прыкмецілі, як сталі маімі рабамі? Не, дудкі, сваім дзецям, калі яны будуць у мяне, я не паддамся.

Дык ведаеш, Шпундзік, садовая твая галава, ты ж не проста падлетак, ты — фон-барон. Нават Ілья Ільіч пазайдросціў бы табе. Ды хто ён у параўнанні з табой? Адно названне, што «барон». А на самой справе мяшок з мясам і косткамі. Адгадаваў пуза і думаў, што прырода паслала яму такую каштоўнасць. У яго былі крылы, але ён сам звязаў іх. Ён даганяў, але так і не дагнаў жыццё. У яго ніколі не запальвалася аніякага — ні выратавальнага, ні разбуральнага — агню.

О, Сяргей Марозаў, усцеш сябе! Ты не такі. У цябе ёсць мары і планы, у цябе ўжо за плячыма васьмікласны «пакунак» ведаў.

Стоп! А ўсё-такі ці ёсць зараз у нашым жыцці Абломавы? Мо дзядзька Юзік радня яму? Ён жыве непадалёк ад нашага горада, у мястэчку Свяцілавічы. Малога мяне вазілі туды некалькі разоў. Але

дзядзька Юзік не спадабаўся адразу. Як ідзе, шырока расстаўляе ногі, а рукі ў гэты час, калматыя і тоўстыя, вісяць унізе жывата, гатовыя падхапіць яго. Ходзіць, быццам носіць перад сабой падушку. Гаворыць груба, і ўсё пра грошы.

— Ну, колькі ўпяклі за цябе ў магазіне? — папытаў ён у мяне, трохгадовага.

— А мяне ў магазіне не куплялі.

— А адкуль жа ты ўзяўся? — зацікавіўся дзядзька, і правае брыво паднялося ўверх.

— Адкуль і вы,— адказаў я.

— От блазнюк,— абазваў ён мяне, і я канчаткова зразумеў, што любіць яго не буду.

Цяпер ужо дакладна ведаю гэта.

Мой дзядзька працуе на прамкамбінаце. Кім, не гаварыў. Кожны дзень нешта цягне адтуль. Аднойчы прынёс дзве кішэні новенькіх гаек. Высыпаў у вядзерца, задаволена ўхмыльнуўся:

— О, бачыш, пляменнік, колькі дабра.

— А навошта вам столькі гаек?

— Закручваць буду. Хочаш і табе закручу...

«Злодзей»,— хацелася плюнуць яму ў вочы. Але ж я не мог гэтага зрабіць. Я быў ужо ў пятым класе і ведаў, як трэба ставіцца да дарослых. Іх паважаць трэба, вучыцца ў іх.

Чаму я мог навучыцца ад дзядзькі Юзіка? Ён жа самы сапраўдны хамяк. Грабе да сябе без разбору. Абставіўся шафамі, халадзільнікам, тэлевізарам, падлога і сцены ў дыванах, а сам усярэдзіне

гэтага барахла сядзіць на кучы грошай і хрумае, хрумае, хрумае.

У дзядзькі майго, як і ў Абломава, няма ні сяброў, ні ворагаў. Яго жыццёвая мэта не адлятала далей пуза. Ён, відаць, пасля школы не прачытаў аніводнай кніжкі. О, трэба будзе яму пра Абломава падарыць. Толькі наўрад ці адолее ён яе.

Чакай, Сяргей, а што ж ты сам хочаш ад жыцця?

— Хачу мармеладу,— адказаў я калісьці.

Бацькоў гэта задаволіла. Яны вельмі цешыліся маім адказам. Усім расказвалі, які кемлівы ў іх сын.

Дый з такім жаданнем прасцей. Пайшоў у магазін, купіў.

Цяпер даходзіць да мяне, што за маміну руку проста брыдка доўга чапляцца. Самому трэба дамагацца сваіх жаданняў.

А яны ёсць. Я багата чаго хачу ад жыцця. Але самае галоўнае — вырвацца на волю, у свет. Толькі там можна здзейсніць сваю мэту.

Свабода і свет. Як яны ўяўляюцца мне?

Першае, самае сур'ёзнае пазнанне свету адбылося тады, калі падняўся з чацвярэнек. Па-іншаму ўявілася крэсла, ложак, дыван. Можна хадзіць і рабіць новыя адкрыцці. А што там за шырмай, за дзвярыма? Што за домам, у якім ты жывеш, што за вуліцай, на якой твой дом? А што за горадам, у якім твая вуліца? Свет жа, выходзіць, вялізны і

бясконцы. Каб спазнаць яго, трэба цэлае жыццё і трэба жаданне.

А яшчэ — свабода. Каб цябе не павучалі, а вучылі, каб цябе за ручку не вадзілі, каб сяброўства з табой не ператварылася ў панібрацтва альбо ў падначаленасць.

Свабода — гэта, калі ты з вялікай ахвотай, радасцю выконваеш любыя просьбы, загады дарослых. Калі ты чакаеш з імі сустрэчы і ведаеш, што яны разумеюць цябе. Тады спадае з вачэй зацьменне, тады «распранаецца» сэрца і ўсвядоміцца чароўны, загадкавы свет.

Нешта падобнае творыцца сёння са мной. Што таму прычынай: учарашняя нядзеля альбо раман Ганчарова? А мо я сам, непрызнаны Шпундзік, неадкрыты геній?

О, я багата чаго хачу ад жыцця. Вось цяпер з вялікім задавальненнем пакінуў бы цаглянаю клетку-кватэру і прагуляўся б па горадзе. А чаму нельга? Падумаеш, сінякі на твары. Што я, хацеў іх? Гэта ж сінякі ганаровыя. Не хаваць іх ад людзей, а паказваць трэба.

«Цяпер ці ніколі»,— прыгадаў абломаўскі дэвіз і, ведаючы сумную гісторыю Іллюшы, хутка пачаў збірацца на прагулку. Свае жаданні трэба выконваць «цяпер», самому і неадкладна.

Улез у тэніску, на якой былі «прадстаўлены» ўсе французскія газеты. Нацягнуў на сябе аблезлыя, выцвілыя джынсы з англійскім «лёвам» на правай

кішэні. Прыгроб пяцярнёй густую чупрыну. Зазірнуў у люстэрка і, пасвістваючы, выскачыў у калідор. Ліфт не заняты. Ды ім я ніколі не карыстаюся. Хай ужо старыя катаюцца.

На вуліцы гэтак жа, як тыдзень назад. Малады каштан, што стаіць у двары, прывеціў мяне, млява пакалыхваючы лістотай. Сонца ўдарыла ў вочы, і я зажмурыўся. Сонечныя промні лашчыліся па твары.

Па двары праходзіла ліфцёрка, мажная жанчына ў сінім халаце. Я не ведаў, як яе імя, але, калі яна параўнялася, павітаўся. Даўгавата не бачыў людзей, засумаваў.

Ліфцёрка азірнулася, і ў вачах яе было здзіўленне: «Што табе трэба, хлопец?» Некалькі секунд яна пільна аглядвала мяне, потым урэшце адказала:

— Дзень добры, дзень добры... А хто ж цябе гэтак размаляваў?

— Ды сам я,— не сярдуючы, адказаў ёй, але злавіў сябе на думцы, што не варта было лезці да жанчыны са сваім здароўканнем.

— Хэ, сам. Ведам, як вы самі сябе...

Ліфцёрка збіралася яшчэ нешта гаварыць, але ў гэты час я сказаў ёй «да пабачэння» і пакіраваў на галоўную вуліцу горада. Ішоў сярод натоўпу, і з галавы не выходзіла баба-ліфцёрка. От жа чалавек, ты да яе з вітаннем, а яна — варам. Агарнула самота.

Я ішоў па шумнай вуліцы, адзінокі і журботны. І нікому быццам было не да мяне. Як бы і не заўважалі, як бы я не існаваў на гэтым свеце. Людзі, заклапочаныя і мітуслівыя, некуды спяшаліся, абганялі мяне. У кожнага свой клопат. Няўжо яны не бачаць маіх сінякоў?

Падняў галаву. Вачыма пачаў сустракаць прахожых.

О, ідзе з партфелем мужчына. Твар блішчыць, як памыты, паспелы памідор. На галаве — саламяны капялюш. Такія рэдка носяць. Чалавеку добра і прыемна, а што ў нейкага Сяргея Марозава твар пабіты, дык так яму, падшыванцу, і трэба. Дзядзька з партфелем праплыў міма, не зачапіў мяне нават кароткім позіркам. «Цюлень»,— пакрыўджана падумаў пра яго і пачаў лавіць позіркам іншых людзей.

Прабеглі міма дзве дзяўчынкі. Яны вельмі спяшаліся некуды, але абедзве спагадліва зірнулі на мяне: «Які ў яго твар?!. Яму баліць?..»

Дзяўчынкам да канца не зразумець, як балюча і крыўдна мне. «Значыць, правільна,— падумаў,— не хутка ты, Сяргей, пабачыш сваю Марынку. У такім выглядзе нельга паказваць ёй сваю фотку».

— Калега, закурыць не знойдзецца? — тузануў мяне за руку п'янаваты дзядзька, і я ачнуўся ад думак.

З агідай глянуў у чырвоныя вочы «калегі» і, не дастаючы рук з кішэняў, адказаў:

— Дрэнню не займаюся...

А сам падумаў: «Сябрук знайшоўся. Пашукай сабе таварышаў ля піўной».

— Малакасос, таму і не курыш,— крыкнула наўздагон п'яная морда.

Хацелася крутнуцца на месцы, дагнаць дарослага «калегу» і даказаць, што я ўжо не малакасос. Але нейкая невядомая сіла ўтрымала.

Чым далей ішоў па вуліцы, тым болей псаваўся настрой. Узнёсласць, з якой выскачыў насустрач сонечнаму промню, патухла. Прыемнай прагулкі не атрымалася. Збочыў улева і пакіраваў у парк.

Халадком дыхнула ў твар. Захацелася пасядзець. Выбраў утульную лаўку і сеў. Гэта было якраз тое месца, дзе тыдзень назад атрымаў баявое хрышчэнне. У галаве закруціліся ўспаміны...

Нейкі цюцік таўхануўся калматай пыскай у мае калені і лізнуў руку. Гэта быў самы сапраўдны фокстэр'ер. Ён стаяў навыцяжку перада мной, як наш Мішка Рагаль ля дошкі. Вузкія, кароткія вушы трохі насцярожыліся. А даверлівымі, спакойнымі вачамі ён зазіраў у мой твар і вітаўся сваім кароткім хвосцікам.

— Белы Бім Чорнае вуха,— азваўся я, і фокстэр'ер яшчэ больш завіляў хвосцікам.

— Гэта не Бім, а Рэкс,— сказаў вусаты дзядуля, і толькі цяпер я заўважыў свайго суседа па лаўцы.

— Ваш сабака?

— Ды як вам сказаць? — сумеўся дзядуля.— Я гасцюю ў сына, а Рэкс іхні...

Мне спадабалася, што прыстойны дзядуля, чалавек сталага веку, назваў мяне на «вы». Я пагладзіў фокстэр'ера і даверліва сказаў:

— Багата чытаў кніжак пра сабак. Люблю іх, а бацькі не дазваляюць трымаць у хаце.

— Хто яго ведае, мо і правільна робяць,— падтрымаў гаворку дзядуля.— У хаце павінен жыць чалавек, а не жывёліна.

— Ваш жа сын трымае,— запярэчыў я і спытаў: — У яго кватэры мо пацукі завяліся?

— А чаму вы так пытаецеся?

— Ды гэты ж сабака прызначаны для палявання на ліс, барсукоў, янотаў, для знішчэння пацукоў на складах.

— Што вы, якія пацукі? У іхняй хаце няма нават мухі, а вы кажаце... Надоечы заляцела адна, дык нявестка паўдня ганялася за ёй... На дзяцей яны пакуль не разжыліся, вось і завялі Рэкса...

Дзядуля ўсё болей падабаўся мне. Ён быў просты, адкрыты, даверлівы. А галоўнае — паважлівы. Для яго як бы і не існавала розніцы ва ўзросце, ён як бы і не заўважаў маіх сінякоў.

Толькі калі разгаварыліся, дзядуля расказаў такі выпадак:

— Мяне таксама аднойчы лупцавалі. У дзяцінстве. Вёз дзядзька Сымон сена. А я ўчапіўся ззаду,

праехаць захацеў. Трымаўся, трымаўся за вяроўчыну, рукі самлелі, я і чмякнуўся вобзем. Коні, ліха на іх, спудзіліся, і дзядзька Сымон таксама каўзануўся на зямлю. Ён адразу змікіціў і пагнаўся з пугай за мной. Не дагнаў, толькі мацюкнуўся: «Ты ж мне пападзешся...»

— Ну і што, папаліся?

— Ха, гэта ж не горад, што можна адзін з другім гадамі не бачыцца. Мы ж усе ў адной вёсцы жывём, як селядцы ў бляшанцы. Куды ж дзенешся... Прылятаю вечарам дахаты, маці і кажа: «Вячэрай, сынок, ды пойдзем да дзядзькі Сымона, ён цябе біць будзе». Паставіла на стол гляк малака, паронак сыпанула, скавараду з салам падала. Ем павольна, час баўлю. Мо, думаю, злосць у мацеры пройдзе. Аж дзе там. Паеў, яна і гаворыць: «Ну, пайшлі». Паплёўся за ёй, усё яшчэ не верылася, што мяне лупцаваць будуць. А ў Сымонавай хаце паклалі на лаву, і ўжо такі дзядзька ўкапнуў дзягі. Па сённяшні дзень помню.

— Хіба дзяцей можна біць? — з дакорам сказаў я.

— Дзяцей, мой хлопчык, можна,— адказаў дзядуля.— У іх зубкі мяняюцца і скура хутка гоіцца. А вось дарослых, такіх, як ты, нельга. Раны ў іх не хутка зажываюць. І рубцы застаюцца.

Я канчаткова паверыў свайму суразмоўніку і папрасіў:

— Раскажыце яшчэ што-небудзь.

— А што расказваць? Век звекаваў, нават снамі не наталіўся... Ты колькі класаў скончыў?

— Восем.

— Восем! — паўтарыў дзядуля і падняў над галавой указальны палец.— Па нашаму колішняму часу гэта амаль што прафесар. А настаўнік — дык як двойчы два.

— А вы колькі класаў закончылі? — пацікавіўся я.

— Якія там класы? Дзве зімы ў мяне.

— Як гэта, дзве зімы?

— Зімой, калі менела работ у гаспадарцы, бацькі наймалі настаўніка, як пастуха. Ён хадзіў па хатах і вучыў нас пісаць, лічыць. Канчалася зіма — па вучобе. Зямельку трэба было даглядаць, худобу пасвіць. Самыя настырныя ды прагныя да грамаці вучыліся далей. Іх выводзілі ў людзі ўсёй вёскай. А цяперака? — дзядуля плюнуў і расцёр чобатам, памаўчаў трохі, паправіў вусы і казаў далей: — Усе ўмовы далі. Толькі вучыся, чалавекам будзь. Дак гультаі, ліха на іх. Ім бы толькі лынды біць. Дурні.

— А што, раней лайдакоў не было?

— Былі, мой хлопчык, а як жа. Але іх не трымалі на аброці ў школе. Не лезе ў галаву вучоба — ідзі гной накідай на воз. А цяпер што? Ды калі ён, бамбіза, не хоча вучыцца, дык з-за яго могуць настаўніка вытурыць са школы, не мае, значыцца, педагагічнага падыходу. А да таго лайдака трэба іншы падыход мець, каб ён папрасіўся вучыцца...

Але ж дзе ён папросіцца, навошта яму сушыць мазгі, калі жыве на ўсім гатовенькім... — дзядуля ад хвалявання аж пачырванеў, памаўчаў трохі і спакойна спытаў: — У вас, у горадзе, мо няма такіх?

— Як вам сказаць... — разважліва пачаў гаварыць у тон субяседніку.— От у нашым класе настаўнік застукаў дваіх. У часе ўрока гулялі ў карты: выдатніца з двоечнікам. Пацягнулі іх да дырэктара.

— Ну і што? — не стрымаўся, перапытаў дзядуля.

— Анічога. Мараль ім прачыталі і адпусцілі. Выдатніца наша нават паслала ўсіх настаўнікаў да чорта.

— Не можа быць, каб такая распуста... — занепакоіўся дзядуля.— І што, ёй нічога не было?

— А што ёй стане, яна ж выдатніца...

— А двоечнік?

— Ды ніякі ён не двоечнік. Нармальны чалавек. Ён знарок не вучыць урокі. Настаўнікі некаторыя яму не падабаюцца. Ну, самі памяркуйце, хіба можа такое быць, каб вучань па фізіцы атрымліваў пяцёрку, а па гісторыі — двойку?

Дзядуля пачухаў патыліцу:

— Хто вас там ведае... Цяперака і настаўніку таму, беднаму, трэба мініcцерскую галаву мець. Дзеткі ж пайшлі, не паспее вылузнуцца з пялёнак, ужо тэлевізар глядзіць, кніжкі чытае...

Дзядуля хацеў яшчэ нешта дадаць, але я перахапіў ініцыятыву:

— Мой брацік Сашка жыве ў вёсцы, дык я зайздрошчу яму. Свае б пяцёркі прамяняў на яго рукі. Сашка ўсё ўмее рабіць. Таму няма калі яму добра і вучыцца. А да таго ж ён хоча стаць будаўніком. Дык хіба яго лаяць можна?

— Сашку мо й не трэба,— пагадзіўся дзядуля і ўздыхнуў.— Хто яго ведае, мо дарэмна мы бурчым на маладых? Самі возьмуцца за розум. Не трэба будзе і цягнуць на лейцах... Толькі каб неслухамі не раслі. Бацькі на дурное не навучаць...

— А ведаеце, дзядуля, я чытаў нядаўна, што знайшлі старажытны папірус Прыса. Шэсць тысяч гадоў назад яго складалі. Ведаеце, што ў ім напісана?

— Цікава,— ямчэй сеў дзядуля і настрыў вушы.

— Старажытны аўтар напісаў: «Жыццё не тое, што было раней, дзеці не слухаюць бацькоў».

— Хэ, разумны той Прыс быў. І вы, бачу, чалавек адукаваны,— сказаў дзядуля і пачаў збірацца.— Прыбягуць жа мае хутка на абед, а нас няма. Бывайце. Усяго вам найлепшага...

Дзядуля нямогла падняўся з лаўкі. Заварушыўся і Рэкс. Увесь час, калі мы размаўлялі, ён ціха сядзеў на задніх лапах, як бы хацеў зразумець, пра што вядуць гаворку людзі. Рэксу не хацелася пакідаць мяне. Ён пакруціўся ля ног, лізнуў руку, павіляў хвосцікам. На развітанне падбег да каштана,

які рос непадалёк, і паставіў на ім свой аўтограф.

Доўга яшчэ сядзеў я ў адзіноце. Думаў пра дзядулю. Бач ты, дзве зімы толькі вучыўся.

* * *

Мае рабы, значыцца, маці і бацька. А сам я — раб тэлевізара і магнітафона. Дык што ж гэта выходзіць? Я адначасова прыгнятальнік і прыгнечаны?

Не, нешта не так. Лічаць мяне рабом тэлевізара і магнітафона мае старыя. На самой жа справе тэлевізар і магнітафон мае сябры.

Сацыёлагі падлічылі, што мы ва ўзросце ад 7 да 16 гадоў глядзім тэлеперадачы ў сярэднім ад 500 да 1000 гадзін у год. Звярніце ўвагу, якая «дакладнасць і абгрунтаванасць» у навуковых лічбах: ад 500 да 1000. Гэта ж, як у неахайнай касіркі — пяцьсот рублёў перадала, столькі ж недадала.

Бог з імі, з навукоўцамі. Іх справа вывучыць нас. А наша — пераадольваць цяжкі бар'ер узросту.

Але праўда такі, мы даўгавата бавімся ля тэлевізара. Ён адымае ў нас мо столькі часу, колькі сядзім у школе. Гэта вам заяўляе не нейкі сацыёлаг, а сам Шпундзік, Сяргей Сямёнавіч Марозаў.

Кожны дзень я гляджу па тэлевізары новы фільм, а пашэнціць — і два адразу. Не прапускаю ў кінатэатрах усе навінкі. Падлічыце, я гляджу ў год па чатырыста фільмаў!

А маці мая прыйшла надоечы дамоў і ледзь не плача: «От жыццё, няма калі ў кіно схадзіць». Во ў каго цяжкі ўзрост. А вы гаворыце!

Тэлевізар — мой сябар з дзяцінства. Гэта ён, а не маці, спяваў мне калыханку і жадаў добрай ночы. Потым запрашаў на цікавую «АБВГДэйку», дзе разам з клоунамі вывучаў літары. Тэлевізар прывучыў рабіць ранішнюю гімнастыку. З яго дапамогай я бываў на гульні «Спартландыя», удзельнічаў у цікавых спаборніцтвах «Рабі з намі, рабі як мы, рабі лепш за нас». Тэлевізар пазнаёміў мяне з баронам Мюнхаўзенам, з Чабурашкам і з сабакам, у якога былі сябрамі чатыры танкісты.

У жыцці ёсць больш сумныя перадачы. Як тая, пасля канцэрта «Кляновага лісця». Але сумнымі бываюць і святы. От прыйшлі неяк да нас госці. Усе накінуліся на мяне з воклічамі-пытаннямі: «О, якія мы ўжо вялікія!.. Як вучымся?.. Малайчына!..» Помнілі пра мяне толькі да першай чаркі, а потым, як бы ў доме і не стала «малайца».

Дзівакі дарослыя, ахоўваюць ад сваіх размоў, сакрэтаў. А я ўсё наперад ведаю. Хочаце, раскажу пра застолле дарослых?

Пахадзілі, значыцца, па кватэры, пахвалілі мэблю і гаспадароў. Селі за стол, выпілі за здароўе і накінуліся на закускі. Потым нехта нагадаў, чаго яны сабраліся ў Марозавых. Нарадзіўся тост: за добрых людзей, складную сям'ю, за галоўны сакрэт жыцця — з гадамі станавіцца маладзей! Некаторыя

дарослыя, відаць, вельмі захапляюцца гэтым жаданнем, бо іншы раз так маладзеюць, аж дзяцінеюць.

Падгледзеў аднойчы: лысаваты дзядзька ў разгар застолля пачаў паказваць, як рохкаюць свінні і як хлебчуць з карыта. Ён так шчыраваў над міскай кісялю, што не заўважыў, як лысінай апынуўся ў місцы. Усе смяяліся, а мне стала шкада лысага. Здзяцінеў!

На другім этапе гаворку заводзяць аб працы. Тут я пакуль мала што кумекаю: у каго начальнік «звярук», у каго — мудрэц Хаджа Насрадзін? Як выконвалі план, каго адзначылі, як галоўны інжынер з аператаркай не той сіроп зварылі... Фанатыкі яны, калі пачынаюць гаварыць пра сваю работу!

Ну, а далей ужо, на трэцім этапе, пачынаецца самае цікавае: расказваюць смешныя гісторыі. Тут трэба вуха востра трымаць. Качаюць розныя гісторыі, як більярдныя шары.

На заключным этапе (вы заўважылі, я нават гавару дарослымі словамі?) спрабуюць спяваць. Тут звычайна поўны завал. Пачынаюць мелодыю, слоў не ведаюць. Ёсць першыя галасы, другіх, як пісаў Зошчанка, не прадбачыцца. Прыгадалі словы — мелодыю не выцягнуць.

Тады ўрэшце ўспамінаюць, што ў кватэры ёсць жывая істота з музычнай скрыначкай.

— Сяргей! — кліча бацька.— Дай нам музыкі!

Гэты загад для мяне — як абраза. А што зро-

біш? Неахвотна выстаўляць бацьку перад гасцямі. Сцяўшыся ад крыўды, нясу свой «Парус» у залу, да вясёлых дзядзькоў і цётак.

Падладзіць пад іх настрой музыку таксама нялёгка. Бах — сумны, Тухманаў — модны, Боб Дзілан спявае не па-руску. Урэшце ўсе ахвотна пачынаюць падпяваць за «Песнярамі» пра Яся і Яніну...

Вось і закончылася хатняя «тэлеперадача». Галоўныя ролі ў ёй выконвалі дарослыя, мае выхавацелі. А я быў у «запечку» гледачом. Пасля такой «перадачы», як згаладалы, накідваюся на «Электрон» і з вялікай асалодай гляджу «У свеце прыгожага», «Працоўнай вахце — ударны фініш», кіналекторый «Здароўе», інфармацыйную праграму «Час». Ну, а мастацкі фільм «Мы — хлопцы жывучыя», футбольная перадача, дзе гуляе мінскае «Дынама»,— гэта для мяне абавязковыя праграмы.

Цяпер памяркуйце, людзі: я раб тэлевізара ці ён мой сябар?

Тыя ж разумнікі сацыёлагі даказваюць, што мы, у параўнанні з нашымі ранейшымі аднагодкамі, меней ведаем казак, горш ведаем прыроду, не валодаем багата якімі «традыцыйнымі жыццёвымі навыкамі». Дык хіба ж гэта наша віна?

Помню, як быў яшчэ малым, прыехала да нас у водведкі малінаўская бабуля Хрысціна. Пытаюся ў яе:

— А як жа вы жылі, бабулька, калі не было тэлевізараў?

— Ой, ты мой унучак,— усміхнулася яна і пачала гаварыць не столькі мне, як маім бацькам,— такой бяды. Жылі і не вельмі гаравалі. Самі тэлевізар устройвалі. Сабяромся на вячоркі, песні спяваем. А цяпер нашыя вяскоўцы абленаваліся. Стоўпяцца ля тэлевізара і глядзяць, як артысты «вячоркі» гуляюць.

— А мульцікаў жа не бачылі? — сказаў я бабулі, якая так холадна паставілася да тэлевізара.

— Ну, такога дзіва, каб маляваны воўк ганяўся за маляваным зайцам, не было. Каля нашай Малінаўкі жылі сапраўдныя ваўкі. Зайцоў багата бегала. Дзе цяперака ўсё падзявалася, ліха яго ведае...

— Бабулька, а казкі ты ведаеш? — задаў ёй яў на правакацыйнае пытанне, бо дзівіўся, што бабуля Хрысціна ўмела толькі распісацца і чытаць па складах.

— А як жа! — адказала бабуля.

У той вечар я не глядзеў тэлевізар. Бабуля Хрысціна баяла свае казкі. Мне бацькам ужо не раз чыталі пра Гусей-Лебедзяў, сястрыцу Алёнку і братку Іванку, пра Чырвоную Шапачку і Шэрага Воўка, але так, як расказвала бабуля, я не чуў яшчэ. Яна ж не чытала, а сама прыдумвала. Яна расказвала, як артыстка і з такой імправізацыяй, што я ўвесь час сядзеў з раскрытым ротам.

Так што, тэлевізар можа быць нашым верным сябрам, але не адзіным. Хай бы пра гэта падумалі

сацыёлагі і ўсе тыя, хто турбуецца пра наш цяжкі ўзрост!

Ад гэтых думак можна стаць самотнікам у пустой кватэры. Выручае другі сябар — магнітафон.

У маёй музычнай картатэцы ёсць мелодыі для ўсякага настрою. Кажуць, што чалавечае вуха не ў стане доўга пераносіць гук сілай 90 дэцыбел. Дык у мяне ёсць музыка з дэцыбеламі не для чалавечага вуха. Ёсць і народныя песні ў выкананні ансамбляў, салістаў. У захапленні ад ансамбля «Кляновае лісце».

Дзівакі дарослыя лічаць нас музычнымі наркаманамі. А самі?

На адным з урокаў пагнаў нас фізрук у парк. Прыгожа бяжым, лёгка. Усе ў спартыўных касцюмах, у кедах. Насустрач смоўж паўзе. Лахматая галава, маршчакаваты твар. У зубах — цыгарэта, на жываце — транзістар. Ён параўняўся з намі і злосна гыркнуў:

— У-у, лашакі!

Тым часам з яго музычнай шкатулкі рвалася на волю пахмутаўская «Пяшчота». Дык хто з нас наркаман?

Часцяком чую ад дарослых: «вось у наш час...», «от мы былі...». Безумоўна, раней усё прасцей было. Калі чалавек хам, дык адразу відаць, што ён хам. Насоўкай не карыстаецца. Можа ў пакоях хадзіць абутым. А то раптам загаворыць мацюкамі.

Цяперашні ж хам разумны, умее гаварыць «прабачце», «калі ласка». Чысціць зубы, ходзіць з транзістарам. Ох, якім пільным трэба быць сярод дарослых!

Уключаю касету, якую прывёз з Рыгі. Домская канцэртная зала. Пад цуд-арган спявае Ірына Архіпава. Мы з бацькам былі там летась.

Памяць пра той вечар захаваю на ўсё жыццё. Я сядзеў, як мышаня, прыціснуўшыся да бацькі. Здавалася, музыкай насычаны сцены, столь, увесь той велічны будынак сабора. Арганная музыка як бы растваралася ў маім целе. То лашчыла, саграваіла, а то раптам будзіла і клікала ў нязведаную далячынь.

О, чароўная мелодыя!

Хараша думаецца пад арган. Вось узяты гук, і ён, быццам кропля расы, пераліваецца вясёлкай у ранішніх промнях сонца. Жывая кропля расы! Яна на крыштальнай далоні маёй Марынкі. І вочы ў яе, як расінкі, і шчокі, і губы, і ўся яна — ранішняя расінка. Я асмельваюся падысці да яе, ціха і асцярожна. Раз ступаю, другі. Зараз, зараз чароўная расінка будзе маёй. Ды што ж гэта? Знікла Марынка, патухла расінка. Закончылася музычнае падарожжа ў Домскі сабор.

Слых, сказаў нехта з вялікіх музыкантаў, трэба трэніраваць, як мышцы. Гэтак, па-мойму, трэба вастрыць вуха на сур'ёзную музыку. А ёсць жа «лёгкая», тая ж «поп»-музыка. Дарэчы, я ўпачатку ду-

маў, што «поп»-музыка ад слова «попка» — папугай.

А «поп» — гэта папулярная. І як бы нас дарослыя ні падазравалі ў легкадумнасці, нам падабаецца і «біт», і «поп», і «рок».

Скажу шчыра, мне вельмі падабаецца англійскі «Бітлз». Ён можа б не так і падабаўся, каб не вар'яцелі ад яго нашы хлопцы. А я што, лысы? Горшы за іх?

У спевах і музыцы чатырох англічан ёсць нешта большае, чым толькі «біт для ног». У іх — сіла маладосці, неўтаймаваная энергія, прыгажосць. Яны як бы стварылі вобраз іранічнага, палкага, гордага і ўпартага юнацтва. Іх спевы нельга слухаць, ловячы мух. Сама сабой душа прагне рытму, рухаў, праяўлення безупыннай энергіі.

Зрываюся з канапы, дадаю дэцыбел і вырабляю сам-насам такія «бугі-вугі», што мае старыя ад іх бы звар'яцелі.

О! Каравул, вяртаюцца з працы бацькі. Звоняць у дзверы. Хуценька развітваюся з «Бітлзам», бягу адчыняць. У бацькоў жа нервы, у мяне іх няма. У мяне яны, як марскі канат. Таму і выключаю магнітафон, а не таму, што спалохаўся званка.

Але ж выкідаць запісы «рока» не адважваюся. У іх ёсць нешта ад маёй бунтоўнай натуры. Не люблю так хутка здавацца ў чым-небудзь. На тое мы і цяжкі народ.

* * *

Дзевяты дзень майго вымушанага зняволення. Колькі ж яшчэ прыйдзецца скуголіць? А ці бывае так, што чалавек скуголіць усё жыццё? Ад таго, што кахання не сустрэў. Ад таго, што сяброў не знайшоў. Ад таго, што сябе не адшукаў пад зорным небам. Ці бывае так?

Думаю пра свой клас. Трыццаць два геніі ў нас ці трыццаць два бараны?

Нашы вучні ходзяць цяпер у такіх апратках, якія бацькам і не сніліся. За нашым Абрамавым нават настаўнікам цяжка паспець. Ён штодня мяняе касцюмы, гальштукі і кашулі. Піжоністы хлопец!

Калі ад дошкі гляджу ў клас, здаецца, сядзіць гурт транзітных пасажыраў. Цяпер жа амаль ніхто не носіць вучнёўскіх партфеляў. Кніжкі ў яго не ўлазяць, дый не модна. У кожнага які-небудзь мадэрновы саквояж. І вось парасстаўляюць свае чамаданы каля парт, як на вакзале.

А транзітныя чаму? Ды мы ж болей аднаго ўрока не затрымліваемся ў адным класе. Кабінетная сістэма ў нас! Пасядзеў у адным месцы сорак пяць хвілін — бяжы ў другое. Так шэсць раз на дзень, так штодня. Калідорная ў нас сістэма!

Дык вось, знешне мы ўсе падобны на геніяў. Прывабныя малойцы. Але ж чаму мне іншым разам здаецца, што наш клас мяняецца, як поры года? То

дыхне зімой — і вучні сядзяць замёрзлымі сукра-камі. Прыйдзе вясна — і яны становяцца неўтаймаванымі ручайкамі-жэўжыкамі. А то раптам настуніць гарачае лета, і ўсе, як разваранае бульба. Бывае, што ў клас завітае багатая восень. Настаўнікі тады вытрушчваюць з нас пяцёркі і такія радыя, як бы самі ўрэшце зарабілі іх.

От раскажу лепей пра нашы ўрокі. А вы ўжо самі мяркуйце, геніі мы ці бараны.

Шэры прыцемак зазірае ў вокны. Гарыць святло ў класе. Збіраецца наша братва: пятнаццаць лахмаценькіх піжонаў і семнаццаць паненак. Прывітацца няма часу. Трэба паспець зазірнуць у алгебру, узнавіць у памяці хатняе заданне. А раптам выцягнуць да дошкі.

Ацэнка для нас як чароўная лямпа Аладзіна. Без яе мы нішто. Яна лунае над намі пастаянна. Нябачнымі і нязведанымі чарамі ахоплівае кожнага, і зусім няпраўда, што ёсць сярод нас абыякавыя да ацэнак. Самы зачарсцвелы двоечнік заўсёды марыць, калі над ім узыдзе сонейка-пяцёрка.

Ацэнкамі жывуць настаўнікі. Ад ацэнак жа, як я думаю, залежыць іхняя пасада, аўтарытэт і настрой. Ад нашых ацэнак залежыць здароўе бацькоў. Трэба быць зусім нікчэмнасцю, каб не разумець гэтага і не клапаціцца пра настрой і здароўе блізкіх людзей.

Але ж і блізкія людзі павінны помніць, у якой пастцы мы трымаем іх. Паспрабуй каторы насалі нам, дык самому не соладка будзе.

Ну, добра, заходзіць у клас алгебраічка Ганна Пятроўна. Устаём, дружна вітаемся. Хлопцы нашы — народ бясстрашны. З прыходам настаўніцы ў іх знікае страх перад ацэнкай, і яны не зводзяць вачэй з Ганны Пятроўны: у яе сёння новая, малінавага колеру кофта і спадніца так шчыльна абхапіла прыгожы стан. Твар у яе прывабны. Вочы асабліва выразныя, толькі што рана патухлі, тоненькія рысачкі маршчын пачалі падкрадвацца да іх. Дома яна, відаць, не такая, як у класе, строгая і недаступная. От бы пабачыць, якая яна дома.

— Марозаў, да дошкі,— чую, як у сне, сваё прозвішча, і толькі цяпер мярзлее сэрца, балюча адгукаецца ў грудзях.

— Хуценька выразіце нам $a_7$ праз $a_5$ і множнік «кю».

Мяне злуе, што настаўніца прыспешвае. Я разумею, ёй трэба падняць за ўрок паўкласа, настаўляць у журнал ацэнак, растлумачыць новае заданне. Але пры чым тут я, чаму павінен бягом, спатыкаючыся, рашаць такую складаную задачу?

Мяне пачынае раздражняць і сама гэтая недарэчная задача. Няўжо я не магу пражыць на свеце, калі не буду ведаць, што $a_7$ можна выразіць праз $a_5$? Бязглуздзіца нейкая.

Моршчу лоб. Прыгадваю формулы эннага члена

геаметрычнай прагрэсіі. І паціху выплываю да жаданага берага, дзе чакае адказ на задачу, а заадно і... пяцёрка.

Ля дошкі наш «галавасцік» Абрамаў. На ім сёння вельветавы касцюм, чырвоны гальштук. А вочы запухлыя. Не выспаўся. З тэлевізарам, відаць, бавіўся да ночы. Ён зыркае, як злодзей, на клас, і вочы такія жаласлівыя, быццам просяць не падказку, а капейку.

— Падкажы, Глушкевіч, што далей трэба рабіць? — падымае Ганна Пятроўна чарговую ахвяру.

— Далей?.. — перапытвае Глушкевіч і дураслівымі вачыма глядзіць на дошку. Што ён у гэты час бачыць там, што разумее, аднаму яму вядома.

— Сядай, Глушкевіч... Прачынайцеся вы ўжо, пара... — дакарае настаўніца і рашуча падыходзіць да дошкі, бярэ крэйду. Трэба «хірургічнае» ўмяшанне, бо хутка званок.

Калі пачынае тлумачыць Ганна Пятроўна, мне здаецца, што яна складзена з адных матэматычных формул. Сыпле імі, як паэт рыфмамі, упэўнена і з асалодай. Такое веданне прадмета прымушае і нас цягнуцца за настаўніцай. Брыдка і страшна няёмка адчуваць сябе перад Ганнай Пятроўнай нямоглым чалавечкам.

Я ж ведаю, Абрамаў нацягнуў сёння вельветавы касцюм і чырвоны гальштук дзеля алгебраічкі. А што толку, калі ён не можа выразіць $a_{15}$ праз $a_5$?

— Якой ты падпольнай справай займаешся? —

абуджае мяне ад даверлівых думак нечаканае пытанне Ганны Пятроўны.

Не, яе заўвага не датычыць канкрэтна мяне. Я проста ачнуўся ад воклічу настаўніцы. Адрасавана запытанне нашаму круцігаловіку Жэньку Цыбульскаму.

— Што там у цябе пад партай?.. Кніжачка? — не адступаецца ад яго Ганна Пятроўна.

— Ага,— прызнаецца Жэнька.

— Падчытваеш наступны ўрок?

— Ага.

— Трэба падказаць, каб цябе выклікалі.

— І так выцягнуць,— буркнуў круцігаловік і хуценька схаваў «Геаграфію».

Праз дзве парты ўперадзе сядзіць мая Марынка. Мала хто ведае, але ўсе здагадваюцца пра мае сапраўдныя пачуцці да яе. Вельмі складана, я вам скажу, спалучаць адначасова ў сабе формулы геаметрычнай прагрэсіі і пачуцці кахання. Але можна. Пяцёрка ў маім дзённіку — і я цяпер механічна перапісваю з дошкі алгебраічныя знакі і назіраю за маёй Марынкай. Бачу яе валасы, шыю, белы каўнерык. Такое адчуванне, што яна патыліцай пазірае на мяне. А калі павернецца да свайго суседа Мішкі Рагаля, то бачу палову яе твару, ружовыя губы, доўгія чарнявыя вейкі. Губашлёп усё-такі Мішка Рагаль, сядзіць побач з такой прыгажуняй і халодны, як цурбан.

О, трэба быць уважлівым, Ганна Пятроўна па-

чала тлумачыць новы параграф. Усе прыціхаюць. Мы ведаем, Ганна Пятроўна не будзе траціць сваіх эмоцый і голасу, каб нас супакойваць. Яна ўся насычана матэматычнымі формуламі, імі цешыцца і жыве. Адчуваеш, што яна з задавальненнем адрывае ад сябе гэтае багацце і шчодра сыпле ў клас: бярыце, хапайце, будзьце мудрымі.

Такія пачуцці выклікае Ганна Пятроўна, калі бярэцца тлумачыць новы ўрок. І трэба быць закончаным ідыётам, каб не прыкмячаць гэтага, каб не паважаць яе. У класе ціха-ціха. І толькі хвіліны за тры да званка пачынаецца «рабочы шумок». Яно і зразумела, па трыццаці двух гадзінніках сочым за званком.

За пяць хвілін перапынку трэба перабегчы ў другі клас на трэці паверх, знайсці сваю парту і падручнік. А як жа не перакінуцца з хлопцамі пра ўчарашні хакей? Трэба прывітацца з Марынкай. А яшчэ злётаць да сваіх падшэфных, другакласнікаў. Разбараніць, калі ўздумаюць рабіць «кучку невялічку».

І вось новы званок. Сядзім роўненька і прыстойна. Ой, цырк! Гэта ж там так: выбягуць коні на арэну, лётаюць, пакуль не лясне бізун дрэсіроўшчыка. Тады яны становяцца на калені, а то пачынаюць скакаць пад музыку.

Нам таксама «ляснуў» званок. Пачаўся ўрок геаграфіі. Зайграла новая пласцінка. Кіруе «нумарам» Святлана Сямёнаўна.

— Ну,— гаворыць яна,— паўторым хатняе заданне.

Усе сцяліся, што пацукі. Калі карабель патанае, пацукі, кажуць, гатовы выскачыць на палубу. Але ж цяпер такой неабходнасці няма. Зараз, у лепшым выпадку, можа пускаць бурбалкі толькі адзін з нас. Ім аказваецца Жэнька Цыбульскі. Чула яго хрысціянская душа яшчэ на алгебры, што могуць выцягнуць. І стаіць ён цяпер ля дошкі, вытрымлівае допыт.

— Для чаго разводзяць жывёл? — дапытваецца Святлана Сямёнаўна.

Дзіўная зацікаўленасць у нашай Святланы Сямёнаўны. Ну што, яна сама гэтага не ведае ці нас за дурняў лічыць?

Жэнька мыліцца: і адзнаку добрую хочацца атрымаць, і клас набрыняў смехам, вось-вось узарвецца. Як тут быць?

— Свойскіх жывёл,— адказвае ён,— разводзяць для таго, каб мець мяса і каб не зводзілася пасада пастухоў.

Клас задаволена рагоча, а Жэнька здзіўлена пазірае на Святлану Сямёнаўну.

— І ўсё, што вы ведаеце? — сур'ёзна пытаецца настаўніца.

— Не, не ўсё,— сур'ёзна адказвае Жэнька.— Я ведаю, што з малака і мяса вырабляюць малочныя і мясныя прадукты, а з шэрсці і скуры — прамысловыя тавары.

— Вельмі правільна,— узрадавана гаворыць Святлана Сямёнаўна і дадае: — Сядай.

Да дошкі выклікаецца Сяргей Воранаў. На мінулым уроку ён бліскуча даказаў, што $a_{40}$ можна выразіць праз $a_5$. Цяпер яго нібыта падмянілі. Ці то ён выдыхнуўся на алгебры, ці геаграфія яму — нажом у сэрца? Не пазнаць нашага выдатніка.

— Пералічыце віды ўтрымання жывёлы.

— Малочны,— упэўнена адказвае Сяргей.

— Ды не,— сярдуе Святлана Сямёнаўна.— Вось цяпер у нас зіма?

— Зіма,— адказвае Сяргей.

— Трава ёсць? — дапытваецца настаўніца.

— Няма.

— Значыць, што?

— Значыць, жывёла харчуецца сіласам.

— А гэта які від утрымання?

— Сіласны.

— Ай, Воранаў, думаць трэба. Стой... ла...

— Стойлавы спосаб утрымання жывёлы,— узрадавана гаворыць Сяргей, і не менш яго ўзрадавалася Святлана Сямёнаўна.

— Малайчына. Але нешта ты сёння слабавата. Адкажы яшчэ на адно пытанне: якія віды электрастанцый ты ведаеш?

— Паліўныя.

— А падумаўшы?

— Цеплавыя.

— Правільна. Яшчэ якія?

— Атамныя.

— Правільна. Яшчэ?

— Вадзяныя,— сказаў Сяргеў і вылупіў вочы.

— Што за вадзяныя? Мо гідраэлектрастанцыі?

— Ага, гідраэлектрастанцыі.

— Сядай, Воранаў. Не разумею, што з табой сёння.

Ля дошкі Лена Папко. На ёй сёння новая форма. Твар не заспаны. Бач ты, якая прыгажуня стала наша Ленка! Але ёй не да любавання сваёй прыгажосцю. Яна хвалюецца, ёй адказваць на пытанні Святланы Сямёнаўны.

— Раскажыце, якія галіны жывёлагадоўлі існуюць у сельскай гаспадарцы?

Ленка артыстычна моршчыць лоб, думае. Пра што цяпер думае выпеставаная ў горадзе дзяўчынка? Так і ёсць. Па гастраному перш за ўсё вызначае Лена галіны жывёлагадоўлі. Таму і называе з упэўненасцю:

— Адна з галоўнейшых галін жывёлагадоўлі — кароваводства.

Клас рагоча. А Юрка Гарохаў цягне ўгару руку. «У-у, выскачка! Так і цаляе, каб падлізацца да настаўніка, адхапіць дармовую адзнаку». Ён аж выпростваецца, цягне ўгару руку і трасе ёй, каб прыкмецілі.

— Ну, скажы, Юрка,— хапаецца настаўніца за нашага зубасціка, як за выратавальную саломінку.

— У нашай краіне налічваецца трынаццаць га-

лін жывёлагадоўлі. Яны размеркаваны ў залежнасці ад кліматычных і геаграфічных умоў. Ёсць свінагадоўля, аленегадоўля, развядзенне буйной рагатай жывёлы...

— Сядай, малайчына, Юрка. Стаўлю табе пяцёрку. Ты сёння багата каму памагаў.

Юрка чырванее і прыгінаецца. І так ростам няўдалы, а то яшчэ ўціскаецца ў парту, ну зусім не відаць. Не люблю выскачак. Яны нібыта зладзеі, цікуюць ахвяру з-за вугла. І як толькі заўважаюць, што нешта можна сасцібрыць, выскокваюць адтуль, хапаюць і потым зноў хаваюцца. Няўжо і сярод дарослых водзяцца такія выскачкі?

Наш Юрка хоць яшчэ чырванее і ўціскаецца ад сораму ў парту. Ён жа добра ведае, што вакол яго не дурні сядзяць. Але ўсе прыстойна вядуць сябе. А ён падгледзіць у кніжцы, а потым цягне руку ўгару. Я не вытрымліваю і пішу Гарохаву запіску: «Вярблюд! Ты не назваў яшчэ трусагадоўлю...»

Ленка наша выплывае на гэты раз на тройцы. Але я ўпэўнены, што яна лепшая вучаніца за Юрку Гарохава.

Добра, без мяне разбяруцца. Мой бацька гаворыць, што пасля школы ды інстытута ацэнкі пачынае выстаўляць само жыццё. Не ведаю, што гэта за ацэнкі. Ёсць толькі прадчуванне, што кожны з нас атрымае сваё.

Мае развагі, як і агульны рытм урока, парушае піянерважатая Ніна Максімаўна. Яна заскоквае ў

клас, просіць прабачэння ў Святланы Сямёнаўны і накідваецца на ўсіх нас:

— Чаму ваш клас не выпісаў два экземпляры часопіса?.. Вось так, каб вы не выглядалі белымі варонамі ў школе, а то і ва ўсім раёне, давайце зараз збяром па дзесяць капеек.

У класе стала шумна. І ў гэты самы момант паднялася Марынка, ціха сказала:

— Ніна Максімаўна, мы даўно сабралі і выпісалі... Вось квітанцыі...

Клас уздыхнуў з палёгкай. У нармальны чалавечы стан прыйшоў твар піянерважатай. Заўсміхалася Святлана Сямёнаўна...

Марынка! Любая мая Марынка!.. Каб жа ты ведала, думаю пра цябе штохвіліны! Каб жа ты ведала, якая ты чароўная. Гэта ж твой пацалунак зрабіў мяне моцным і чулым, гэта ж з тваім імем кінуўся на хуліганаў. І во цяпер апанавалі мяне даверлівыя мары, паратунку няма ад іх.

Звоніць тэлефон. Для мяне цяпер усе званкі, як школьны. Усе яны да нечага клічуць, да нечага абавязваюць. Падхопліваюся з ложка і бягу да тэлефона. Хто можа званіць, апроч маіх продкаў?

— Ало!.. Слухаю!.. — адгукаюся на тэлефонны званок і дзіўлюся, што не чую ні мамінага, ні бацькавага голасу.— Ало!.. Слухаю!.. Ало!.. Ало!..

Мамка мая, чую голас Марынкі. Няўжо яна звоніць? Дух заняло і язык адзеравянеў. Цяпер ужо «алёкала» Марынка, а я не мог адгукнуцца.

— Ало!.. Сярожка!.. Ці чуеш мяне?..

— Чую,— нейкім ахрыплым голасам азваўся я і адчуў, што вельмі напалохаў Марынку, бо цяпер маўчала яна.— Чую, Марынка... Добры дзень табе...

— А чаму назаўтра не прыйшоў, як дамаўляліся? — з дакорам спытала яна, а голас мой зноў перасеў у горле.

— Прабач, Марынка... Захварэў... Нельга выходзіць на вуліцу...— мармытаў я і адчуваў, як потам і гарачынёй ахутваецца маё цела.

— Што з табой?!.

— Ды нічога, пройдзе... А ты як?

— Сёння еду ў Ленінград, да бабулі... Вярнуся перад школай... А ты?

— Я таксама заўтра еду да бабулі, у вёску,— упэўнена адказаў я, хоць сямейнага рашэння яшчэ не было.

— Не забудзешся пра мяне?

— Ты што?!. — па-мужчынску, рашуча адказаў я і тут жа зразумеў, што, відаць, пакрыўдзіў Марынку грубасцю.— Марынка, я буду вельмі-вельмі чакаць цябе... А як ты знайшла мой тэлефон?

— Ты ж мне сам аднойчы напісаў у блакноціку... Я доўга крыўдавала на цябе за тое, што не прыйшоў... Потым пачала хвалявацца... І вось рашылася набраць нумар...

— Ой, як добра, што ты пазваніла... Абяцаю болей не хварэць... Я буду вельмі чакаць цябе, Марынка...

— І я цябе... — ціха сказала Марынка і павесіла трубку.

Доўга слухаў тэлефоннае «піканне», глядзеў у трубку.

Усё дарэмна. Не пачую болей голасу сваёй Марынкі. Не пабачу яе аж да самае школы. Не, далей не магу сядзець у кватэрнай клетцы. Каб не сканаць тут, павінен вырвацца на волю, да людзей. Заўтра ж паеду ў вёску Карпілаўку, да маёй роднай бабулі Анюты, да майго братухі Сашкі!

* * *

Збіраюся ў дарогу.

Барометр настрою паказвае «ясна»: званіла Марынка!

Яшчэ Падлетак Дастаеўскага гаварыў некалі: «Жыццё ўсялякай жанчыны, што б яна ні прапаведвала, гэта вечнае шуканне, каму б падпарадкавацца...» А я ж не з часоў Дастаеўскага, я ж акселерат. І калі мая Марынка будзе ўсё лета чакаць сустрэчы са мной, то гэта ж мо і ёсць каханне? Хутчэй бы прыйшоў той далёкі верасень!

Збіраюць мяне. Паеду самастойна. Упершыню адзін у далёкую дарогу. Бацькі змірыліся, адпускаюць. А галоўнае, я сам адчуў, усёй сваёй істотай зразумеў, што сталасць і самастойнасць спакваля падкраліся да мяне.

Добра, хопіць тасаваць пражытыя дні. Мо зара-

на падсумоўваць свае набыткі. Асноўныя з іх яшчэ ўперадзе.

Сёння цягнік павязе мяне ў госці. Жыву чаканай сустрэчай з Сашкам. Багата пра што хочацца пагаварыць з ім.

Да вакзала праводзяць маці і бацька. Цалуюць мяне, жадаюць шчаслівай дарогі. Маці плача. Я разумею яе шчырыя пацалункі, сардэчныя пажаданні бацькі. Мне самому шкада з імі развітвацца, і таксама нагортваюцца слёзы. Але я ўтрымліваю іх, я ж — мужчына.

Еду! Няхай старыя трохі пажывуць адны, пасумуюць. Будзе карысць усім нам...

# ЛАЎРЭНАВЫ ПРАЦАДНІ



I

*«...Вазіў гной — пяць вазоў (тры са свайго хлява, сам накідаў), торфу — чатыры вазы...»*

На гравійцы, каля Мікітавай грывы, Іра папрасіла шафёра прыпыніцца. Ухапіла чамадан, сумачку, скокнула з аўтобуса ў росную траву. Чырвоны «Ікарус» пакіраваў у бок Гомеля. Нейкую хвіліну Іра пазірала яму ўслед. З тым Светлаградскім аўтобусам нібыта ад'ехаў ад яе горад з усім яго камфортам і тлумам, разам з ім адкаціліся гарадскія турботы. І быццам яна сама ўжо не настаўніца Ірына Лаўрэнаўна, ■ Іра Рабянок, тая далёкая, вясковая Ірка-зацірка.

Яна спрытна сцягнула з ног басаножкі, падхапіла свае дарожныя пакункі і таропка пайшла ў бок Затур'і. Да вёскі тры кіламетры. «І добра, што тут не ходзяць машыны,— падумала Іра.— Хоць прайсці спакойна».

Нязвыкла басаног. Ранішняя прахалода пякла ў падэшвы. Іра збочыла са сцяжыны і прайшлася

па роснай траве. Халодныя кроплі абмылі ногі. Стала прыемна, аж дух займала.

Яна паставіла пакункі, прыгнулася і пачала збіраць у прыгаршчы срабрыстыя расінкі. Крыштальнымі пацеркамі віселі яны на траве.

Мокрымі рукамі Іра правяла па твары, расой прамыла вочы. І толькі цяпер адчула незвычайнае хараство: праз верхавіны стромкіх сосен прабіваліся пругкія промні, быццам з неба нехта свяціў магутнымі ліхтарамі. Промні тыя здаваліся яшчэ нацягнутымі струнамі вялізнага музычнага інструмента. Адна з іх спявала-залівалася салаўём. Другая адклікалася дзятлавым стукатам па сухастоіне. Трэцяя — зязюліным «ку-ку».

Іра прысела на краёчак чамадана, уздыхнула. Што і хто чакае яе ў Затур'і? Пустая бацькава хата?

Раптам, як прывід, перад ёй з'явілася Параска Коцур.

— Божа каханы, гляджу і ніяк не змікічу, чыя дзяўчына сядзіць... Аж гэта мо Ірка Лаўрэнава?

— Я, цёця Прося.

— От, бабская памяць...

— А вы так рана ў лесе? — каб пачаць размову, спытала Іра.

— Гэта ж на гравійку хаджу. Думаю, мо мінскім ахтобусам прыедзе сынок мой, Міхаська... Павінен прыехаць, аж не едзе... Другі тыднік...

— Ён вучыцца там?

— Ды не, мая ягадка, працуе ўжо. Мае ўжо ўсе чацвёра працуюць. Паразляталіся... У кожнага свае грошы... Таму рэдка да мацеры едуць... Пісьмы адвыклі пісаць... Іду вось ад гравійкі па лесе, думаю, грыба якога падбяру, а не ж, цябе напаткала...

Іра слухала цётку Параску, углядалася ў яе маршчыністы, крыху мужчынскі твар і прыгадвала, якой помніла яе з дзяцінства.

Парасчына хата стаяла на цагельні, крайняя. За ёй пачынаўся хмызняк. Так што воўк, які панадзіўся ў вёску, найперш завітваў да Парасчынага хлевушка. Злыдню таму ўдалося-такі схапіць удовіны цяля і козачку. Як галасіла тады цётка Параска! Мабыць, ад Парасчыных праклёнаў воўк згінуў, бо ў вёску болей не наведваўся. Так думалі тады дзеці. Ды і не толькі дзеці.

Цётку Параску з тае пары пачалі клікаць чараўніцай. І часцяком можна было пачуць ад сяльчан такое: «Пытаешся, калі гэта было? А-а-а, дык гэта ж у той год, як Параска Коцур ваўка пракляла».

Дзеці пабойваліся яе. Жанчына яна была маўклівая і зацятая, як кажуць, ваўкаватая. Магла выцяць хлызінай свайго і чужога, не любіла распусты.

Зараз перад Ірай сядзела згорбленая бабуля. З-пад выліналых броваў глядзелі на яе па-мацярынску ласкавыя вочы.

— Што, дачушка, цягне на радзімую зямельку?

— Ой, цётухна, як цягне... Адмовілася ад усяго, еду вось у адпачынак.

— Ну й справядліва зрабіла. Мілы той куток, дзе рэзан пупок... Толькі мамкі з таткам нямашака...

У Іры нешта ўсярэдзіне сцялася, і яна наўзрыд заплакала.

— Паплач, паплач, дачушка,— суцішвала Параска прыезджую.— Па гожых людзях не грэх паплакаць... А Лаўрэн з Марыляй жылі прыстойна...

Словы яе, як калыханка, супакоілі Іру. Яна далонямі выцерла вочы, падняла галаву, вінавата ўсміхнулася:

— Прабачце, цёця, не стрымалася...

— Нічога, нічога... Гэта добра, калі ўмееш жаласна плакаць... Я ж, мая ты ягадка, пражыла нябітая і непрыласканая. Колькі падушак змачыла слёзкамі за трыццаць гадоў... Усё Мікітку свайго чакала, не верыла пахаронцы... Охо-хо, ніхто не чуе, як удава кукуе...

Іры зрабілася сорамна за сваю слязлівасць. Да таго ж яна адчула і віну перад бацькамі, перад вось гэтай цёткай Параскай. Як з'ехала некалі з вёскі пасля дзесяцігодкі, дык паказвалася тут у гады рады, мімаходзь...

А мама з татам некалі ж, мусіць, у гэты час чакалі яе. Мо як Параска цяпер, прыходзілі сустракаць светлаградскія аўтобусы? Чакалі, старэлі па-

ціху дый паўміралі... Цяпер, з вялікім спазненнем, Іра ехала ў Затур'ю на цэлы месяц.

— Ну што ж, госцейка, пайшлі,— сказала цётка Параска, падхапіла кошык з сыраежкамі.— Давай падсаблю што несці.

— Ай, нічога... Сама...— адказала Іра.

— Яно-то й праўда, свая сярмяжка няцяжка, але ж у далёкай дарозе і іголка хунтам абернецца... Давай хоць сумачку паднясу.

— Ну, калі так...— пагадзілася Іра і працягнула сваёй спадарожніцы беленькую сумачку-радзікюль.

— Хвасоністая,— пакруціла Параска сумачку ў сваіх руках і прыцмокнула: — Толькі не да маіх убораў... От, мая ты Ірухна, век звекавала, а моды й не ўвазнала. Не было часу лынды біць...

— Вашы дзеці спазнаюць.

— Яно так, мая ягадка. Хлопцы калі папрыязджаюць, вой, лахматыя, не прывядзі госпадзі... Ваюю з імі, пакуль не паабстрыгаюцца... Няўжо гэта мода — кашлатымі хадзіць?

— Мода тое, што ўпрыгожвае чалавека, робіць яго прывабным.

— От і я ж, галубка, сваім пра тое дзяўбу, дак гавораць, ты, матка, адсталы алімент... А я шлунне з сябе выцягвала, а ўсё каб яны не згаладалі, не прахаладалі... Каб не горай, як у людзей...

Іры даўно карцела, каб цётка Параска расказала што-небудзь пра татку з мамкай.

— Раскажыце, цётачка, пра маіх, га? — папрасіла яна.

— Што расказваць, гаротныя людзі былі... Гэта ж цяперака ўсе паны, свіней няма каму пасвіць. Даўней калгаснік потам вырошчваў колас. Таму і хлеб больш цанілі. А цяпер зойдуць у магазін і porкаюцца, якую б буханку ўзяць...

— Раней працадні налічвалі за працу?

— Ага, мая ты ягадка... Працадні ў нас, бывала, брыгадзір-п'янчуга скручваў. Дак багата хто з калгаснікаў вялі сваю бухгалтэрыю. От твой бацька акуратна запісваў усё, што рабіў.

— Ага, я знайшла яго сшытак.

— Ён працаваць умеў, але ж і справядлівасць любіў... Як заўважыць, што брыгадзір круціць, ну і дасць жа мацюкоў... Мы, бабы, любілі яго за гэта. Бо пасля ягонай размовы з брыгадзірам той і нас шанаваў болей...

Цётка Параска прыпынілася, каб перадыхнуць. Ёй, відаць, цяжка было не ад кошыка з сыраежкамі, а ад успамінаў.

— От аднойчы сустракаю бацьку твайго, ідзе з калгаснага двара. Прыцемак ужо добра ўзяўся. Ідзе, бедны, ледзь ногі цягне. Аж снег жаласліва хрумкае пад бахіламі. «Чаго так, Лаўрэнка, познішся?» — пытаюся. «А-а,— кажа,— зямельку нашу падкармліваў. Дзе гноем засмярдзіць, там і ўрадзіць...» Вой-вой, выйшлі мы некалі з зямлянак, сабраліся на пажарышчах. Калгас арганіза-

валі, назвалі «Змагар» і пачалі змагацца... На калгасным працавалі, як на сваім...

Іра слухала цётку Параску і ў душы радавалася гэтай сустрэчы. Каб не яна, так бы і засталося ўражанне дзяцінства пра затур'янскую Параску. А якая ж яна ваўкаватая? Жыццё ўдовіна агрубіла яе. Цяперака, як дзеці ў вырай паляцелі, і яна палагаднела, паспакайнела. Бач ты, якая душэўная, гаманкая. «Дурні яе хлопцы, што не ездзяць да мацеры. Што б я зараз аддала, каб хоць на імгненне ўбачыць жывымі матульку і татку, каб нагаварыцца з імі, распытацца ў іх пра ўсё. Я ж амаль нічога не ведаю пра іх»,— думала Іра, а ўслых сказала:

— Ёсць такая прымаўка, цёця Парася: «На гэтым свеце не стомішся, на тым не адпачнеш».

— Правільна, мая ты Ірка. Нам-то лёгка будзе адпачывацца... І тваім тамака не сорамна ні перад людзьмі, ні перад дзецьмі... Вось толькі жывым сяму-таму сорамна перад тваім бацькам.

— А што такое? — чамусьці зачырванелася Іра.

— Хай пра гэта Волька раскажа. Яна ўсё ведае...

— Яна ў нас цяпер за маму,— сказала Іра.

— Праўда, што ўсе кроплі Марыліны падабрала... Але ж не пашанцавала і ёй, паспытала ўдовінага жытла — класціся з курамі, а ўставаць са свіннямі...

За размовай неўпрыкмет жанчыны падышлі да

вёскі. Зачарнеліся дахі забудоў. Цягнула дымком. Брахаў нечы сабака. Кукарэкнуў на ўсю ваколіцу заспаны певень.

— От і прыйшлі,— абрадавалася Параска.— Няма найлепшага кута ва ўсім белым свеце, чымся нашая Затур'я.

Іра ведала, цётка Параска за сваё жыццё мо далей раённага мястэчка не выбіралася, але не пярэчыла ёй. Сама ж яна бачыла мясціны лепшыя...

— Ой, цётачка, каб ведалі, як сэрца калоціцца, гатова выскачыць з грудзей,— азвалася Іра і паставіла чамадан на траву.— Усё наўкол такое знаёмае...

— От і добранька. Адпачнеш у нас не горай, як у тых санаторыях,— з гонарам сказала Параска.— Пайшлі, правяду да тваёй сястрычкі. Во ўзрадуецца...

## II

*«...Рэзаў і вазіў бярозу на ўзгалавашкі, асіну на ёрмы — тры вазы. Часаў узгалавашкі — 8 штук. Зрабіў два новыя ярмы з кульбакамі...»*

Пасля смерці бацькі Волька схуднела і пастарэла. А аднаго разу прыйшла з лазні, пачала расчэсвацца і цяжка ўздыхнула: валасы амаль усе сівыя. «Напішу Ірцы, каб якой мазі прыслала, трэба пад-

фарбавацца, нягожа з такой пары ў бабулі запісвацца».

Яна ніколі не адчувала сябе так сіратліва, як цяпер. Жыла без мужа, гадавала Лёніка. Потым і ён выкараскаўся з дзяціных порткаў, пайшоў у армію, адтуль — на цаліну.

Жыла адна, але не была адзінокая. Побач — бацькі. Браты, сёстры пісалі, наведваліся. А як не стала старых, дык ніхто не адгукнецца.

Кожную раніцу цяпер Волька мылася слязамі. Падыдзе да рамкі з фотакарткамі, а там усе — Мікалай, Генадзь, Алесь, Іра, Мілка. Прыгожыя, здаровыя, а ніхто слоўца не скажа. Толькі ўсміхаюцца, пазіраюць з рамкі. «За што ж вы на мяне крыўду займелі?» — папытаецца Волька, і слёзы самі скоцяцца на шчокі.

А то пойдзе ў бацькоўскі двор, адчыніць хату. Ціха, спакойна там. Няма гаспадароў, і ніколі ўжо не вернуцца. Сядзе Волька на лаўку, з якой у апошнюю дарогу выпраўлялі мамку і татку, наплачацца ўволю дый ідзе да свае хаты.

Гэтай раніцай Волька прачнулася, калі сонца было ўжо высока, а свінні разрывалі хлеў. «А-а, божа ж мой. Вось як задрамала, выгнаўшы карову...»

Волька апранула сукенку ў белыя рамонкі. Згрэбла ў куксу валасы, падаткнула іх грэбенем. Павязала галаву белай у чорныя бобкі хусткай і ўхапілася за вёдры. Трэба прынесці вады, дроў, запаліць у печы, навыбіраць са склепа прарослае

бульбы, замяшаць свінням, сыпнуць курам, сабе нешта прыдумаць на снеданне, абед. А дай ты рады, кожны дзень як той маятнік: сюды-туды. Канца й краю не відаць.

Калодзеж — праз дзве хаты. Волька выйшла на вуліцу. Хоць бы ніхто не прыкмеціў, а то засмяюць: праспала.

Зірнула ў бок цагельні — нікога, толькі Фёклін певень вывеў на вуліцу курэй. З другога канца вёскі ішлі нейкія дзве жанчыны. Яны былі далекавата, і Волька спяшалася набраць вады. «От горачка чубатае,— падумала Волька,— паспаць уволю і то сорамна».

Задыхаўшыся, яна падышла да калодзежа, пачапіла вядро і пачала даставаць ваду. «Што ж за кабеты клэпаюць?» — не давала спакою думка. Волька пераліла ваду ў парожняе вядро і перад тым, як зноў запусціць вочап у студню, зірнула на вуліцу. Жанчыны набліжаліся. Адна з іх — як бы Параска Коцур. А другая? Маладая, з чамаданам. Мо Параска нявестку займела? Дык чаго б яна без мужа ехала?

Так, учапіўшыся абедзвюма рукамі за вочап, Волька разгадвала загадку, зусім ужо забыўшыся, што трэба спяшацца ў хату.

— Божачкі, няўжо праўда?.. Гэта ж Ірка наша!..

Волька кінула вочап, выцерла рукі аб сукенку і подбегам кінулася насустрач госці. Каб магла, яна б узляцела, такімі лёгкімі зрабіліся ногі.

Сёстры расцалаваліся. Разам з імі не ўтрымала слязу і Параска.

— Хадземце ў хату... Што мы на вуліцы...— першая схамянулася Волька і ўхапіла чамадан.— Радасць якая... Госця мая дарагая...

Іра хацела не даць несці чамадан, але Волька запярэчыла:

— Хай сабе... А ты возьмеш вунь вёдры... Адно яшчэ трэба выцягнуць... Паглядзім, як ты ваду носіш, а, Параска?

— Будзе добра несці... Вясковыя хутчэй у горадзе звыкаюцца, чымся гарадскія ў вёсцы,— памяркоўна сказала Параска.

— А ці ж надоўга прыехала? — пацікавілася Волька, бо раней Іра заглядвала ў вёску на дзень-два.

— А пакуль не выганіш,— засмяялася Іра.

— Вой, дак па мне хоць жыць заставайся тутака. Бульба, хлеб ёсць. Скварка водзіцца. Малако карова дае. Грыбкі во пракідаюцца...

Волька зазірнула ў кошык да Парасці, а ў гэты час Іра па-сур'ёзнаму адказала на пытанне:

— Прыехала ў водпуск. Думаю, з месяц пабыць тут.

— Ашчаслівіла, сястрычка... Вой, радасць якая,— паўтарала Волька, не могучы яшчэ паверыць, што так прыемна пачалася раніца новага дня.

Параска разам з сёстрамі зайшла ў двор да

Волькі і моўчкі перасыпала з кошыка ў начоўкі свае сыраежкі.

— Што вы, цётка? — сказала Волька.

— Пачастуеш госцю... На снеданне сасмажыце,— рашуча адказала Параска.

— Дак заставайцеся, разам за стол сядзем,— прапанавала Волька.

— Не, Волечка, пабягу. Яшчэ ж не ўходжвалася дома. Прыйду як-небудзь.

— Дзякуй вам, цёця,— адказала Іра ўслед Парасцы, а Вольцы дадала: — Якая яна добрая, га?

— Добрая, ды вось хлопцы не ездзяць. Рады, што павырываліся з вёскі. А яна тлуміцца без іх... Пражыла баба, як у ступе пратаўклася... Пайшлі ў хату!..

Усё было так проста і так міла. У сенцах стаяў бярозавы цурбан, на які Іра паставіла вядро вады. Побач уся сцяна абклеена каляровымі вокладкамі з «Работніцы і сялянкі». У кутку — у рост чалавека дзежка з жытам, пральная машына. А ўгары да бэлькі падвешаны каўбасы, кумпякі.

Дзверы ў хату з «язычковай» клямкай. Ні табе французскіх замкоў, ні вочка, каб падглядваць, хто ідзе. Заходзь, добры чалавек.

— Ты ўжо, Ірачка, прабач, не вельмі прыбрана. Гэта ж здурнела сягонні, праспала,— паўтарала Волька.

— Ой, ну пра што клапоцішся,— супакойвала

Іра, і, як бы ўпершыню ў хаце сястры, пільна разглядвала ўсё.

У першай палавіне стаяла печ з лежаком, пячуркамі і комінам.

— Якая старая печ...— сказала Іра.— Памятаеш, комінак некалі замяняў лямпачку?

— Вой, Ірачка, не прыглядайся, у мяне ўсё старое,— гаварыла Волька і закідвала бярозавыя паленцы ў печ.— І хата старая, і печ, і я сама ўжо сівая зрабілася. Але каб Лёнік пагадзіўся вярнуцца ў Затур'ю, рашылася б на будоўлю. Такую б хату адчыбучыла, на цагляным падмурку, з шыферам. Ты, Ірачка, не думай, цяпер калгаснікі жывуць добра. Каб па старым часе, дак амаль кожнага можна раскулачваць.

— Так ужо і раскулачваць?

— Анё ж не,— стаяла на сваім Волька.— Нашы татка з мамкай да калгаса мелі ўласную зямлю. Кароў пару было, пара коней. Багатымі лічыліся. А не мелі часу паесці. Едзе татка ў поле і скварку сала з хлебам сухама ўплятае. Багаты, а ў лапцях хадзіў, свету белага не бачыў... Дай сягонні каму-небудзь з нашых вяскоўцаў гектараў пяць зямлі, дак пашле цябе разам з тымі гектарамі туды, дзе Макар цялят не пасвіў.

За фіранкай у буйныя чырвоныя макі — Вольчына пасцель. Тры пульхныя падушкі, матрац на пружынах, нікеліраваны ложак. А на сцяне папрыклейваны каляровыя паштоўкі, малюнкі з ча-

сопісаў, плакатаў. Каго тут толькі не было — партыйныя дзеячы, артысты, спартсмены, даяркі. Збіраць фотарэпрадукцыі — любімы занятак Волькі. Іра з цікавасцю разглядвала сястрыну выстаўку, заадно вывучала, хто падабаецца Вольцы.

У куце — стол з радыёпрыёмнікам і люстэрка з паўтыканымі ў яго фотакарткамі Лёніка. Канапа з вышыванай накідкай. Ля акна — рамка з партрэтам Волькі і яе мужа. «Як жа яго звалі? — падумала Іра і не магла прыпомніць.— От як брыдка, нічога не ведаць пра сваіх».

— Ну, ты не засумавала тут? — спыталася Волька, як толькі вярнулася ў хату.

— Што ты, Волька, не магу нацешыцца і даць веры, што я ў сваёй вёсцы і нікуды не спяшаюся.

— Раней бы так, мая Ірачка,— сказала Волька, скокнула на печ, ухапіла вялізную драўляную місу.— Патрывай трошкі, зараз блінцоў напячом...

— Ды не хвалюйся, я не галодная,— супакоіла Іра сястру і, каб перавесці гаворку на іншае, сказала: — Колькі ў цябе, гляджу, розных дзежачак, цэбрыкаў, начовак, місак, лыжак — усё адмысловае.

— Гэта ж татка некалі нарабіў. Ён майстар на ўсе рукі. Няма шака такіх работ у калгасе, каб ён не рабіў іх. А дома начамі майстраваў для сябе. Цяпер маладых вучаць спіцыяльнасцям розным, а нашага бацечку гора вучыла. Сям'я вялікая. У ма-

газіне не накупляешся, дый не было ў ім нічога. Вось татка і мудрагеліў сам для сябе. А пасля і для заробку пачаў вырабляць хатні посуд. Бандарыць навучыўся... Гэта пазней, як разжыліся трохі, дак і ён пачаў начамі спаць.

— Ён жа, помню, казаў, хату сам сабе зрабіў,— сказала Іра.

— Хэ, ці толькі сабе. Людзям колькі дапамагаў. І ўсё за дзякуй.— Волька нешта прыгадала, усміхнулася, а потым пачала расказваць: — Гэта ж Прося Канаплянікава, як сышлася са сваім прымаком, уздумала будавацца. І каб хутчэй было, запрасіла брыгаду будаўнікоў-валацуг. Дамовіліся на нейкую суму і на пятнаццаць абедаў. Пасля вайны добры абед у цане быў. Труднеча вакол. Закалола Прося свінчо і — што ты думаеш! — не хапіла яго на пятнаццаць абедаў... Дак колькі разоў выгаворвала на вёсцы: трэба было дзядзьку Лаўрэна запрасіць, а не гэных абжораў...

Праз нейкі час сёстры сядзелі ўжо за сталом, снедалі. Ахмялелыя ад сустрэчы, яны расчуліліся зусім.

— Расказала б пра сябе што,— папрасіла Іра.— А то, сорам несусветны, не ведаю нават, як твайго мужа звалі.

— Сястрычка мая любая, я сама яго мала помню,— сказала Волька.— Як сон... Давай памянём усіх блізкіх, каго няма шака з намі.

— Давай.

Волька з Ірай паднялі чаркі з наліўкай, самі падняліся. Моўчкі выпілі.

— Ну, закусвай. Здарожылася,— па-мацярынску запрашала Волька.— Ды не так мачаеш, смятаны ж хапае. Во як трэба: бяры блінец — і на адзін бок яго памачы, на другі, а потым старчма... Папрывыкалі ў тых гарадах усё куплёнае асцярожненька есці...

— Добра, добра, мачаць навучуся,— павесялела Іра.— Ты ж мне абяцала расказаць пра сябе.

— З Хведаркам мы гулялі нядоўга, а потым пабраліся,— Волька ўздыхнула.— Ды хутчэй бацькі дамовіліся, чымся мы самі. Бо Хведар быў ужо самастаяцельны хлопец. А я што, дзяўчо горкае, васемнаццаць гадоў. Перад вяселлем выменялі ў каравашніка Зуся тры метры шоўку, пашылі з яго сукенку чалавечую. А то ўсё калючыя, зрэбныя насіла. Даўней жа мама ткала і на пол, і на стол, і на ўсіх нас.

— Цяпер саматканае ў модзе,— сказала Іра.

— Гэта ўжо з-за роскашы,— разважыла Волька.— А тагды ж беднота прымушала ткацтвам займацца. На адны анучы не набрацца.

— Ой, ну болей перабіваць не буду, расказвай,— вінавата сказала Іра.

— Ну што, згулялі вяселле. Ды якое там вяселле, можна сказаць, перайшлі з хаты ў хату. Пачалі разам жыць. Хведар — чалавек прыстойны, уважлівы. Пражыла з ім усяго годзік. Як ночку пера-

спала. Разам з мамай цяжарнымі хадзілі. Вой саромелася! Яна нарадзіла мне брацiка Алеся, а я ёй — унука Лёніка.

— Пацеха,— Іра не вытрымала і засмяялася.— Выходзіць, побач у пялёнках ляжалі дзядзька і пляменнік.

— Ага... Ты от слухай ды еш,— сказала Волька і працягвала гаварыць: — Жылі мы з Хведаркам душа ў душу. Бог і людзі зайздросцілі.

Вольцы цяжка было гаварыць. Сама яна рэдка прыгадвала старое, тым больш ніхто і не распытваў яе. Сёння яна расшчодрылася на ўспаміны:

— Адцвіло маё замужжа, як макаў цвет. Пайшлі мы, бабы, лён палоць. Дзяцей пабралі. Даўней жа гадоўля якая была... Дасі цыцку, насмокчацца ўволю. З сабою яшчэ паўлітэрку малака прыхопіш і — у поле. Пакладзеш у баразне дзіцяня. Яно само і забаўляецца. Наравецца — знойдзе малако. Падбяжыш, а яно, мурзатае, трымае, бедненькае, паўлітэрку і смокча з соскі... Дак вось, пайшлі мы палоць лён. Сонца прыгравае. Песні спяваем. Аж ляціць да нас з вёскі на кані Мікіта Коцур, Парасчын мужык, і крычыць. Мы ўсе паразгіналіся, пацепваем плячыма: што здарылася? А ён падлятае да нас, конь храпе. Мікіта крычыць не сваім галасам: «Бабы, вайна!.. Гярманец наступае!..» Давай галасіць. Пахапалі дзяцей і па хатах. А ўвечар пачалі мужчын браць у салдаты. Расцалаваліся мы з Хведаркам. Наказаў, каб берагла сябе і Лёніка.

Хіба ж я ведала тады, што бачуся з ім апошні раз... Вось з тае пары, Ірачка, і жыву адна... Змардавала цябе сваёй гамонкай,— страпянулася Волька.— Ты частуйся, салаўя байкамі не кормяць. Мо яшчэ налііўкі? Нічога, здэцца, удалася?..

— Сытая ўжо,— адказала Іра, расчуленая Вольчыным расказам.

— Глядзі, каб голадам не марнавала сябе. Як захочаш есці, на палічцы ці ў кладоўцы што-небудзь знойдзеш. У наш час з голаду памерці — вялікі грэх.

— Дзякуй, сястрычка,— Іра падышла і пацалавала Вольку.— О, у цябе ўжо ўся галава сівая...

— Што ты, Ірачка, думаеш, столькі ўсяго перажыць... Хацела неяк табе пісаць, каб якой фарбы прыслала.

— А я прывезла,— весела адказала Іра.

— От малайчына. Ну, маладзіцца вечарам будзем, а цяпер адпачывай. Засні з дарогі. А я збегаю на сенажаць. Сена трэба падвярнуць. Брыгадзір яшчэ ўчора казаў. Шавяліцца трэба, а то рабіцьмеш фільгуючы — заплацяць дзянькуючы.

— Ты ж пісала, што на пенсію афармілася? — здзівілася Іра.

— Пенсію атрымліваю, але без працы і без людзей млосна. Вось і бегаю, як маладуха. Гэта ж калі чалавеку гадоў дзевяноста, тады старым лічыцца. А такія, як я, самыя работнікі... Ну, адпачывай.

Волька прыкрыла печ засланкай, бразнула клямкай.

Іра прыбрала са стала, памыла посуд. Прайшлася па ціхай хаце. Дарога і Вольчына наліўка адабралі ад яе ўсю жвавасць. Разамлелая, яна залезла ў мяккую сестрыну пасцель, але так і не заснула. Думала пра Вольчына жыццё, прыгадвала, як нядаўна хавалі татку...

## III

*«...Гарадзіў могілкі. Пасвіў валоў...»*

Жыў-працаваў Лаўрэн Рабянок дый ціха памёр.

Волька сцягнула са сцяны клунак, у якім было адзенне «на смерць», вынесла на двор, абтрэсла дзеркачом пыл. Разгарнула саматканую посцілку і знайшла там усё-ўсё, каб прыбраць бацьку ў апошнюю дарогу.

— А м-мой жа ты любенькі татачка-а-а...— загаласіла яна і ўпала ў траву, якая густа зелянела ў Лаўрэнавым двары.— А-а-а ты ж ужо даўно падрыхтаваўся-я-я... Сваімі ручкамі-і-і паскладваў адзежку-у-у...

Бабы паднялі Вольку разам з Лаўрэнавымі апраткамі. А тая ўсё нема трэслася ў плачы і цалавала пінжак, кашулю, споднікі.

Памылі, прыбралі бабы Лаўрэна, паклалі на лаву ў чыстай палавіне. Расселіся, што сарокі, вакол яго.

— От прыгожа ляжыць дзядок. Як жывы.

— Хай бы калі прыадзеўся ў такі касцюмчык, як жыў яшчэ...

— Куды б гэта ён так прыбраўся? Свінням карыта чысціць?

— Так ужо і свінням. Скажаш, Прося. Як быццам у нашай вёсцы вяселляў не гулялі ці хрэсьбін не спраўлялі?

— Дак Лаўрэн жа не піў,— азваўся Арцём Крупянка, які неўпрыкмет уліўся ў бабскі гурт.

— Піў, ды не так, як вы цяперака.

— А што мы?

— Піў, ды розуму не губляў... Не качаўся...

— Ой, пражыў Лаўрэнка, дай бог кожнаму. Гэта ж колькі яму?

— Мо гадкоў семдзесят?.. Волька, колькі твайму татку?

— Семдзесят шэсць,— тупа адгукнулася Волька, не зводзячы заплаканых вачэй з бацькі.

— О, бачыш колькі!.. Царыца нябесная, яны ж з маім Лявонам некалі грэчку касілі, стагі вяршылі. Усё разам, усё на пару... Стаханаўцамі былі... Хай бы ж прывет перадаў там майму Лявонку. Беднень-кага мо ўжо і костачкі пагнілі...— Цётка Аксіння выцягнула насоўку з рукава і высмаркалася.

— Вой, мо-ой-й татачка-а-а... А куды ж ты са-

браўся-я-я?..— зноў загаласіла Волька, і бабы кінуліся да яе.

— Ну, чаго ты равеш?.. Плач не плач — бацькі не падымеш... Пражыў сваё. Хай толькі Лаўрэнка доўга чакае нас...

— А я ж, бабы, была ўжо на тым свеце,— адгукнулася Гэля Скакун.

— Што ты кажаш?! — здзівілася Прося Канаплянікава і ўтаропілася шклянымі вачыма на Гэлю.

— Не глядзі на мяне гэтак. То ж мне снілася, што я была на тым свеце.

— Так бы і сказала адразу,— трохі зазлавала Прося Канаплянікава.

— Дак вось, трапіла я, здэцца, на той свет,— нетаропка пачала Гэля Скакун, і ўсе прыціхлі.— Іду, іду...

— Ну і як там? — не ўтрымалася цётка Аксіння.

— А ліха яго ведае. Думаеш, вельмі помню. Іду, здэцца, па лузе. Трава па калена. Кветкі вакол. Са мной сусед Мікіта Сідарэнка. Ага, ідзём... Аж бачым — пасярод лугу стаіць печ. Ну, такая, як у нас, у хатах. Толькі комін у той печы аж пад саменькае неба. Мікіта кажа: «Давай, Гэля, злазім, паглядзім, што тамака дзеецца...» А я кажу яму: «А калі загрымім адтуль?» Ён усё падгаворвае мяне: «Палезлі, дурніца, а то закіснеш у Затур'і і свету не пабачыш...»

— Царыца нябесная, ну і што, палезлі? — зноў не ўтрымалася цётка Аксіння.

— От гарачая ты цётка... Май жа цярпенне, слухай...

— Ды цярпення ўжо не хапае... Цягнеш, як ката за хвост...

— Няўжо ж, як ты, не гаворыш, а стракочаш, што з кулямёта...

— От ціха вы ўжо, Лаўрэна пасаромеліся б. Счапіліся, нібы тыя куры,— уціхамірыла баб Фёкла Горбач, а Гэлі кіўнула: маўляў, кажы далей.

Гэля Скакун закапыліла была губы, але, калі ў хаце сцішыліся, пачала зноў:

— Ну дык вось, угаварыў мяне Мікіта палезці ў той комін. Але ж я не дурная. Кажу: «Мікітачка, лезь ты першы ды падай мне руку. Тады мо й усцягнуся...» Пагадзіўся. Лезем... Горача... Няёмка... А тут яшчэ Мікіта кляне мяне: от, кажа, на сваю галаву цябе за сабой павалок... Цяжкая ты, кажа, як з волава адлітая. Мо сто пудоў важыш... Сілы, кажа, мае на зыходзе... Вой, бабы, я ўжо і сама не рада, што адважылася перціся на тое неба... Але ж назад толькі ракі поўзаюць. Ахвота ж зірнуць, пакуль жывыя, на той свет... Ну, урэшце ўсцягнуліся... У вочы як дасць чырвоны прамень, як загрыміць у небе... Прачынаюся, а мой Мітрафан уключыў святло ў хаце і кашляе-бухае, аж шыбы трасуцца.

— От, качарга старая, не даў пабыць табе на небе,— паспачувала Параска Коцур.

— Але... Расказваю яму свой сон, дак не здзі-

віўся, што на неба ўзлезла, а кажа: «Якога ты чорта з чужымі мужчынамі па комінах швэндаешся?»

— Раўнуе,— разважыла Прося Канаплянікава. Усіх мужчын яна параўновала са сваім прымаком Іванам, які быў маладзейшы за яе на пятнаццаць гадоў.

— Дзеўкі, слухайце, сабраліся во разам, дак давайце дамовімся: мо кароў на ранак ужо не будзем ганяць? — прапанавала цётка Аксіння.

— У хляве хоць аваднёў меней. На стойле ж іх чорна...

— На аваднёў каровы хвасты маюць. Толькі нам бы самім вальней было. Цэлы дзень слабодныя. А то ляці з поля даіць карову.

— Не пагонім! — рашылі бабы і спахапіліся, як бы ўспомнілі, чаго сабраліся, зноў загаманілі пра Лаўрэна Рабянка.

А Лаўрэн ляжаў на лаве і нібы ўсміхаўся ў сівыя вусы: гаманіце, гаманіце, бабкі, пацешце старога напаследак.

У той дзень уся вёска перабывала ў Рабянковай хаце. Сабраў Лаўрэн сваёй смерцю ўсё сваё патомства: трох сыноў, трох дачок, шасцярых унукаў і двух праўнукаў.

Адплакалі, адгаласілі па ім. Завезлі на коніку ў хвойнік за вёску, там на могілках і пахавалі. Нехта з дасціпных суседзяў прымацаваў на крыжы дошчачку, якую Лаўрэн сам падрыхтаваў яшчэ пры жыцці. На ёй Лаўрэн, як умеў, напі-

саў: «Людзі дарагія! Вы яшчэ ў гасцях, а я ўжо дома. Побач мой сябар ляжыць, але нічога не гаворыць».

Побач была магілка жонкі Марылі. На магілцы цвілі ўжо кветкі, выткнулася некалькі сцяблін папаратніку і маленькая рабінка.

Сабраліся вяскоўцы, памянулі Лаўрэна. Дзеці нябожчыканазвозілі розных прысмакаў. Такіх, што мо сам Рабянок пры жыцці не спытаў.

Дзеці не вельмі песцілі яго сваімі візітамі. Як паразляталіся некалі з бацькоўскага гнязда, дык збіраліся ўсе разам толькі тройчы: калі старыя спраўлялі залатое вяселле, калі памерла маці і во зараз зляцеліся на пахаванне бацькі.

Пачаставаліся вяскоўцы дый разышліся. А ў Рабянковай хаце засталіся дзеці. Волька выйшла на сярэдзіну і дрыготкім голасам абвясціла:

— От мае родныя, татка пакінуў нам спадчыну.— Волька не ўтрымалася, заплакала, яе пасадзілі на канапу, суцішылі, беражком хусткі яна выцерла вочы і казала далей: — Знайшла ў яго касцюме, што вісеў на смерць, во гэты скарб. Шэсць сотень рублёў. Кожная сотня перакладзена траячкай. Так што сабраў наш бацечка з свае пенсіі кожнаму па сто рублёў...

Волька зноў заплакала. Мілка, самая малодшая з Рабянкоў, выхапіла з рук Волькі грошы і пачала разносіць. Мікалай, Генадзь і Алесь абыякава сунулі свае сотні ў кішэні. Мілка ўкінула свой пай у

чорную сумачку з блішчастымі кутасамі. Іра трымала грошы ў руцэ і плакала, выціралася імі, цалавала іх, прыгаворваючы: «Татачка мой роднанькі-і-і...»

Перакладзеныя траячкай, тырчалі чырвоныя дзесяткі разам з насоўкай у вільготных руках Волькі. Яна перастала плакаць і прыглушаным голасам сказала:

— Брацікі мае і сястрычкі, давайце гэтыя грошы складзём і пабудуем нашым татку і мамцы людскі помнік...

— Правільна! — азвалася Іра і першая паклала на стол грошы.

Паверх ускінула свой пай Волька. Моўчкі пстрыкнула сумкай Мілка. Палезлі ў кішэні па грошы Мікалай, Генадзь, Алесь.

Рабянковай спадчынай заставалася яшчэ хата і ўсё дабро, што ў ёй.

— Ведаеце што? — прапанавала Іра.— Па няпісанаму вясковаму закону, хата бацькоў застаецца найменшаму з дзяцей. Выходзіць, хата Мілчына. Але ж усе мы тут жылі, нечым дапамагалі... Давайце пакінем хату бацькоў для ўсіх нас. Мо хто водпуск тут правядзе, мо хто непадалёку праязджаць будзе, загляне сюды... Няхай усё ў хаце захаваецца, як пры жыцці таткі і мамкі... А Вольку папросім, каб назірала. Мо калі печ прапаліць, каб цвіль не пайшла... Як ты, Волька?

— Вой, Ірачка, і мне ж радасна будзе, калі на-

ведвацца будзеце...— азвалася старэйшая з сясцёр, Волька, і зноў не ўтрымалася, заплакала.

Мілка, Мікалай, Генадзь і Алесь ухвалілі словы Іры. Сёе-тое, праўда, было ўзята. Як бы сувеніры.

Мікалай, як старэйшы сярод хлопцаў, першы падаў прыклад. Ён доўга корпаўся пад паветкай, якая служыла бацьку сталярняй. Прыдзірліва аглядаў інструмент, асірацелы без гаспадара. Нешта прымерваў, прыкідваў, а потым нясмела абвясціў:

— Усё роўна валяцца будзе, гнісці... Забяру сабе фуганак, долата. Пілу во гэту, лучкоўку, з якой бацька некалі ездзіў у лесанарыхтоўкі...

Ніхто не пярэчыў. Бяды столькі, хай бярэ. Волька толькі падзівілася:

— Што ты, мой братка, будзеш рабіць гэтымі фуганачкамі ў сваёй гарадской кватэры?

— Дам рады...— адказаў Мікалай, і Волька болей нічога не пыталася. Усе ведалі, які памяркоўны і гаспадарлівы ўдаўся іх Мікалай.

Генадзь агледзеў у кладоўцы кубелец для сала і заявіў:

— А я вазьму сабе во гэта... Жывём мы ў мястэчку. Бывае, свінчо якое заколеш, дык от добра будзе скласці свежаніну...

— Бяры сабе,— першая азвалася Волька на правах старэйшай у сям'і, а цяпер ужо і гаспадыні асірацелай хаты.

Ёй анічога не шкода. У яе свая гаспадарка, усё нібыта ёсць. Яна нават радавалася, што братам не-

шта спатрэбілася і яно ў іхніх дамоўках будзе нагадваць пра бацькоў.

Алесь, каб не адстаць ад братоў, вырашыў таксама прывезці сваёй Марусі сувенір. Яна даўно прыбрала яго ў свае рукі, і ён паслухмяна сядзеў пад яе пятой. Таму ў кожнай адлучцы найперш думаў пра тое, як сустрэне яго Маруся, што прывезці жонцы, каб улагодзіць і не напароцца на няміласць. Прыкінуўшы, што было б жонцы да густу, Алесь вырашыў узяць палатняныя ручнікі. Іх некалі ткала мама.

Мілка прыхапіла самавар. Волька толькі параіла:

— Вазьмі, Мілка, яшчэ стары бацькаў чобат і вуголля. А то як жа распаліш яго...

— Не трэба,— хмыкнула Мілка.— Самавар у горадзе — самы мадняк цяпер... Закіпячу вады на пліце, у самавар выллю, і чай гатовы... Хто ж чобатам распальвае самавар?..

Волька крыху збянтэжылася і маўкліва дакарала сябе: «Прастата вясковая». Але засталася пры сваёй думцы: сапраўдны чай той, што кіпіць у самім самавары, калі самавар дыхае чырвонымі вугольчыкамі. А то як жа: дзесьці нагрэй ваду, потым вылі ў самавар? Гэта ж як пойла для цяляці.

— Ты б, Волька, што сабе ўзяла? — сказаў Мікола.

— Ой, Міколка, што ж мне браць? Я ж тутака... Кожан дзянёк магу прыйсці, пабыць у бацькоўскай

хаце, пахадзіць па двары... Толькі нікога не сустрэну...— Волька зноў не ўтрымалася і галасна, наўзрыд заплакала.

Яе акружылі, пачалі супакойваць, як бы ў адной яе было гора. Волька сцішылася і, выціраючы далонямі слёзы, адказала Міколу:

— Калі не будзеце пярэчыць, мае родныя, то я перанясу ў сваю хату вунь тыя рамкі з фотакарткамі... Тамака ёсць мамка з таткам, як былі яшчэ маладыя... Тамака ёсць усе вы... Хай будзе памяць...

— Канешне, бяры...— першы адгукнуўся Генадзь і палез здымаць рамкі.

Іра ўвесь гэты час сядзела на покуце. З галавы не выходзілі думкі пра татку. Жылі, гадавалі бацькі дзяцей, а цяпер у хвойнік перабраліся. Былі людзі, а цяпер толькі два земляныя пагорачкі. Ніяк не хацелася з гэтым мірыцца...

Неўпрыкмет для сябе Іра пачала перабіраць паперы на этажэрцы, якую некалі змайстраваў татка. Там купкамі валяліся газеты, пісьмы, даўнейшыя падручнікі. Раптам Іра знайшла самаробны сшытак са шпалеры, перашыты драцянымі ніткамі. На пажаўцелай, «аблашчанай» мухамі вокладцы было напісана: «Калгас «Змагар». Рабянок Лаўрэн Іванавіч».

Іра разгарнула сшытак і, усхваляваная, пачала разглядаць бацькавы запісы.

Чыстыя бакі шпалеры акуратна разлінаваны алоўкам. На іх уборыстым почыркам запісаны ме-

сяцы і дні года. Супраць кожнага дня — адзнака: што рабіў, дзе быў Лаўрэн Рабянок.

— Глядзіце, што знайшла! — не ўстрымалася, ледзь не крыкнула Іра.

Сышліся ўсе да яе. Па руках пайшоў шпалерны сшытак.

— А-а, гэта ж татка вёў улік сваіх працадзён...— спакойна сказала Волька.

— Запісваў, што рабіў у калгасе. О, глядзіце: «Вазіў снапы жыта — 7 вазоў»,— прачытаў Мікола (ён добра ведаў гэты сшытак).

— Папрацаваў наш татка, будзь здароў...— цяжка ўздыхнула Волька, вярнула Іры сшытак і ціха сказала: — Захавай на памяць... Будзеш ведаць, што рабіў наш татка... Як мы жылі, аб чым клапаціліся...

## IV

*«...Працаваў на лесапілцы. Нарэзалі шалёўкі 468 метраў, дошак — 56 метраў. Насіў шалёўку. Абшыў вароты ў цялятніку. Гарадзіў плот ля валовага хлява...»*

Рыба і госць, як кажуць у народзе, на трэці дзень псуюцца.

На трэці дзень Ірынага гасцявання сапсавалася толькі неба. Абцягнулася таропкімі, курадымнымі

хмарамі. Яны ўпачатку кудысьці спяшаліся, а потым прыпыніліся над вёскай і расплакаліся.

Волька такі казала звечара, што назаўтра будзе дождж. Яе прыкметай стала чорная Максімава карова. Як ідзе з пашы наперадзе статка, так і вядай — к дажджу.

Іру заспеў дождж у лесе, на Хаўрусных. Яна і не думала вяртацца дамоў. Што можа быць прыемней: памыцца цёплым, летнім дожджыкам і назбіраць кош грыбоў!

Было такое адчуванне, што Іра не проста прыехала да сястры ў госці. Яна вярнулася ў сваё дзяцінства. Кожны дзень бывала ў бацькоўскай хаце. Распальвала ў печы, сушыла, марынавала грыбы. Адпачывала на ложку, на якім сама некалі спала.

Яна выйшла на ўскраек лесу, адтуль відаць уся Затур'я. Сорак хат у вербах і яблынях. Вакол вёскі — палеткі, сенажаці. А далей — дубровы, бары.

Іра прыгадала дзеда Максіма і зусім забылася пра дождж і грыбы.

Учора яна хадзіла да яго. На лаве сядзеў стары, як выліняла пад сонцам і дажджом балотны корч. На пажоўклых, сухіх руках — сінія жылы. Барада і нос завастрыліся. Твар, як бубен, абцягнуты скурай. Толькі зашнуроўка дзесьці ў нябачным месцы аб'ехала і скура зморшчылася.

Дзед быў у кашулі ў клетку з моднымі нагруднымі кішэнямі, у джынсавых штанах. Відаць, гэту апратку падкінулі гарадскія ўнукі. Стары не цураў-

ся такіх падарункаў, не грэбаваў імі. Ён быў малайцаватым дзедам: з гадамі яго не пакідала, як ён сам казаў, маладосць-дурносць. Мог дзе на бяседзе знячэўку ўшчыкнуць якую маладзіцу за бок. Тая вішчыць немым голасам. А ён вызкаліць свой адзіны зуб і рагоча. А то напалохае каго: падкрадзецца ціхенька і я-як гаўкне! Той аж прысядзе: «А каб ты, Максім, жыў сто гадоў».

— А я буду жыць сто гадоў і два тыдні,— заўсёды адказваў дзед.

— Навошта ж табе яшчэ тыя два тыдні?

— А на роздум. Ці варта паміраць?

Іра помніла дзеда Максіма і як знахара. Аднойчы ўскочыла ў яе на верхняй губе скула. Няма паратунку. Маці забожкала, пабегла да Максіма.

Прычыкільгаў лекар да іх. Абгледзеў Ірын твар і кажа: «Зараз вылечым».

Іра лягла на ложак. Дзед Максім накрыў твар хустачкай, паверх паклаў дубовых лісцяў, зноў хустачку. І пачаў на твары запальваць тоненькія пасмачкі кудзелі. Паліць і мармыча нешта. Разабраць анічагуткі нельга.

Назаўтра дзед паўтарыў свае лекі. І, праўда, пайшло на папраўку.

З тае пары дзед стаптаў не адну пару чобатаў. Але застаўся ў Ірыным уяўленні такім жа рухавым і загадкавым, як быў. Ёй даўно карцела пагаварыць з ім.

Іра адчыніла рыпучую брамку і ступіла ў двор

да дзеда Максіма. Той адразу ўтаропіўся на незнаёмку і, не пазнаўшы яшчэ, хто ідзе, пачаў запрашаць:

— Праходзьце, праходзьце...

— Добры дзень, дзядуля,— прывіталася Іра і пачула, як захвалявалася. Дзед жа Максім быў сябрам яе бацькі, яго равеснікам.

— А-а-а, Лаўрэнава дачушка! — узрадаваўся дзед, і твар яго пасвятлеў.— Які ж, дзяўчынка, анёл цюкнуў табе ў галаву, што ўдумала зайсці да старога бабыля?

— А вось ішла па вуліцы дый завітала.

— Дзякуй табе, дачухна,— сказаў стары Максім.

Вочы дзеда пачырванелі, павільгатнелі. Іра адчула, што стала вельмі шкадаваць старых. Яны ж, як малыя, хутка расчульваюцца. Любяць ласку і ўвагу.

— А вы добра яшчэ выглядаеце,— сказала Іра.

— Скрыпучае дзерава доўга стаіць,— знайшоўся што адказаць дзед Максім, памаўчаў крыху і дадаў: — Але ж, мая любка, чалавек, як муха: тут е, а тут няма.

З задняй кішэні джынсаў дзед Максім дастаў жоўты партсігар, на якім былі выціснуты касмічныя ракеты і зоркі. Паклаў «беламорыну» паміж сваім адзіным зубам унізе і верхнім радам металічных зубоў. Папяроса тырчала ўверх кандзібоберам.

— Дак вот, скажу я табе, дачухна, што такім,

як я і твой бацька Лаўрэн, трэба ў калгасах помнікі ставіць.

— Героям яшчэ ўсім не пастаўлены,— сказала Іра.

— А мы што, не героі? — Дзед Максім нават азлаваў.— Па сорак гадоў у калгасе адмянташылі. У вайну як маглі дапамагалі... Усяго што медалёў не маем, дак што, ужо і не героі?

— Папрацавалі-то вы ўдосталь.

— У-уга-а!..— махнуў дзед і дастаў з рота папяросу, каб не перашкаджала расказваць.— Падлічы, мая любка, колькі мы за сорак гадоў сенакосу выкасілі, па колькі разоў зямлю затур'янскую перааралі... Ды мы ж во гэтымі рукамі калгас збудавалі.

Дзед Максім прытушыў «беламорыну». Відаць, партсігар насіў для формы. Бо курыў без зацяжак. Так, для паху. І расказваў далей, не спяшаючыся, з прыпынкамі, як гэта робяць усе бывалыя людзі.

— Узяліся ўжо ў моц перад вайною, дак на табе, гярманец-паршывец убіўся. Свае парадкі пачаў уводзіць ды нервы людскія матаць на кулак... У-ух, нячыстая сіла навалілася была на нас!.. А як адступаў, гад, дак усё падчыстую спаліў, каб яго й на тым свеце палілі. Сабраліся ў вёску, ані курчаці, ані парасяці. Пуста. Нас, мужчын, трое было: я з лесу вярнуўся, паранены, бацька твой, інвалід яшчэ грамадзянскай, і крывы Арцём Крупянка. Мы будоўляй займаліся, да зімы трэ ж было ўсім жытло якое зрабіць. А бабы сабралі ў торбачкі ў каго што

было: у каго зярнятка, у каго бульбінка, у каго насенне якое. Пабралі жалезнякі і давай пляжыць калгаснае поле. А то ўчэпяцца ў плуг — адна кіруе, а шэсць цягнуць...

Дзед Максім прыпыніўся, пракашляўся і хітравата прыжмурыў вочы:

— У горы жылі, а як і не гаравалі. Елі хлеб з вадой, а хвост пісталетам трымалі. Радзіва не мелі, дак самі спявалі. Вольная зямелька была нам, як зморанаму пасцелька... Э-эх, а цяперака і хараша ходзяць, і смачна ядуць, а весяліцца не ўмеюць...

Іра маўчала, думала пра дзеда Максіма. Два сыны яго загінулі ў вайну. Жонку Куліну гадоў пяць назад падстрэлілі ў арэшніку. Пайшла арэхі рваць, а зяцькі суседа прыхапілі ружжы і ў лес, упаляваць што-небудзь. І трэба ж так здарыцца: Куліна гнула арэшыну, а гора-паляўнічыя праходзілі непадалёку і рашылі, што дзік зварухнуўся ў кустах. Ну й бабахнулі з чатырох ствалоў. Баба Куліна ціха войкнула і асунулася ля карнявішча куста. «Якім жа моцным жыццялюбам трэба быць,— думала Іра пра дзеда Максіма,— каб пераждыць гора за горам і застацца чалавекам, нават ганіць людзей, што не ўмеюць весяліцца».

— Ага-а-а,— працяжна сказаў, як уздыхнуў, дзед Максім і зноў прысмаліў «беламорыну».— Пачалі разжывацца. Нямецкіх коней нам далі. Каровы займелі. Пару волікаў абучылі хадзіць у ярме.

Адрамантавалі збрую, плугі, бароны, калёсы. І наш «Змагар» пайшоў угору. Увосень калгас, я быў тады старшынёй, здаў дзяржаве дзве тысячы пяцьсот кіло збожжа, чатыры свінні, тры штукі рагатай жывёлы. Колькі радасці і гонару было ў кожнага з нас!.. От я табе зараз нештачка пакажу.

Дзед борздзенька падхапіўся і пашлэпаў у хату. Іры было прыемна, што прынесла радасць адзінокаму чалавеку. Як мала чалавеку трэба для радасці: проста зайсці да яго, спытаць пра здароўе, умець выслухаць, даць выгаварыцца.

— О, знайшоў! — выйшаў на ганак дзед Максім, у руках трымаў збуцвелую газетку.— Тут пра нас з Лаўрэнам прапісана. Чытай.

— А дзе чытаць? — спытала Іра.

— Во тутака,— дзед Максім ткнуў пальцам у газетку, а сам падрыхтаваўся слухаць.

Іра пачала чытаць:

«Адбылася раённая нарада старшых конюхаў. З дакладам выступіў старшыня райвыканкома М. С. Валковіч. Ён расказаў аб выкананні плана развіцця конскага пагалоўя і далейшых задачах у адраджэнні калгаснай конегадоўлі...»

— А дзе ж тут пра вас? — здзівілася Іра.

— А мы з Лаўрэнам былі на тым з’ездзе. Ты чытай.

Іра з хваляваннем чытала пра нараду конюхаў, якая была ў раёне аж у 1946 годзе. Газета ўзнаўляла даўно забытыя падзеі мінуўшчыны.

«...У калгасе «Змагар» (вёска Затур'я) 17 галоў коней. Выкананне плана развіцця конегадоўлі ідзе, галоўным чынам, за лік прыплоду. Тут конюхам працуе стаханавец Лаўрэн Рабянок. Ён своечасова корміць і поіць коней, сочыць за правіламі эксплуатацыі іх у рабоце. Старшыня калгаса М. І. Лешчанка патрабуе, каб беражліва ставіліся да цяглавай сілы...»

Іра адарвалася ад газеты і зірнула на дзеда Максіма, Максіма Іванавіча Лешчанку. Ён сядзеў задаволены, нават не заўважыў на сабе Ірын позірк. І каб не парушыць дзедавага настрою, Іра пачала чытаць справаздачу аб нарадзе конюхаў. Гэта была, відаць, вялікая падзея ў раёне.

На трэцяй калонцы тэксту Іра нечакана для сябе яшчэ раз прачытала прозвішча бацькі. Голас яе задрыжаў, у твар шыбанула гарачыня:

«...Слова папрасіў старшы конюх калгаса «Змагар» Лаўрэн Рабянок. Ён сказаў з трыбуны: «Конюхам я працаваў пяць гадоў яшчэ да вайны. Гэтай работай пачаў займацца і пасля вызвалення, як толькі з'явіліся ў калгасе коні. Усе нашы 17 коней замацаваны за сталымі ездавымі. Працуем па ўстаноўленаму распарадку. Я сам устаю ў тры гадзіны раніцы і іду на канюшню. Да світання ўсе нашы коні заўсёды накормлены і напоены. Сам заглядваю ў кармушкі, правяраю, як кожны конь есць. Сачу, каб ездавыя правільна запрагалі коней. Удзень варым бульбу для абмешкі коласа. Вечарам пра-

вяраю, у якім стане вярнуліся коні. Ставім у станкі, даём колас з бульбай. Познім вечарам іду да хаты.

У заключэнне я хачу яшчэ раз сказаць, што каня патрэбна любіць і глядзець і конюху, і ездавому, і ўсім калгаснікам».

Іра закончыла чытаць, ласкава паглядзела дзеду ў вочы.

— Вось, дзядуля, гэта газета і ёсць вашыя медалі.

— Але ж яе не пачэпіш на кашулю,— адказаў дзед Максім і махнуў рукой: маўляў, не ў гэтым справа.— Ты от слухай, любка, далей. Бацька твой на трыбуне схлусіў трохі. Ён жа працаваў не толькі конюхам. Гэта была яго ганаровая пасада. Даверылі як самаму стараннаму, паважанаму калгасніку. А мардаваўся ён кожны дзень, як і ўсе. Вазіў, касіў, малаціў, араў. І хоць мы атрымлівалі за сваю працу меней, чымся кошка наплача, але гаспадарка наша выжыла, паднялася ўгору. Цяперака колішні «Змагар» усяго толькі паляводчая брыгада калгаса «Сцяг перамогі». А сам ужо калгас у-уга-а які стаў...

Дзед падняўся з лавы, каб размяцца. Выпрастаўся. Прайшоўся па сваім двары.

Іра заўважыла задаволенасць дзеда сабой: не на дарэмшчыну жыў!

— Змарыў цябе размовамі. Колькі валасоў на галаве, столькі нагаварыў слоў. Ты прабач ужо,

дачухна: старога меха не залатаеш,— вінавата пазіраў дзед на Ірыну і ціха дадаў:— Я рады, што ёсць хоць каму расказаць, як мы дабіваліся сённяшняй жыткі.

— А да вас прыходзяць, наведваюцца? — спытала Іра, маючы на ўвазе цяперашняе калгаснае кіраўніцтва, піянераў, настаўнікаў, вяскоўцаў.

— Прыходзіць пагуляць Параска Коцур. Пагаворым з ёй, паўспамінаем. Карову калі падахвоціцца падаіць, кашулю памые. Мы з яе Мікітам бачыліся ў партызанах незадоўга да яго гібелі. Вось яна і прыходзіць, выпытвае. І кожным разам нешта ўсё новае прыдумляю ёй пра Мікіту... Манька мая, адзіная дачка, жыве ў горадзе. Дак яна прыязджае. Унукі летам бываюць...

— А з раёна не наведваюцца да вас?

— Як жа. На святы прысылаюць падарункі. З райсабеса прыходзяць паштоўкі. Заўсёды вітаюць з Днём Перамогі... Давай лепей малака глынём, га?

— Ды не турбуйцеся, дзядуля! Пайду зараз да Волькі.

— Ай, у Волькі Вольчына, а то маё. Ніколі не адмаўляйся ад пачастункаў. Каму салжэш, а кішцы ніколі.. Чакай!..

Дзед пайшоў у хату. Іру не запрашаў. Мо таму, што было горача і мух развялося. А мо не хацеў, каб гарадская дзяўчына бачыла яго бабылёўскія ўборы.

Дзед Максім вынес на вуліцу гладыш малака, батон, цукерак, два кубкі і табурэт.

Так і заседзелася Іра ў гасцях. Нагаварыліся ўволю, аж пакуль Волька не прыйшла шукаць яе.

...Які ўжо час Іра стаяла на ўскрайку ўрочышча Хаўруснае і пазірала на сваю родную вёску Затур'ю. Вунь там, за кучаравымі вербамі, у хаце пад шыферным дахам жыве дзед Максім. Іра да дробязяў прыгадвала ўчарашняе гасцяванне ў яго, і ёй станавілася горача. Яна ж сама толькі цяпер даведалася, што гэта за чалавек. А са сваім бацькам так і не знайшла часу нагаварыцца.

«Прабач, мой родны татка»,— уздыхнула Іра, і хоць дождж даўно прыпыніўся, збіраць грыбы прапала ахвота.

## V

*«...Сек вяззе, выкапаў полаза на санкі. Рамантаваў драбінкі — 3 шт., розвальню. Часаў капылле, ручкі. Звіў дзве аборы...»*

Усе хаты пазіраюць вокнамі на вуліцу. Толькі прымак Просі Канаплянікавай Іван закамандаваў некалі будавацца да вуліцы глухой сцяной. З тае пары прайшло шмат гадоў, а Іван так і не стаў сваім чалавекам у вёсцы. Людзі не маглі даравацъ,

што ён сваёй пабудовай як бы адвярнуўся ад іх, схаваўся.

У Затур'і прывыклі ведаць усё пра кожнага. Калі скрытны — нядобры чалавек.

Вольчыны вокны нястомна «сочаць» за вуліцай: ці ты на кухні, ці на чыстай палавіне. Калі хто пройдзе пад вокнамі, Волька ўжо ведае, да каго ідзе чалавек і па якой патрэбе.

— Вунь Надзя Яўменава ідзе. Паштарка наша,— адвярнуўшыся ад печы, сказала Волька.

— От, каб зайшла да нас. Трэба канвертаў купіць. Пісьмы панапісваць,— занепакоілася Іра, кінула абіраць бульбу і зазірнула ў акно.

— Не хвалюйся, сама зойдзе,— супакоіла Волька.— Яна ж не вытрымае, каб цябе не ўбачыць.

Сапраўды, паштарка прыпынілася ля Вольчынай брамкі і пачала адчыняць яе.

— Я ж табе казала,— узрадавалася Волька ад таго, што не памылілася.

Волька адчыніла дзверы ў сенцы, каб Надзя не зачапілася за што і не бразнулася.

— Праходзь, Надзюха, пагуляй у нас.

— Ды гуляць няма калі. Пісьмо табе, Волька, прынесла.

— Пісьмо?!. Ад каго ж?.. Мо ад Лёніка?..

— Не, ад Мілкі вашае.

— От дзіва, як жа гэта яна надумалася...— сказала Волька, патрымала ў руках канверт і перадала Іры.— На, прачытай. У цябе вочы вастрэйшыя.

Іра ўзяла канверт, але разрываць не спяшалася, бо да яе падышла Надзя, паздароўкалася і спыталася:

— А ты, Іра, надоўга да нас?

— На месяц, у адпачынку я цяпер,— адказала Іра, хоць адчувала, што і Надзя, і ўся вёска даўно ўжо ведаюць пра гэта.

— Перамянілася, не пазнаць,— сказала Надзя, з зайздрасцю паглядзела на Іру.

Яны былі аднагодкі. Разам у школу хадзілі. Толькі пасля дзесяцігодкі Іра паехала ў Мінск паступаць вучыцца, а Надзя выйшла замуж.

— А ты быццам такая ж, як і была, кірпа чарнявая,— падбадзёрыла Іра сяброўку.

— Ага, такая ж... Трох сыноў нарадзіла ўжо. Два ў школу бегаюць. Пачынаю кволіцца: то тут забаліць, то там. Гэта ж у дзеўках сем скул на баку — і ніводная не ў знаку. А як замуж, Ірачка, выйдзеш, дак адна сядзе — і тая вадзіць.

— Ты, Надзя, не вельмі прыбядняйся. Жанчына, што матыка,— умяшалася ў размову Волька.

— Вой, Волечка ты мая, [illegible] ж толькі віду не падаю. Каму пажалішся? П'янтосу майму? Дак возьме ды адлупіць яшчэ. Я ўжо казала яму: «Лепей бы ты, Сяргей, чымся жаніцца, узяў ды павесіўся».

— Не кліч на сябе бяды,— напала на Надзю Волька.— Жывяце вы багата. Хата ў вас, хоць ваўкоў ганяй. Тэлевізар купілі. Дзеткі, дзякуй богу,

здаровыя. А што Сяргей п'е, дак хто цяперака не п'е. Паз'ядала ўсіх гарэлка. Але ж ён п'е ды не ўпіваецца...

— Ай, няма пра што гаварыць,— махнула рукой Надзя, перамяніла размову.— Ну, а ты, Ірачка, усё яшчэ не замужам?

— Вучылася, не было калі думаць пра гэта,— зачырванелася Іра.— А цяпер не сустракаецца па душы.

— Знойдзецца,— упэўнена сказала Волька.— Па розных дарогах пакуль што ходзіце.

— Толькі ж не вельмі перабірай, Ірачка, а то ў векавухах застанешся,— на правах ужо вопытнай жанчыны раіла Надзя.— Цяпер усё прыгожых шукаюць. А потым той прыгожы скулой вылазіць... З ліца не спячэш блінца... Куды ж падзецца такім, як Уладзік Крупянка? Хлопец харошы, але ж трактарыст. За мурзатага не вельмі кідаюцца...

— Золата ўсюды блішчыць,— сказала, як заступілася за Уладзіка, Іра.

— Галоўнае, каб муж чалавекам быў, а ўсё астатняе нажыўное,— азвалася Волька.

— Ну, трэба ж бегчы, заседзелася,— страпянулася паштарка.

— Пагуляла б яшчэ трохі,— папрасіла Іра.

— Няма ж часу, Ірачка. Тут у нас няма прадыху ніколі. Калі б зімой... А летам круцішся як вавёрка ў коле.

— Ты ж паштарка, на акладзе.

— Вой-вой, мая ты Ірачка, каб жа толькі тая пошта. А то ў калгас хаджу ледзь не штодня. Трэба ж дапамагаць. І дома работы хапае: свінні, соткі, агарод... Вой-вой, здэцца б, кінула-рынула ўсё ды й паехала ў свет.

— А дзе ж ты знойдзеш той рай, каб палежваць ды булкі дармавыя ўплятаць? — азвалася ад печы расчырванелая Волька.— Лепей, чымся ў нашай вёсцы, нідзе няма. Не нагаворвай, Надзюха.

— Правільна, Волька, хрэн вунь які горкі, а ядуць. У вёсцы жыць — не маліну есці, але ж жывуць людзі.

— І будуць жыць! — упэўнена сказала Волька, папраўіла качаргой галавешкі і дадала: — Нам вось каб трохі больш гарадской забаўкі — кіно, ціятраў.

— Чаго захацела,— засмяялася Надзя.— Вунь твой ціятр ля печы ды ў хляве.

— Нічога, папрывыкалі б і да ціятраў, за вушы не адцягнуў бы. Ты, Надзя, была хоць раз у ціятры? — спытала Волька.

— А калі ж мне? Выскачыла зялёнаю замуж. Абсыпалася дзецьмі...

Іры стала шкада сваю равесніцу Надзю Яўменаву. Пакуль Волька з ёй высвятлялі, ці патрэбен вёсцы тэатр, Іра разарвала Мільчын канверт: што ж піша яна з Турца?

— От, правільна, Ірачка, пачытай пісьмо,— сказала Волька.

Ёй даўно карцела ведаць, пра што напісала

сястра. «А яшчэ,— думала Волька,— і Надзя не выйдзе з хаты, пакуль не прачытаем. Яна ж павінна разнесці па вёсцы не толькі пошту, а ўсе навіны. От жа зараз праверу».

— Скажы, Надзя, сягоння толькі нам пісьмо?

— Не, яшчэ Парасцы Коцур.

— Ад сыноў мо?

— Ага, ад Міхася, што ў Мінску электрыкам.

— Што ж ён піша? Яна ж так, бедная, чакае яго, каб сена дапамог выкасіць.

— Піша, што жыў-здароў, але прыехаць не можа. Багата вельмі работы.

— У іх жа мо два выхадных? — з крыўдай у голасе — за Параску — спытала Волька.

— Выхадныя-то ёсць, а мо якая гарачка, як і ў нас у час уборкі.

— Трасца ў іх, а не гарачка... Чытай, Ірка, што там піша наша сястрычка,— сказала Волька, бо пераканалася яшчэ раз: Надзя павінна ведаць, што піша Мілка. Інакш якая ж з яе паштарка!

Іра разгарнула вучнёўскі аркуш у клетачку і пачала чытаць: «Здраствуй, мая дарагая сястрычка Оля. Ва-первых радках пішу табе...»

Пісьмо адразу ж не спадабалася Іры. Яно было як бы падфарбаваным. Асабліва на фоне той простай і мудрай гутаркі, якая толькі што была ў Вольчынай хаце. Да таго ж Іру ўразілі памылкі.

— Ну, чытай, чытай, чаго прыпынілася? — занепакоілася Волька.

— Зараз... Тут не разабраць трохі...— схлусіла Іра.

Мілка пісала, што вельмі сумуе, але прыехаць не можа. Працуе там жа, на кансервавым заводзе. Прасіла, каб Волька купіла дзе-небудзь тры авечыя шкуры на кажушок, цяпер гэта модна. І яшчэ: «Калі растут грыбы, замарынуй на маю долю, а я ўвосень падскочу, забяру. Пісаць больш няма чего. Збіраемся ў турпаход па Нёмане. Моцна цалую. Мілка».

— Дзе ўзяць ёй тых аўчын? — па-мацярынску занепакоілася Волька.— Ніхто ж цяперака авечак не трымае. Каб цялячыя ёй спатрэбіліся...

— Папытай, Волька, у Ваўкавічах. Там, казалі, разводзяць авечак,— параіла Надзя і пачала развітвацца: маўляў, для мяне ўсё зразумела, разбірайцеся з аўчынамі самі.

— Не турбуйся, Волька, не бяры да галавы. Я адпішу, мо прападзе ў яе ахвота да кажушка.

— Маладое, хочацца ж модна апрануцца,— заступілася Волька за малодшую сястрычку.

— Маладое?.. Малое?..— зазлавала Іра.— Трэба ж калі-небудзь брацца за розум. Лепш бы чытала больш, вучылася, каб хоць пісьмы без памылак пісаць.

— Ты бачыла, Ірачка, у бацькавай хаце на покуце вісіць шырокі рэмень,— спакойна сказала Волька.— Дак ён увесь час вісіць на відным месцы. Ва ўсіх хатах, у якіх жылі. Татка брытву аб яго вастрыў. А набыў яго, як я нарадзілася. Сказаў: «Хай

вісіць напамінкам усім дзецям. Здыму, як апошняга жаню ці аддам замуж. Усе мы, Ірачка, паспыталі тае бацькавай дзягі. Акрамя цябе з Мілкай. Не сярдуй на сястрычку, лепш у людзі дапамажы выбіцца.

— Ды мы з ёй дамовіліся, што ў гэтым годзе яна будзе паступаць у інстытут. Дык бачыш, што ў яе галаве — кажушкі, турпаходы... Я ёй напішу!..

— Яно-то праўда, не ведае наша Мілка жыткі, калі на двух была адна світка. Але ж прыйдзе час — возьмецца за розум.

— Калі тое будзе... Гады ж адлятаюць. Лепшыя гады жыцця,— гаварыла, усхваляваная, Іра.

— Гады ляцяць... Жыццё, як маланка,— задумліва сказала Волька.— Вось і татка з мамкай пражылі — уга колькі! А як і не жылі...

Сёстры ўсплакнулі. Моўчкі пачалі прыбіраць у хаце. У Іры з галавы не выходзіла Мілка. І хлопцы носа не паказваюць у бацькоўскі куток...

Іра прыгадала размову з Параскай Коцур, калі ішлі ад гравійкі да вёскі. Старая тады нешта была заікнулася гаварыць, але замяла размову. Як жа яна тады сказала? «Тваім татку і мамцы не сорамна ні перад людзьмі, ні перад дзецьмі. Вось толькі жывым сяму-таму сорамна перад тваім бацькам...» Што ж яна мела на ўвазе? Можа, мы, дзеці, у нечым правініліся? Мо хлопцы што ўтварылі? А мо Мілка?

Іра нарэшце адважылася спытацца ў Волькі:

— Скажы, сястрычка, ці ёсць у нашай вёсцы

людзі, а мо ў нашай радні хто, каму сорамна перад нашымі бацькамі?

— А чаму цябе раптам гэта зацікавіла? — здзівілася Волька.

— Ды так, чула адну размову.

— Чула? Хто ж табе што наплёў?

— Ці не ўсё роўна,— адказала Іра, бо не хацела пасварыць Вольку з Параскай Коцур. У вёсцы ж адзін аднаму ніколі не змоўчаць, абавязкова выгавараць. Часцей за ўсё такія выгаворы «ў вочы» прыводзілі да сварак.

— Ну й не кажы! — трохі зазлавала Волька.

— Ды разумееш,— пачала тлумачыць Іра, бо ёй вельмі карцела ведаць праўду,— адзін чалавек сказаў мне, што ёсць людзі, якім павінна быць сорамна перад нашымі бацькамі.

— Так, так, ёсць,— задумліва адказала Волька, і, відаць, ёй не вельмі хацелася расказваць.

— Яны што, у вёсцы нашай жывуць? — не адставала Іра.

— Не, Ірачка, выехалі. Не вытрымалі, напэўна, перад сваёй совесцю.

Іра памятала, як дзве сям'і выехалі з Затур'і. Прадалі хаты і — хто куды. Адны — да дзяцей, другія — шукаць доўгага рубля.

— Дык раскажы, Волька. Я ж павінна ведаць усё.

— Правільна, павінна,— пагадзілася Волька.— І я абавязкова табе ўсё раскажу, толькі іншым ча-

сам. А зараз мне пара бегчы на калгасны двор. Брыгадзір наказаў, каб прыйшла.

— Ну, добра, потым раскажаш,— сказала Іра.— А мне што загадаеш рабіць?

— Адпачні, Ірачка. Ты і так усё робіш. Кніжкі адвыкнеш чытаць.

— А ўсё-такі,— настойвала Іра.

— Ну, травы збяры на градах ды кінь свінням. Гуркі трэба выбраць, засаліць. Бульбы маладой падгледзь, вечарам дранікаў зробім...

— Усё зраблю,— адказала Іра.

— Ну, то я пайшла,— Волька задаволена пaглядзела на Іру і падумала: «Як добра, калі ёсць каму слова сказаць, калі ёсць на каго хату пакінуць».

## VI

*«...Хварэў тры дні. Часаў спіцы ў калёсы — 40 шт. Віў павады — тры штукі...»*

Іра памыла падлогу ў бацькоўскай хаце. Выслала саматканыя дарожкі. Прылягла на канапу. Стаяла такая цішыня, што аж звінела ў вушах.

У акно заглядваў клён. Кара на ім стала грубай. Пад вільчыкам даху ён трохі сагнуўся. А яго ж некалі пасадзіла Іра. Прынесла з лесу кляновы дубчык, уткнула пад акном. Палівала. Радавалася, што

ён прыняўся і кожнай вясной, як крылы, распускаў лісце. Потым яна бачыла яго ўсё радзей і радзей. Цяпер гэта ўжо стары клён. Ён памахвае ў акно сваёй галінай-рукой, вітае маладую гаспадыню.

Іра перавяла вочы на печ, і наплылі новыя ўспаміны. Колькі разоў вылечваў ад прастуды цёплы і ўтульны ляжак! А колькі кніжак там перачытана, колькі баек пачута! Як радаваліся дзеці, калі маці знаходзіла вольную хвілінку і лезла да іх на печ. Яна брала рэшата з курыным пер'ем і пачынала скубці яго. Іра, Алесь і Мілка хапалі ў жменькі мяккія пярынкі, каб памагчы маме, і прасілі: «Раскажы, мамка, казку, га?»

Маці вучылася некалі толькі дзве зімы. Раней жа ў вёсках дзеці вучыліся толькі зімой. Меншала работы ў гаспадарцы, і людзі наймалі настаўніка. Хадзіў ён, як пастух, па хатах і вучыў пісаць, чытаць.

«Што гэта за вучоба? — жалілася матуля.— Толькі раскрыеш кніжку, а ўжо бацькі загадваюць карову падаіць, вядро вады прынесці, цэўку пражы насукаць. З граматыкай у мяне добра ўсё ішло. У задачках была не вельмі кемлівая. Бывала, дам каму жменю сушаных яблыкаў, парашаюць. Брат мой Мікола, ваш дзядзька, усё казаў: «От каб той завод згарэў, дзе тыя задачнікі робяць».

Так маці навучылася распісвацца і чытаць па складах. А казак ведала многа. Ёй бабуля некалі расказвала. А мо яна сама прыдумвала?

Яна ўмела баяць казкі. Так раскажа, што дзеці аж раты паразяўляюць. Смяяліся, калі мама пра вясёлае расказвала, плакалі, калі героі казак траплялі ў бяду.

Іра зірнула на сцяну. У адной рамцы вісяць два партрэты — мамкі і таткі. Пазіраюць зараз на Іру, маўчаць. Але ў позірку, у вуснах іхніх застыла ўсмешка. Маўчаць, а позіркам як бы гавораць: «Малайчына, Ірка, не забываеш нас. Хай табе заўсёды добра будзе».

«Дзякуй вам, родныя»,— адказвае ў думках Іра і адчувае, што паміж ёй і партрэтамі міжволі пачынаецца размова.

«От, малайчынка, не гультайкай удалася, мая дачухна. Хату нам памыла. Я таксама любіла парадак»,— быццам кажа мама.

«Як жа вам там, любая мамка?» — заплакала Іра.

«Не плач, доня, плачам не дапаможаш. Нам што, мы разам. А вось ты, мая донька, усё адна?» — пытае маці.

«Адна...»

«Чакай, сустрэнеш свайго. Мой Лаўрэнка таксама не адразу знайшоўся. Прызначылі ўжо вяселле. Сабраліся госці. А маладога няма. Што рабіць? Чакалі да раніцы. Ніхто не спаў, не піў. Раніцай з'яўляецца на кані. Гэта ж удумаў да мяне напрасткі ехаць, каб хутчэй. Ды заблудзіўся. Думала, мая дачухна, усё жыццё будзе блудзіць, аж, слава богу,

пяцьдзесят гадоў у згодзе пражылі. Так што і твая пара знойдзецца».

«Знойдзецца, мамка. Я пра гэта менш турбуюся. Мяне ж крыўда душыць, што не паспела з вамінагаманіцца. Я так мала ведаю, як вы жылі даўней».

«Вой, як мы жылі? У зямельцы пароліся і вельмі моцна яе любілі. Калі чалавек не любіць зямліцу, на якой жыве, гэта погань. Жылі, вас гадавалі, людзей не гнявілі. Беражы, Ірка, кожны дзянёчак жыцця».

«От, мамка, як вы складна гаворыце. А мо б што расказалі пра сябе, пра татку».

«Што ж табе расказаць? Памятаеш мо, як аднойчы паміраў мой Лаўрэнка?»

«Не, мамка, гэта не пры мне было».

«Правільна. Гэта ж здарылася ў той год, як ты нарадзілася. Але ж я многа разоў расказвала. Мо чула калі?»

«Раскажы, мамка, яшчэ раз».

«Ну, дык слухай, дачухна, слухай, мая любая.

Наглыталася я за сваё доўгае жыццейка багата слёзак. Плакала, дурніца, як замуж ішла. Крычала немым голасам, як вас, шасцярых, на свет пладзіла. Румзала потым, як жаніла ды замуж аддавала. Плакала, сустракаючы і развітваючыся.

Слёзы бабскія заўсёды наверсе. У іх гаркоце і соладзе купаецца наша сэрцайка. Імі мыюцца нашы вочы. Але век звекавала, і не мроілася мне, што ёсць яшчэ плач без слёз: рукі трымцяць, сэрца хоча вы-

скачыць з грудзей, язык дзеравянее і стукаюць нябачныя малаточкі ў галаве. Пераджыла ўсё гэта, мая ты дачухна, са сваім Лаўрэнкам.

Негаваркім удаўся мой муж. Ды я не крыўдую. Яно і лепей, калі мужчына не бабскай закваскі. Хай ужо жонкі стракочуць сарокамі, на тое яны ў спадніцах. Мужчына, як я мікічу, павінен быць «гаваркім» сваімі справамі, учынкамі, сілай сваёй і вытрымкай. А нам, бабам, адказваць на ўсё гэта жаноцкай дабрынёй, увагай і ласкай.

Памятаю, убачыла першы раз свайго Лаўрэнку і ледзь не самлела. Статны. Валасы як наплоеныя. А вачамі сваімі бяздонна-сінімі ў самае сэрцайка цаляе. Найбольш упадабала, што не балбатун. Скажа што — у душу западае.

Запомніла ж, як ён у першай вайне з германцам быў узводным клязьменскага палка. Збіў аднойчы варожы самалёт і быў прадстаўлены да Георгія. А праз два дні зарабіў гаўб... твах... Адным словам, пасадзілі яго. А за што? Ды за тое, што заступіўся за салдата і не назваў афіцэра «яго высокаблагароддзем».

Вой, захварэў той клязьменскі салдат, ляжаў на палку і, што рыбачка, хапаў паветра. Не было чым дыхаць.

«Памру, мабыць, Марылька,— сказаў неяк ціхім голасам, аддыхаўся трохі, і асмяглыя губы зноў заварушыліся: — Не паспеў плот падладзіць... Вазы два дроў трэба было прывезці. Ты ўжо не крыўдуй...»

Сэрцайка маё аблілося слязамі. Усярэдзіне ўсё затрымцела. Божачкі мае, аб чым ён клапоціцца?!

«Не, не аддам я цябе нікому!.. Смерці нават не аддам!..» — вырвалася з маіх грудзей, і я ўпала на яго вільготную падушку.

Лаўрэнка гладзіў мой твар сваімі шурпатымі рукамі. Цалаваў мае рукі і вусны. Зрабілася горача, аж да млоснасці.

Даўно я не знала такой ласкі. У вёсцы нецяк не да гэтага. Раненька падхопліваемся і, як круцёлкі, цалюткі дзень дацямна. То свой агарод-гаспадарка, то калгасная клапатарка. Спакою няма. Робіш, робіш і нечага ўсё роўна недаробіш.

Гэта ж удумаў мой Лаўрэнка паміраць. А клопат — плот не залапіў. Не, Лаўрэначка, такім людзям, як ты, нягожа рукі складваць. Колькі па нашай грэшнай зямельцы розных слізнякоў поўзае, хай яны і гінуць, а добрыя людзі павінны жыць і красавацца.

Пабегла я, у чым стаяла, да фельчара Браткоўскага. Усе тыя тры кіламетры да яго бегла, што маладуха. Усё думала, хоць бы фельчара застаць! А то мо чаргу адпасвае ці хварэе пасля ўчарашніх хрэсьбін.

Бягу, думаю так, а перад вачыма — Лаўрэнка. Твар у яго белы-белы. Ні крывіначкі. Чакай, калі ж яшчэ бачыла яго такім? Ага, у вайну.

Як напала на нас фашысцкае гадаўё, дык мой Лаўрэнка пакульгікаў у сельсавет.

Бярыце, кажа, георгіеўскага кавалера. Я, гавора, у даўжку перад немчурой.

Так і гэтак ён, не ўзялі. Стары чалавек. Паранены. Будзь, кажуць, у вёсцы. Спатрэбішся яшчэ не раз.

І што ж ты думаеш, дачухна, спатрэбіўся. Начамі партызан вадзіў глухімі сцежкамі. Параненых хавалі ў сваёй хаце. Хлеба напяку, а Лаўрэнка поначы цягне ў партызанскі атрад. Вернецца адтулека белы-белы. Доўга аддыхваецца. Божа ж, як цяпер, хворы...

Прывяла я фельчара. Па дарозе ўсё падганяла яго:

«Хуценька, Іванавіч... Шпарчэй, родненькі...»

«З табой, цётка Марыля, і сам ногі выцягнеш...— адказваў ён, цяжка сапучы.— Куды ўжо шпарчэй! І так аж гаркава ў роце зрабілася».

А я сваё:

«Гарката, Іванавіч, адступіцца. Трэба, каб як ад Лаўрэнкі смерць адступілася...»

Прыбеглі ў хату. Лаўрэн мой нежывы. Ляжыць дагары, рукі склаў. Кінулася да яго і давай галасіць — прыказваць. А Браткоўскі ўхапіў яго за руку, пульс мацае.

Раптам Лаўрэнка мой расплюшчвае вочы і ціха кажа:

«От задрамаў... Навошта мяне пакідаеш надоўга?»

Мы з фельчарам ледзь не ёкнулі ад такой неча-

канасці. Ці ж я пакідаю цябе, мой родны? Я ж выхапіць цябе хачу з бядоты.

Пакруціўся, пакруціўся фельчар каля Лаўрэнкі і кажа мне шэптам:

«Ваш чалавек шчэ будзе жыць, але за ім трэба догляд, як за малым... Лякарства выпішу, трэба ў райцэнтр па яго з'ездзіць... Няблага было б наведацца ў курнёўскую аптэку да Бялкоўскага... Травы ў яго розныя ёсць...»

«Іванавіч, даражэнькі, куды скажаш — палячу, што параіш — пашукаю. А хоць сабе ўсё гэта будзе за непраходнай багнай...»

Наш фельчар Браткоўскі — талковы лекар. Ён жа мо гадоў трыццаць лечыць нас. Хваробы кажыннага чалавека ведае. Ды ці толькі хваробы?

Ён жартаваў, што, не заходзячы нават да суседзяў у хату, ведае, які ў іх настрой. Вось, кажа, раніцай выходзіць Гэля ў двор і кліча курэй: цы-ып, цы-ып, цы-ып... Голас звонкі, вясёлы. Значыць, з мужам у згодзе, не лаяліся. А назаўтра выходзіць у двор і на ўсю ваколіцу чуцён яе злосны вокрык: а-кыш, каб вас каршун задраў!.. Значыць, сапсаваў настрой Мітрафан.

Смешны наш фельчар. Проста хвілосаф, няйначай. Упадабаў, бачыш, вёску, людзей. А прыехаў жа да нас з Гомеля худзенькі, шчупленькі, ну зусім хлапчаня. Колькі разоў парываўся збегчы ў горад. Ды кожным разам і перадумваў. Цяперака туды на ланцугу яго не загоніш. Тут яго карані, тут мы —

яго хворыя. Шкадуем яго. Стараемся не вельмі хварэць, не вельмі турбаваць. Гэта ўжо калі самім не пад сілу, дык клічам яго.

Падзякавала я фельчару. Пайшоў ён па вёсцы людзей праведаць, а я пачала збірацца ў дарогу.

Да райцэнтра — сорак кіламетраў. Бывала, пешкі двое сутак ішлі. Цяпер дарогу пабудавалі. Выйшла, прагаласавала на спадарожную машыну. Вечарам ужо частавала майго Лаўрэнку лякарствамі, якімі разжылася ў райцэнтры.

А назаўтра, досвіткам, патэпала ў вёску Курані, у аптэку. Адкуль і сіла бярэцца, калі любы чалавек у бядзе!

Бачыш, называю свайго Лаўрэнку «любым». А жылі ж як усе. Працавалі, вас гадавалі. Стараліся не азмрочваць настрой адзін аднаму. Было, праўда, усялякага. Характар у майго Лаўрэнкі круты. Але ж не нарадзіўся яшчэ такі мужчына, каб яго баба не закілзала. Не трэба толькі, Ірка, ладзіць дарогу там, дзе грэбля ёсць. Не трэба, мая ты дачухна, падпілоўваць сук, на якім мосціш сваё кубло.

От і пражылі з Лаўрэнкам душа у душу...

Дык вось, дачухна, прынесла я тады ад Бялкоўскага розных зёлак. І развяла дома лекі. Ачуняў мой чалавек. Стаў на ногі, весялей пачаў пазіраць на свет божы.

«Ты, Марылька,— гавора ён,— цуд-жанчына... Век звекаваў з табою і не ведаў, што так добра мікіціш у медыцыне».

А як жа, кажу, мой Лаўрэнка, ты век звекаваў і не ведаў, што бабская прафесія не толькі ля печы ўходжвацца. Нам трэба ўмець доктарам быць, і абед згатаваць, і задачкі парашаць, калі спатрэбіцца, міліцыянерам быць, пастухом, дыпламатам, швачкай, спявачкай...

Падышоў мой Лаўрэнка да мяне, моцна прыгарнуў да сябе, пацалаваў. Вочы яго павільгатнелі. А ў мяне, дачухна, усё страпянулася ўсярэдзіне. Як некалі, у далёкай маладосці, калі Лаўрэнка ўгаворваў выйсці за яго замуж.

Так я і не аддала тады свайго Лаўрэнку ў рукі смерці. Ды хіба ж можна, калі кахаеш чалавека?!.»

Іра, з вачыма, поўнымі слёз, нерухома ляжала на канапе, схамянулася, зірнула на партрэты бацькоў, сказала ім: «Пайду ўжо, трэба свіней Вольчыных накарміць, агуркі засаліць».

«Правільна, дачухна,— усміхнулася ёй услед маці.— Падсабляйце, дзеткі, адзін аднаму. Сябруйце».

## VII

*«...Прывёз на кармакухню два вазы дроў. Рамантаваў калёсы — ручкі, дышла, трайнікі. Рабіў каткі ў калёсы...»*

У Фёклы Горбач мелася быць гулянка. Яна хадзіла па хатах, і як даўней брыгадзір загадваў на працу, так і яна клікала да сябе ў госці.

Не мінула Фёкла Вольчынай хаты. Зайшла і адразу сказала тое, што думала:

— Прыходзьце, Волька і ты, Ірачка, да мяне... Замуж выйшла мая Нінка... Прыехалі ўдваіх. Вось збяромся і пасядзім крыху...

— Чулі, чулі,— адказала ёй Волька,— што ты і свінчо закалола, і гарэлкі накупляла і гасцей запрашаеш.

— І пра гэта ведаеш? — ціха азвалася Фёкла і глянула на Іру.— У нас жа так: што робяць на адным канцы вёскі, чуюць у другім. Не тое што ў горадзе.

— Можа, гэта і лепш...

— Вядома, лепш,— пагадзілася Фёкла.— Але ж у нас, дык мо залішне знаюцца...

— У вёсцы інакш і не пражывеш,— умяшалася Волька.

Слова за слова, пачыналася цікавая размова. Але Фёкла першай схамянулася:

— Вой-вой, старая качарга, загаманілася. Гэтак жа да вечара не абыду ўсіх. Прыходзьце ж, будзем рады...

Калі зачыніліся дзверы за Фёклай, Волька сказала:

— Трэба схадзіць, а то загневаецца... Фёкла ж на таткавы памінкі прыходзіла. Заўсёды ідзе, спытае, як жыву.

— Я даўно не была на вясковым вяселлі. Як у школу хадзіла, помню, гуляюць вяселле ў каго, а

мы пад вокнамі бегаем. Усё было цікава, асабліва як крычалі «горка!».

— Цяперака няма каму пад вокнамі бегаць. Усе ў хаце. Дзятва і тая на покуце мосціцца.

— А Нінка Фёкліна дзе жыве? — спытала Іра.

— Дзесьці далёка, у горадзе, ткачыхай робіць. Прывезла мужа на паказ мацеры, а тая ўдумала гасцей сабраць.

— Як час ляціць! — задумліва сказала Іра.— Я ж і то помню, як Нінка Горбач бегала малюсенькай мурзаценькай дзяўчынкай.

— Цяпер відная дзеўка зрабілася. Падабрала ўсе кропелькі Івана, бацькі.

— А як жа нам збірацца ў госці? Што браць з сабою?

— Цяперака проста,— адказала Волька.— Гэта раней пяклі сухарыкі, варылі кісель, халаднік. Кожны нешта нёс у вясельны двор. Потым цалюткі тыдзень шукалі свае талеркі. А цяпер з кісялём сорамна ісці. Сукню чысцейшую ўсцягнуў на сябе, чырвонец ці якую пяцёрку прыхапіў — і гатоў.

Была нядзеля. Стаяў пагодлівы дзень. Летам у такі дзень вяскоўцам заўсёды няма часу. Але ніхто не хацеў гнявіць Фёклу, і таму дружна сабраліся ўсе, каго запрасіла гаспадыня.

Фёкліна хата стаяла якраз пасярэдзіне вёскі. Пад вокнамі раслі дзве вярбы, а пад імі — шырокая, са спінкай лавачка. Тут вечарамі заўсёды збіралася моладзь. І хутчэй не таму, што лавачка была

пад прыгожымі вербамі, а таму, што ў хаце жыла прыемная гаспадыня: ніколі нікога не ўшчувала, не скардзілася, што спаць не даюць, нават вечарынкі часта пускала ў хату.

Фёкла аўдавела пасля вайны. Дачакалася свайго Іванку з фронту. Але вярнуўся ён кантужаны, цяжка дыхаў. Паспеў адбудаваць хату на пяць акон, пабачыў яшчэ сваю дачку Нінку...

Пасля смерці мужа багата хто з мужыкоў прыходзіў сватацца да Фёклы, толькі ніводнага яна не ўпадабала. Ніяк не магла забыць свайго Іванку.

Чулая была жанчына. Заўсёды выручыць: то падсобіць сена грэбці, то бульбу выкапаць. У вёсцы працавітыя рукі ў вялікай пашане.

Вяскоўцы паважалі Фёклу.

Калі Волька з Ірай прыйшлі да яе, у хаце ўжо было поўна народу. Але іх прыкмецілі адразу.

— От і Рабянковы дзеўкі, дзень добры вам,— выскачыў наперад Мікіта Сідарэнка.

Па яго чырвоных вачах Вольга зразумела, што Мікіта пачаў частавацца ўжо з самае раніцы.

— А ты, Мікітка, мо перагрэўся сягоння? — сказала Волька.— Чырвоненькі, што бурачок.

Бабы засмяяліся. Мікіту, нават п'янаму, стала няёмка. Іра адзначыла пра сябе: «Паважаюць Вольку».

— Ай, Волька, не нападай вельмі... Там глыток, тут глыток, дай зашкіпідарыўся...

Іра адчула на сабе пільныя позіркі. Гарачынёй абдало ўсё цела. Яе нібы на рэнтгене прасвечвалі: якая яна, гарадская, вучоная? Як прымаць яе? Як з ёй гутарыць?

Іра павіталася з кожным за руку, прыветліва ўсміхалася тым, каго ўжо сустракала за час свайго гасцявання. Гэта спадабалася вяскоўцам, і яны шчыра пацiскалі ёй руку сваімі шурпатымі далонямі. Яна адчула: людзі ганарыліся Рабянковай «прахвесаршай». Нібы тое, чаго дасягнула яна ў жыцці, стала агульным здабыткам усяе вёскі.

Пачалі садзіцца за стол. Вольку з Ірай прымасцілі непадалёку ад маладых. Яны маглі нават перагаворвацца. Але Ніне з Алегам было не да размоў. Уся вясельная бяседа гаманіла пра іх. За маладых падымалі чаркі. Пажаданні сыпаліся, як з кораба.

— Каб вы былі, мае ягадкі, багатыя, як наша зямелька,— сказала Параска Коцур. Перакуліла гранёную чарку гарэлкі, астатняе лінула цераз спіну. Нехта завішчэў ззаду, а маладым ужо гаварыла Гэля Скакун:

— Дарую табе, Алег, катушку нітак, каб не цягаўся да чужых лытак. Дарую качан капусты, каб не дапускаў жонку да распусты. А яшчэ дарую дубовы пень, каб цалаваліся ўночы і ўдзень.

— А я табе жадаю, Нінка: што ні гадок, каб быў сынок, колькі ў лесе почак, каб столькі было дочак,— падняла чарку Надзя Яўменава.

— Ого, разумная. Сама вунь за колькі гадоў толькі траіх нарадзіла...— пачаў быў наводзіць крытыку ахмялелы Мікіта Сідарэнка, але жонка Аўдоцця штурханула яго локцем пад бок, Мікіта ікнуў і змоўк.

Пачаў гаварыць дзед Максім, і ўсе сцішыліся.

— Я так разумею, дзеткі. Берацеся жыць разам, дак жывіце, каб нам усім не было сорамна за вас. У лапцях вы не хадзілі, гнілое бульбачкі не спыталі. То й добра. Але нідзе не шукайце лепшае спраткі, чымся свая хатка. Помніце вашу маці-гаротніцу і нашу вёску не забывайце...

Вяселле хутка хмялела. Ужо, апроч маладых, мала хто слухаў прамоўцаў.

— Падабаецца табе малады? — шапнула Волька.

— Хто яго ведае, за сталом маладзец, а які ў жыцці будзе? — таксама шэптам адказала Іра.

— А я не ўпадабала... Нос востранькі, твар маленькі, плечы вузкія... Форменны пугач... Люблю больш кірпаценькіх...

Іра пачала прыслухоўвацца, пра што гаманілі за сталамі.

— Вой, вой, мы з сваім колькі жывём, а ні разу не біліся... А нядаўна старой масніцы прыйшло ў галаву павучаць мяне. Хіба ж ён што можа, не дагнаў нават... А прыйшла паштарка, дак пачаў жаліцца ёй: «От, Надзька, панавешвала мая баба ў хаце розных шырмаў. Думаеш, для красы? Каб яны ёй скулой выскачылі. Надоечы падсунула мне пад са-

менькі нос вялізную хвігу. Хацеў дагнаць, дык дзе ж ты дагоніш, заблытаўся ў гэтых шырмах...»

Бабы рагочуць з Маланнінага расказу, а яе муж Арцём Крупянка сядзіць з мужчынамі за другім сталом. Сіпаватым голасам Арцём запрашае:

— Давайце, хлопцы, кульнём за маладых, каб не ленаваліся дзяцей гадаваць. А то пусцяць на свет якое адно, ды і тое недагледжанае.

— Гадаваць дзяцей — праца нялёгкая, а цяпер жа кволыя ўсе парабіліся,— адгукаецца нехта.

— Адкуль жа тая сіла будзе,— абураецца Мітрафан Скакун.— Прыехаў мой зяць з горада. Уключыў раніцай радыё. Адна мадам камандуе падняць рукі — ён падымае. Пытаю ў яго: «Што робіш?» А ён глядзіць на мяне, як на дурня, і з ухмылкай адказвае: «Здаровым, баця, хачу быць. Зарадку раблю». А каб цябе певень убрыкнуў, думаю, пайшоў бы лепей вядро вады выцягнуў...

— Ну, добра, разбірайся са сваім зяцем сам,— зноў падаў голас Арцём Крупянка і зарагатаў.— А помніце, мужчыны, як Аксіння брыгадзіра перацягнула качаргой?..

Мужчынскі стол скалануўся ад рогату.

Іра даўно не адчувала сябе так добра, як у гэтай вясковай кампаніі. Захацелася і ёй выказаць свае пажаданні маладым. Яна шапнула Вольцы, а тая, доўга не думаючы, паднялася і аб'явіла:

— Жадаю Фёклiным дзеткам: жывіце ў такой дружбе, каб вада не размыла і свіння не разрыла.

Гаварыць багата не ўмею, а таму хай скажа мая меншая сястрычка.

Іра паднялася з табурэткі. У руках яна трымала чарку з віном. Усе прыціхлі. Ахмялелы Мікіта Сідарэнка і то перастаў жаваць.

— Я вельмі люблю вясну,— ціха сказала Іра.— Вясной абуджаецца ўсё жывое, цвітуць сады, духмяным водарам поўніцца зямля... Няхай у жыцці Ніны і Алега заўсёды будзе вясна. Няхай яны спасцігнуць вялікую чалавечую мудрасць — з гадамі станавіцца маладзейшымі. Няхай іх сямейны шлях азорвае яснае неба і творчае натхненне...

Вяселле запляскала ў ладкі. І ўпершыню нехта з мужчын выкрыкнуў «горка!». Шалёным віхорам панеслася гэта слова па сталах. Маладыя пацалаваліся.

А далей усё зноў расплылося ў шматгалосым гомане, звоне чарак, бразгаце відэльцаў.

— Ну, як ты пажываеш, Ірачка, раскажы нам, вясковым бабам,— звярнулася да Іры Прося Канаплянікава.

— Жыву няблага. Усё аддаю сваёй карпатлівай працы,— адказала Іра.— Вы пра сябе раскажыце.

— А наша жытка во, на стале,— весела сказала Прося, падаткнула пад хустку пасму сівых валасоў.— Цяперака, мая Ірачка, нашы вяскоўцы так снедаюць, як некалі ласаваліся толькі на багатую куццю. Я ж цяпер, каб выправіць свайго Іванку ў поле, досвіткам не падхопліваюся. Сонейка добра

ўмосціцца на небе, тады печ запалю, блінцоў напяку. Цэльную патэльню свінінкі насмажу, яек свежанькіх узаб'ю...

— Што ты раскудахталася пра свайго прымака? Лепей запрасі Іру выпіць,— умяшалася ў размову Гэля Скакун і працягнула да госці сваю чарку: — Давай, Ірухна...

Жанчыны пачаркаліся. Размову перахапіла Гэля Скакун.

— А я не люблю гарадоў,— сказала як адсекла.— Снуюць, мітусяцца там людзі, як у мурашніку. Гэта ж сын падбіў мяне нядаўна ў госці прыехаць. У кажынным пісьме ўсё пісаў і пісаў: «Прыедзь, маманя, паглядзі, як жывём...» Калі дзеці клічуць, трэба ехаць. Сабралася і рушыла ў дарогу... Прыехала. Горад — як горад. Ледзь узвалаклася на пяты паверх. Падышла да дзвярэй. Не з шалёўчын, як у нас. Чорнай скурай абцягнутыя. Дзе ж тут дастукаешся? Пакуль гэта я змікіціла, што ў іх званок, ды знайшла той «гузік»... Звон пачуўся. Зашавяліліся па той бок дзвярэй, пачалі ключамі варочаць. Чую нявестчын голас: «Хто там?» — «Я — свякруха твая!» — «Хто?» — «Ды свае, свае...» Урэшце ўпусцілі. Абдымаць пачалі, а мне аж млосна. Гэта ж я ў вёсцы: кіну-рыну ўвесь дом і пайшла на сяло. Заходзь хто хочаш, госцем будзеш. А ў іх, бач ты, на два замкі дзверы. Ды яшчэ біяграфію раскажы, перш чым увайсці. І чаго людзі пруцца ў тыя гарады? Аніяк не ўцямлю.

— Дак мо ж зацягнула дзецям паўяпрука? — здзекліва папыталася Прося.

— А як жа не зацягнеш?.. Шкода... Свая кроў...— адказала Гэля і злосна зірнула на Просю: каб слухала ды меней перабівала.— Праседзела, мае вы людцы, у тых гасцях, як у клетцы. Сын з нявесткай дзень у дзень на працы. Я адна гасцюю. Пазіраю праз шыбу на вуліцу. Ходзяць усё подбегам, усё некуды спяшаюцца. Нават некалі паздароўкацца адзін з другім. Усяго й дабра, што ходзяць чыста ды вада цёплая ў кране. А газ і ў нас ёсцека. Вяскоўца цяпер мала чым здзівіш.

Вечарам усяго й радасці, што ўбачымся, а пагаварыць зноў не выходзіць. Пстрыкнуць тэлевізар і глядзяць, пакуль спаць не класціся. А то ў кнігі паўтыкаюцца. Славечка ад іх не пачуеш. Нявестка не азавецца. Хоць бы папытала пра што. З сынам таксама не нагамонішся. Надта грамацеі парабіліся. З імі гаварыць развучышся. А я ж прыехала з сынам нагаварыцца. Апошні ж раз гаманіла з ім, як упоперак ложка ляжаў. Калыханку спявала. А ці ж збываюцца матчыны запаведзі?..

Гэля дастала насоўку і пачала выціраць вочы.

— От ужо і зарумзала,— пагардліва сказала Волька.— Ты ж на вяселлі!

— Вой, праўда што,— схамянулася Гэля, рашуча махнула насоўкай і на ўсю хату зацягнула сваю любімую песню:

Прывядзіце ка мне
у чырвонай шапачцы,
каго верна я люблю...

Усё застолле заспявала. Пасля Гэлінай песні бабы зацягнулі вясельную «А паелі конікі салому-у-у...».

Потым спявалі «Ой хацела ж мяне маці дый за першага аддаці...», «У суботу Янка...». Спявалі ўсе, нават Мікіта Сідарэнка і асіплы Арцём Крупянка. Іра, як магла, падцягвала. Волька дапамагала. Яна лічылася добрай спявачкай.

— Хораша нашы бабы спяваюць, га? — падсела да Іры Параска Коцур і зазірнула ёй у вочы.— Не наскучыла табе шчэ ў нашай вёсцы?

— Не, цётачка. Так прыемна, як ніколі.

— От, бачыш,— задаволена сказала Параска.— Я ж табе казала, у нашай вёсцы лепей, чымся ў тых дамах адпачынку.

— Такіх смачных страў і ў санаторыях не ела.

— О-о, цяперака вяселлі спраўляюць заможна. Не тое, што раней. Памятаю, адразу пасля вайны ваш Мікалай жаніўся. Лес прыязджалі пілаваць у нашу Затур'ю аднекуль аж з-пад Быхаўкі. У вас кватаравалі чатыры дзяўчыны, дык ён адну ўпадабаў,— Параска адчула, што зацікавіла Іру сваім расказам, бліжэй падсунулася да яе.— Ага, забедавалі тваe бацькі: «Трэба рабіць вяселле. А як? Галадоўка...» Мікалай ваш, хлопец рупны, знайшоў дзесьці цэлую скрынку снарадаў і куль. Навыліваў

з іх алюмінію і нарабіў лыжак, місак. А з гільзаў выйшлі кубкі. От чокаліся звонка! Маці твая з Волькай бульбянікаў напякла, баршчу наварылі. З аднае вялікае міскі сёрбалі кісель. Весела было...

У гэты час Мітрафан Скакун расцягнуў гармонік, а Арцём Крупянка ўдарыў у бубен. Гаманіць далей не выходзіла. Усе рынуліся ў танцы. Падхапілася і Параска.

— Пайшлі, Ірухна.

Яны трохі пакружыліся, падышоў Уладзік Крупянка і папрасіў Параску адпачыць. Цётка ахвотна перадала яму Іру.

— Ну як вяселле? — падміргнуў Уладзік.

— Мне вяселле падабаецца,— сказала Іра і зірнула хлопцу ў вочы, якія нібыта пылалі зыркімі агеньчыкамі.

— У нас яшчэ лепшае будзе,— з сарамлівай усмешкай адказаў Уладзік.

Іра не перапытвала, у каго з ім будзе вяселле, але сэрца яе неспакойна затахкала.

Дамоў Волька з Ірай вярнуліся апоўначы. Гудзела ў галаве. Спаць не хацелася. У Волькі быў добры настрой, і Іра падумала, што надышоў якраз той зручны момант, калі сястра раскажа пра нешта патаемнае.

## VIII

*«...Сабраў адзін воз попелу, завёз на жыта і рассеяў. Рабіў вочап на калодзежы ля свінарніка. Гарадзіў калгасны двор...»*

— Жыў некалі ў Затур'і Зігмунд Сіліцкі,— пачала расказваць Волька.

— Якога шляхцюком абзывалі?

— Ага, ганарылася свіння, што аб панскі плот пачухалася. Так і той Зігмунд. Адкуль у яго столькі гонару? Сам у лапцях хадзіў, а ўсіх нас лапатнікамі абзываў. Праўду Параска кажа: чым меншая блыха, тым мацней кусае...

— Ён жа загінуў у вайну.

— Каб жа загінуў,— тупа адказала Волька і ўставілася вачыма ў бэльку.

— Я ж некалі хадзіла ў школу з яго Эльвірай,— прыпомніла Іра.— Вяртлявая дзяўчына. Усё любіла чытаць пра вайну і нам, меншым, расказвала. Яна марыла калі-небудзь вычытаць пра свайго бацьку... Потым жа з маці некуды з'ехалі?

— З'ехалі і правільна зрабілі,— урэшце азвалася Волька.— У нашай вёсцы ім няма чаго рабіць...

— А адкуль у Затур'і гэта сям'я з'явілася?

— Хто іх ведае, аднекуль з-за ракі прыцягнуліся. Як белапалякі наступалі, дак багата бежанцаў брындала па дарогах. Вот Сіліцкі са сваёй Адэляй

і пасяліліся ў нашай вёсцы. Якраз хата адна пуставала. Мужчына ён на выгляд разяваты, а хітры як чорт. Сталі арганізоўваць калгас. Ён першы запісаўся. Потым давай цягнуць з калгаса ўсё, што толькі можна. Гэта ж кожны каласок быў на ўліку. А ён, злодзей, умудрыўся аднойчы пятнаццаць пудоў украсці...

— Як жа так? — спытала Іра.

— Зерне адвозіць паставілі яго. Ад малацілкі. А ён прывязаў каню на морду мех і, як прыедзе загружацца, бярэ не пазаддзе, а чыстае зерне. Гавора, каня трэба шанаваць, падкармліваць. Ад'едзе, каню хвігу пад нос, а зерне ў схованку. І, як тая мыш, нацягаў сабе поўную нару.

— Судзілі?

— Выкруціўся,— са шкадаваннем сказала Волька.— А другі раз не ўдалося... Прыехаў неяк у наш калгас аграном з раёна, нейкі Гінзбург. Сабраў усіх калгаснікаў на сход і пачаў вучыць, як ураджай вырошчваць. Гавора, збірайце птушыны памёт, у ім вельмі багата фосфару і азоту, болей, чымся ў гнаі. За год, гавора, можна сабраць ад кожнай курыцы па пяць кіло гэнай каштоўнасці, ад качкі — па восем, а ад гусі аж па адзінаццаць. У кожным калгасе, гавора, трэба вызначыць адказнага за рэгулярны збор памёту па дварах... Нехта крыкнуў: «Зігмунда Сіліцкага!.. Ён акуратна будзе збіраць...» А як жа падхопіцца той Зігмунд, дзе й падзелася яго шляхетнасць. Зачырванеўся, заслюнявіўся і як вызве-

рыцца на ўпаўнаважанага: «За ўдзяку — пацалуйце мяне ў с...» Людзі ў рогат, а ўпаўнаважаны пакрыўдзіўся... Выклікалі назаўтра Сіліцкага ў раён, а вярнуўся ў вёску праз тры гады, якраз перад вайной...

Волька змоўкла. Іра кінула позірк на Вольчыну выстаўку. Са сцяны пазіралі артысты, спартсмены і дзяржаўныя дзеячы, нібыта таксама слухалі Вольку. Урэшце яна пачала расказваць далей:

— Як мы даведаліся, што пачалася вайна, я табе ўжо расказвала, а вось што гэта такое — вайна, мы зразумелі пазней. Тады, калі начальнікам над намі стаў Зігмунд Сіліцкі.

— Эльвірын бацька?

— Ага, Ірачка, прызначылі яго немцы старастам у нашай вёсцы. А было ведаеш як?

— Ой, я ж, атрымліваецца, нічоганькі не ведаю,— уздыхнула Іра, бліжэй прытулілася да сястры.

— Ну вось,— расказвала далей Волька,— тыдні праз тры прыязджаюць у нашу вёску немцы. На некалькіх павозках. Коні чорныя і такія сытыя, аж блішчаць. Хвасты ў іх пападвязаныя. Прыехалі, прыпыніліся пасярод вёскі. Адзін верхавы аб'ехаў усе хаты і загадаў ісці на сход. Мы здзівіліся, што той нямецкі зазывала так добра гаварыў па-нашаму. Аж ён, потым дазналіся, ніякі не немец, а ўсяжскі канакрад. Эйч, хуценька прыладкаваўся да новых гаспадароў. Самому свярбела пагаспадарыць.

Ён нават мацюкамі гнаў нас на той сход. А Арцёмаву маці нагайкай агрэў.

Сабраліся мы, маўклівыя і зацятыя. Стаім і гадаем, што ж будзе з намі. Думаем: што гэтыя канакрады зробяць з намі?

Адзін немец, увесь у чорным, загергетаў. Другі, што попка, пачаў паўтараць за ім па-руску: «Слюхайте, ми будем ваш спаситель».

Волька, захапіўшыся ўспамінамі, так скапіравала прамову таго збавіцеля, што аж сама засмяялася. Іра таксама не стрымала смеху.

— З цябе мо й актрыса добрая выйшла б? — сказала яна, тручы пальцамі вочы.

— А што ты думаеш, Ірачка. Каб не вайна, мо па-іншаму павярнулася б мая доля...

— Расказвай, Волька, што далей было.

— А-а далей...— Волька заплюшчыла вочы, паляжала трохі нерухома, як бы злётала ў мінуўшчыну па ўспаміны, і казала далей: — Закончыў той генерал прамову і махнуў рукой сваім прыслужнікам, сказаў: «Давайте крестьянам наши подарки». Тыя кінуліся адчыняць чорныя куфэркі, якія ляжалі на павозках. Пачалі частаваць нас цукеркамі, пячэннем. Сілком совалі ў рукі кансервы, хусткі.

Людзі аслупянелі: «Што рабіць? Браць, значыцца, трэба прызнаць немцаў і дзякаваць ім за падарункі. Не браць, дак мо загневаюцца ды пастраляюць, як вераб'ёў».

І тут з нашае грамады высунуўся наперад Зігмунд Сіліцкі. Зняў шапку, расплыўся, як растаптаны памідор, і замармытаў, прахадзімец: «Гер, паночак, мы радуемся, што вы наведалі нашу вёску. Дзякуй вам за падаруначкі. Зайдзіце ў маю хату, пачастуйцеся з дарогі...»

Той самы «попка», што стаяў поруч з нямецкім начальнікам, пераказаў яму Зігмундаву ліслівасць. Начальнік іхні ківаў галавой, усміхаўся. Потым падышоў да Зігмунда, паляпаў яго па плячы: «О гут, гут!.. Ты есть молодец!..»

Так і прызначылі Зігмунда Сіліцкага старастам у нашай вёсцы. Фанабэрыстым стаў. А на першым жа сходзе заявіў нам: «Цяперака вы будзеце збіраць птушыны памёт і есці яго».

І зразумелі мы, у Сіліцкага злосці поўныя косці.

Паслаў аднойчы нашага татку на Усяж, там была камендатура нямецкая. Завязі, гавора, ад затур'янцаў падарункі. Хадзіў жа сам некалькі дзён па хатах, збіраў масла, мёд, каўбасы, яйкі. Сцяўся татка, аж пачарнеў увесь, але што рабіць? Улада... Зігмунд, як здурнеў, гатоў быў любога забіць. Паехаў татка на Усяж.

А як змерклася, Сіліцкі са сваімі сябрукамі-паліцаямі падышлі пад вокны нашай хаты і давай грукаць:

— Марыля!.. Давай самагонку!..

Я, Мікалай, Генадзь і Алеська ўзабраліся на печ, і мама з намі. Плачам, а мамку ўсю калоціць: «Дзе-

тачкі мае міленькія, пазабіваюць зараз нас, хрысціцеся».

Мы заплакалі яшчэ мацней. А на вуліцы паліцаі рагочуць. Сіліцкі крычыць:

— Дай нам хлеба і самагонкі!..

Маці пацалавала кожнага з нас у лоб, нібы развіталася, падышла да акна:

— Нямашака ў нас хлеба, увесь аддала Лаўрэнку.

— Давай, такую тваю...— зароў п'яны Сіліцкі і грымнуў прыкладам вінтоўкі па раме.

Гулка забрынчалі пабітыя шыбіны. Паліцаі, гады, рагочуць, а мы галосім. Маці падбегла да печы, ухапіла з палка дзяжу, у якой учыніла хлеб, паднесла да акна.

— Во, вазьміце, яшчэ не спечаны... Болей няма...

Ухапіў Сіліцкі тую дзяжу ды як бразне аб зямлю. Паліцаі, аж за жываты бяруцца, рагочуць.

— А падкажы, дзе ваш староста жыве? — прычапіўся адзін паліцай да маці.

— Хто яго ведае. Дзесьці жыве ў вёсцы, а дзе, сама не ведаю,— адказала маці, бо адчула ў іхнім пытанні нешта нядобрае.

Адказ ім, відаць, спадабаўся, бо нарэшце яны адышліся ад нашай хаты.

— Я ведаю, з каго тут можна вытрасці бутэльку,— сказаў адзін з паліцаяў, і яны пацягнуліся далей.

А татку нашага назаўтра ледзь не прыстрэліў

Сіліцкі. Вярнуўся тата паражняком з Усяжы, увесь белы-белы і кажа: «Не давёз, Зігмунд, да камендатуры твае падарункі. Выйшлі з лесу нейкія ўзброеныя людзі, забралі ўсё, пратрымалі мяне да раніцы і пусцілі. Кажуць, перадай свайму старасту, каб часцей рыхтаваў такія прысмакі...»

Сіліцкі пачарнеў ад злосці, схапіў татку за грудзі.

У той жа дзень Сіліцкі наведаўся ў камендатуру і данёс, што ў нашым лесе з'явіліся бандыты. На іх немцы арганізавалі аблаву.

Вой, Ірачка мая родненькая, а што ўжо было далей?! Памятаю, ускокваюць у нашую хату пяцёра. Абарваныя, мокрыя, усе ў гразі.

— Схавайце нас,— просяцца.— За намі паліцаі гоняцца.

Татка моўчкі падняў маснічыну, яны паўскоквалі пад падлогу. А татка, чую, шапнуў маме: «Тыя самыя, што ў лесе мне напаткаліся».

Перакалаціліся мы тады, ператрэсліся як асінавыя лісцікі. Але абышлося.

Тыдні праз два завітаў да нас уночы адзін з тых лясных салдат. Партызанамі яны сталі называцца. Радаваліся мы, што заступнікі ў нас аб'явіліся.

Быў ён стомлены і вельмі ўсхваляваны. З таткам прасядзелі да раніцы. Святло не палілі, толькі самакруткі паблісквалі ў цемры. Не спалася, і па абрыўках іхняй размовы, якія далятала да мяне на печ, я зразумела: нешта адбудзецца.

Раніцай даведаліся, што Зігмунда Сіліцкага забілі партызаны. На пахаванне прыехалі немцы з камендатуры, сабралася паліцэйскае вараннё. Сагналі ўсіх нас да двара Зігмунда. Стаялі мы з акамянелымі тварамі. Аднымі вачамі і плакалі, і смяяліся. За намі пільна сачылі нямецкія прыхвасні. У той час душа кожнага з нас поўнілася радасцю: заканчвалася наша жыццё ў паняверцы. Наступаў час помсты!..

Волька прыпынілася, павярнулася да Іры, спытала:

— Замарыла цябе? Мо спаць будзем?..

Іра ляжала нерухома, як скамянелая. Вольчын расказ быў для яе нечаканы. Ніхто ніколі не расказваў такога. А чаму?..

## IX

*«...Араў на валах — 0,34 га. Завёз адзін воз гною. Сам накідваў. Пасля абеду церабіў лазняк у Капішчах...»*

Іра прачнулася з тупым болем у галаве. Рукі цяжкія, як папрывязваныя да ложка.

А Волька ўжо тупала ля печы. «Двухжыльныя людзі ў вёсках»,— з зайздрасцю падумала Іра, а ўслых сказала: — Добрай раніцы, Волька... Калі ты паднялася?.. Нічога не чула...

— От павярніся на другі бок ды паспі яшчэ,— азвалася Волька, спрытна арудуючы вілачнікамі ў чалесніках.

Па Вольчыным твары гулялі чырвоныя водбліскі полымя. Сястра заклапочана ўвіхалася ля печы, як бы і не было ўчарашняга вяселля ў Фёклы, як бы і не было бяссоннай ночы.

Іры зрабілася шкада сястры. Яна хуценька каўзанулася з ложка, ускінула на сябе халацік, ціха падышла да яе.

— Ну, чым табе падсабіць?

— Ай, нічога... Ужо як быццам усё парабіла... От мыйся, ды снедаць будзем.

Іра выйшла на вуліцу. Над бацькавай хатай вісела сонца. Зыркія промні падзалацілі замшэлы дах і верхавіну клёна. Святло падала ў шыбы, і вокны, як шырока расплюшчаныя вочы, зайздросна глядзелі на вуліцу, на агародчык. Чырвоны тырчаў уверсе комін. Ва ўсіх затур'янскіх хатах палілася ў печы. Толькі ў старых Рабянкоў комін сіратліва ўзіраўся ў неба. У Іры балюча зашчымела сэрца, і, паддаючыся нейкаму няўлоўнаму, але неадчэпнаму пачуццю, яна накіравалася ў бацькаў двор.

Не ведаючы, для чаго гэта трэба, яна зайшла на дрывотню, набрала бярэмя, як падняць, бярозавых дроў, панесла ў бацькаву хату. Распаліла ў печы, збегала па ваду. Ускочыла ў агародчык, нарвала вяргінь, паставіла іх на покуце ў літровы слоік. З партрэтаў заўсміхаліся Марыля і Лаўрэн. Паве-

сялела і Іра. Яна сядзела за сталом, на тым месцы, дзе любіў сядзець бацька, сачыла за агнём, які пачынаў лізаць чорныя, астылыя чалеснікі.

— Ір-а-а!.. Ірка-а-а!..— пачула яна Вольчын голас.

Спалоханая, Волька ўбегла ў бацькаву хату, не зачыняючы дзвярэй, ухапілася абедзвюма рукамі за вушак, цяжка дыхала:

— Што ж ета з табою?.. Што ўдумала?..

— Ды нічога... Палю ў печы... Хай жывы дух будзе ў хаце...

— Ат, каб ты жывая была...— Волька асунулася на парог, траха супакоілася.— З мяне самой ледзь дух не выйшаў... Шкробнула з хаты, нічога не сказала... Няма і няма... Аббегала вакол, пачала ўжо крычаць...

— Ну ціха, ціха... Найшла ж...— супакойвала Іра сястру, а тая ўчапілася рукамі за яе, каб не выпусціць зноў сваю згубу.

— Пайшлі снедаць... Астыла ўсё... Дый царыца нябесная прыйшла нечага да цябе...

— Хто, хто прыйшоў?

— Царыца нябесная... Анё ж не ведаеш? Аксінню так завём... У яе з языка не сыходзяць гэтыя словы, дзе трэба, дзе не трэба мянташыць імі...

Снедаць цётка Аксіння адмовілася. Волька нават спрабавала цягнуць яе да стала, але яна заўпарцілася ўсур'ёз.

— Вой-вой, царыца нябесная, толькі што ад

свайго стала. Хіба што таўкачом пхаць... От садзіцеся, снедайце, а я пачакаю...

— Ды нейк няёмка... Мы за сталом, а вы — каля прыпечка,— умяшалася ў размову Іра.

— Нічога, Ірачка... Ешце... Я вам лепей сон свой раскажу, мо разгадаеце...

— Табе шчэ сны сняцца,— пазайздросціла Волька.— Я як бухнуся ў пасцель звечара, дак прачынаюся на тым жа баку.

— Царыца нябесная, зраўнялася... Ты яшчэ цыцку дундзіла, а я ўжо з мамай хадзіла жыта жаць... Дажывеш да маіх гадоў, дак і на печы будзе ўхаба...

— Што ж табе прыснілася? — спытала Волька.

— Ага, царыца нябесная, прыснілася, быццам ляжу на печы. А тут я-як грымне комін! Аж да лежака разваліўся. Царыца нябесная, што рабіць? Прывезла цэглы, паклікала нямога Васіля. Той пахадзіў вакол печы і сказаў: «Ва... ва... ва... ва!..» Узяліся з ім рамантаваць... От памяць, столькі застаецца, як у рэшаце вады... Падхапілася карову даіць і не згадаю, ці паспелі мы з Васілём комін змайстраваць... Але ж чаго б такі сон, га?

Волька глынула кіслага малака з бульбай, падміргнула Іры, а ў Аксінні запыталася:

— Ты што апошнім часам згубіла?

— А, царыца нябесная, я ж усё пагубляла ў жыцці... Мужа згубіла, дачку згубіла...— цётка Аксіння заплакала.

Волька сумелася, што ўзяла жартаўлівы тон з

Аксінняй, і ўжо сур'ёзна пачала разгадваць яе сон:

— Дак вось слухай, Аксіння, сон твой добры. Вымáць цэглу са сцяны — страта, а лічыць цэглу, складаць яе — дастатак... Чакай прыбытку...

— Вой, вой, царыца нябесная, ніякага мне прыбытку не трэба,— сказала павесялелым голасам Аксіння, як быццам Волька ёй нешта давала, а яна ўпарцілася, не брала.

— Трэба не трэба, а прыйдзецца ўзяць, калі прысніла,— пажартавала Волька.

Як толькі сёстры паснедалі, Аксіння бліжэй падсела да Іры.

— Мая ты царыца нябесная, даўно адна згрызота падкошвае мяне. Дай, думаю, схаджу, папытаю. Мо ў вашым Светлаградзе чуваць болей?

— Калі змагу,— нерашуча адказала Іра, бо ўжо ведала, што вяскоўцы такія пытанні часам падкідваюць, каб адказаць на іх, трэба мець няйначай як саўмінаўскую галаву.

— Скажы, мая ты Ірачка, каму гэта ў вушы ўвесці, каб нас, старых качэрг, шкадавалі трохі болей,— сказала Аксіння і схіліла галаву набок, каб лепей было цікавацц за Ірынымі вачыма.

— Не зусім зразумела вас,— разгублена адказала Іра.— Калгас жа вам хату пабудаваў, пенсію атрымліваеце...

— Ага, царыца нябесная, пенсію атрымліваю...

— Агарод жа ў вас яшчэ... Куры нясуцца... Парсючок рохкае ў хлевушку...— наступала Іра.

— Ай, усё ў мяне ёсцека,— зазлавала Аксіння.— Але ж несправядліва...

— Не разумею вас.

— Ты ведаеш, якая наша пенсія мазольная? — цяпер пачала ўжо наступаць Аксіння.— Вой, вой, царыца нябесная, я ж сваімі ручачкамі перабрала ўсю зямельку ля Затур'і. Цалюткі дзень, бывала, жнеш, а ўночы — малоціш. Веялку рукамі круцілі. Каб не пазасынаць, возьмемся за рукі, патанцуем, пасляваем і зноў круцім. Га?..

— Безумоўна, папрацавалі,— не знайшлася, што болей сказаць Іра, а Аксіння ўсё наступала.

— Царыца мая свянцоная, а як пачнецца касавіца, няма ж калі дыхнуць. І касіла нараўне з мужчынамі, і стагі кідала. Рук не чуеш к вечару. Задрэмлеш звечара, а разам з пеўнямі падхопліваешся і зноў на працу... Хіба калгаснік так позна снедаў, як вы сёння?

— Хэ, сказала,— умяшалася ў размову Волька.— Я ж пенсіянерка, калі хачу, тады і снедаю. А Ірка — адпускніца. Так што, Аксіння, выбачай...

— Вой, царыца нябесная, ды мне ўсё роўна. Снедайце, калі хочаце. Я пра тое, як даўней было,— сказала Аксіння і зноў павярнулася да Іры.— Усё рабіла, мая ты Ірачка, як трахтар які. Помню, паслаў брыгадзір на валах ездзіць. Царыца нябесная, каб жа іх пярун ляснуў. Накладзеш воз паляняк якіх, ув'яжаш і цэб-цэ-бэ. А не слухаюцца, быдлы,

лупіш, лупіш хлызінай, ідуць куды хочуць. На валах толькі па смерць пасылаць...

Аксіння расчырванелася. Яна быццам і не прыкмеціла, як спаўзла з галавы паркалёвая хустка. Цяжкія, вузлаватыя рукі стомлена ляжалі на прыполе. Іра спачувальнаківала галавой.

— Працавалі па-стаханаўску. Па чатырыста працадзён у год мела. Гэта ж і ваш бацька Лаўрэн жылле сваё парваў на калгасным полі. Помню, цэлым абозам ехалі па сена на луг. І раптам у Лаўрэнавым возе заверта адарвалася. Ну, што трымае аглоблю ля санак. Дак ён, бедненькі, каб не адстаць, каб не выбіцца з абозу, дваццаць кіламетраў трымаў аглоблю ў руках. Счарнеў увесь, а ехаў разам, не адстаў...

— Працавалі-шчыравалі, што і казаць,— уставіла сваё слова Волька.— А мы што, Аксіння, цяпер горш робім? Сялянская праца заўсёды мазольная.

— Вой, зраўнялася, царыца нябесная. Цяпераka ж трактарысты — галоўныя работнікі. Астатнія калгаснікі падсобнікамі парабіліся...

У гэты час зноў загаварыла Волька. Яна адбягала ад печы то ў хлеў, то ў агародчык: уходжвалася па гаспадарцы, не перашкаджала і асабліва не ўмешвалася ў гутарку Аксінні з Ірай. Але цяпер яна ўскочыла ў хату трохі ўстрывожаная.

— Дзеўкі, што рабіць будзем? — спытала яна.

— А што здарылася? — першая падхапілася Аксіння.

— З боку Дубровы такая страшэнная хмарышча паўзе. Гэта ж як ульё, пагніе сенакос у Капішчах. Мужчыны стараліся касіць па кустах, га?

— Вой-вой, царыца нябесная,— забедавала Аксіння,— дак чаго ж мы сядзім. Пабегліма, бабы. Мо ўхопім хоць трохі...

Волька прынесла Іры гумавікі, дастала са скрыні яшчэ дзявоцкую сваю сукенку.

— Пераадзенься! — кінула ёй, а сама пабегла шукаць грабель.

Цётка Аксіння тым часам злётала ўжо да свае хаты, ухапіла граблі і чакала ля Вольчынага акна.

— Пайшліма, бабы! — падганяла яна Вольку з Ірай.

Для Аксінні, здаецца, не існавала больш ані якіх праблем, апроч таго, каб ухапіць, згрэбці ў копы калгаснае сена.

Выбеглі за агароды, заўважылі Мітрафана Скакуна, Фёкліну Нінку з зяцем, Параску Коцур, якія таксама кіраваліся ў Капішчы. За імі чыкільгаў Арцём Крупянка. Выходзіў са свайго агарода і дзед Максім. На плячы, як ружжо, трымаў вілы. Усе рынуліся ратаваць сенакос. Здавалася, і хмара пачала адступаць. Яна трохі пасвятлела, падзялілася папалам. Адно крыло паплыло на цагельню, а другое — на Мікітаву грыву.

Над Капішчамі выглянула сонца.

## X

*«...Касіў на Дуброве — 0,52 га. Па абедзе варочаў, зграбаў сена і клаў у копы — 0,80 га. Уночы вартаваў трактар...»*

Іра ўзіралася ў люстэрка і не пазнавала сябе. Твар загарэлы, аж нос лупіцца. Валасы як у затур'янскіх баб, зачасаны на скорую руку. Бігудзямі няма калі карыстацца. З люстэрка глядзела на яе звычайная вясковая дзяўчына. Іра падміргнула ёй, усміхнулася: от і добра!

Яна хадзіла басаніж. Магла завязаць на «бабку», як Параска, хустку і бегчы па ваду. Не саромелася апрануць старую Вольчыну сукенку і прайсці па вуліцы. Затур'янцы паважалі яе.

А пасля той ночы, калі Волька расказала пра бацьку, у Іры як бы штосьці надламалася. Па твары пачала блукаць хмурынка. Ды ці толькі на твары?

Першым прыкмеціў «хмурынку» ў Ірыным настроі Уладзік Крупянка.

— Што, па гарадскіх булках засумавала? — здзекліва ўпікнуў ён.

— Што ты, Уладзік... Мне тут вельмі добра...

— А чаго нос вешаеш?

— Хутка ехаць трэба, вось чаму,— адказала Іра. Яна як бы ўхілілася, схітрыла, але тут жа ад-

чула, што ў яе адказе — праўда! Яна ўвогуле не ўмела хітрыць, тым больш перад Уладзікам.

Яны былі амаль аднагодкі. Некалі, у маленстве, Уладзік нават праводзіў яе. Пасядуць на калёсы, бывала, і расказваюць, дзе чые куры нясуцца, якія ў каго грушы спеюць.

Уладзік быў цыбаты і дужы хлопец. Найперш заўважалася на яго твары выціснутая пад левым вокам падкова конскіх зубоў. Некалі, у дзяцінстве, ён падскочыў да жарабка і той «пацалаваў» пад левым вокам. Так з конскай адмецінай ён і застаўся.

Вельмі смелым удаўся Уладзік Крупянка. Знайшлі аднойчы хлопцы каршунова гняздо на высозным дубе. Трэба знішчыць курынага злодзея! А хто палезе на дуб? Усе паглядзелі на Уладзіка. І той палез. І абышлося б добра, паскідаў бы ён тых каршуноў, вярнуўся б пераможцам. Але над дубам пачалі кружыць шэрыя гаспадары гнязда. Яны ўпачатку проста цікавалі за верхалазам: ці ж дабярэцца да іх дзяцей? А калі пераканаліся, што не толькі дабраўся, а пачаў выкідаць лупаценькіх, кашлаценькіх, каршуны захваляваліся, закрычалі і ўступілі ў бойку з Уладзікам.

Ён зваліўся з дуба. Хлопцы змайстравалі насілкі і прынеслі Крупянкам параненага сына. Балелі падзяўбаныя твар і рукі, ныла паясніца, гудзела ў галаве. Усё гэта хутка прайшло, але нясцерпна забалела нага. Фельчар Браткоўскі агледзеў яе і загадаў бацькам тэрмінова везці Уладзіка ў раённую

бальніцу. Малання плакала і галасіла на ўсю вёску: не будзе нагі ў яе сына.

У вёску Уладзік вярнуўся месяцаў праз тры. Хадзіў з кавенькай, накульгваў. У школу не пайшоў: цяжка ўжо даганяць свой дзевяты клас. За тры месяцы вучобы яны далекавата ўцяклі. Дый з кавенькай хадзіць за тры кіламетры ў школу — невялікая радасць.

Уладзік Крупянка адстаў ад свайго выраю. Дапамагаў бацькам па гаспадарцы, а калі нага перастала балець, пачаў працаваць у калгасе. З дому адлучаўся толькі на адзін год, калі калгас накіроўваў у вучылішча механізатараў.

З тае пары Уладзік Крупянка — калгасны шафёр і трактарыст адначасова.

Іра бачылася з ім рэдка. Сёння ішоў дождж, і Уладзік нікуды не спяшаўся. Ён вельмі ўзрадаваўся, калі ў іх хату прыйшла Рабянкова Іра. Не ведаў, куды пасадзіць яе, пра што спытаць.

— Дык, значыцца, хутка паедзеш ад нас,— ціха сказаў Уладзік, і толькі цяпер Іра ўбачыла яго вочы.

Якія ў яго блакітныя вочы! На загарэлым твары яны, як васількі на пераспелым палетку. А над тым блакітам вачэй былі раскосыя бровы, як крылы чайкі. Пшанічная чупрына...

— Няўжо ж у Затур'і застанецца свіней карміць ды гразь мясіць,— умяшалася ў размову маці Уладзіка, Малання.

— Засталася б, цётка Малання, каб не работа ды не кватэра ў Светлаградзе,— ці то жартам, ці то ўсур'ёз адказала Іра. Яна і сама не магла разабрацца ў сваіх пачуццях, якія апанавалі яе апошнім часам.

— Хм, маленькія дробязі: каб не работа ды не кватэра,— хмыкнуў Уладзік і ўздыхнуў: — Значыцца, не жыць табе ў Затур'і...

— А я б не змог жыць нават у іншай вёсцы. Тым болей у горадзе,— прызнаўся Уладзік і пачаў закурваць.

— Зноў тлуміцца будзеш?..— падступілася Малання да сына.

Уладзік замахаў на яе рукамі, быццам адганяў назойлівую муху. Тады маці пусціла ў ход свой апошні козыр:

— Хоць бы Іры пасарамаціўся. Мо для яе твой дым, як дуст...

Уладзік прыкметна пачырванеў, вінавата зірнуў на Іру, скамячыў папяросу і кінуў у чалеснікі.

— Пайшлі, Іра, у другі пакой,— сказаў ён і зірнуў на маці.— Хіба тут пагаворыш...

— Правільна, прайдзіце, дзеткі, на чыстую палавіну, пагаманіце, а я тое-сёе падрыхтую,— азвалася Малання, сама адчыніла дзверы.

У Крупянкоў на самым відным месцы стаяў нікеліраваны ложак. На ім — пярына, дзве шыкоўныя падушкі. А на сцяне вялізная карціна мясцовага рамесніка — цыганка з гарэзлівым позіркам,

доўгай, як у лебядзіхі, шыяй і з самымі мудрагелістымі пярсцёнкамі, бранзалетамі, завушніцамі. А воддаль ад цыганкі плавалі на тым палатне лебедзі. Усё гэта — і цыганка, і лебедзі, і возера — было аблямавана ружамі.

— Гэта маці мне ўдружыла такую карціну,— пачаў тлумачыць Уладзік і засаромеўся.— Прывезла неяк з кірмашу. Пакуль я быў у полі, прыбіла ля майго ложка. Кажа, не можаш знайсці сабе жонку, начуй з гэтай цыганкай.

— Дык чаму ж не шукаеш? — зірнула Іра яму ў вочы.

Уладзік не вытрымаў яе позірку і адвярнуўся да акна.

— Такія, як ты, паразляталіся, а да тых, што пазаставаліся, душа не хінецца...— задумліва сказаў хлопец.

Яны зноў сустрэліся позіркамі, і Іра адчула, што хвалюецца. Дужы і магутны, як асілак, стаяў пасярод хаты Уладзік Крупянка. І толькі рукі яго звісалі неяк бездапаможна, на твары была разгубленасць.

— Колькі ў вас картачак! — задзівілася Іра.

— Ага, багата,— азваўся Уладзік, і яны падышлі да рамак з фотакарткамі і пачалі разглядаць іх.

— Якія твае бацькі маладыя былі!..— сказала Іра і ціха дадала: — Нашы гады таксама хутка ляцяць...

— Ляцяць,— пагадзіўся Уладзік.— Я дык не

кожную пару года заўважаю. Здаецца, толькі пасяўная была, а тут ужо жніво. У мяне ўсё па скарочанай праграме: вясна, восень — і год, вясна, восень — і год...

У адной з рамак Іра прыкмеціла свой фотаздымак. З яго пазірала няўклюднае дзяўчо.

— Бач ты, захаваў,— узрадавалася і адначасова ўсхвалявалася Іра.— Калі ж ты займеў?

— Даўно,— ціха адказаў Уладзік.

— Здаецца ж, я табе не дарыла...

— Забылася...— сказаў Уладзік з хваляваннем.

Іра заўсміхалася і адчула, што гаварыць становіцца ўсё цяжэй.

На гэты раз выручыла цётка Малання. Яна мякка, як мышка, падышла да Іры і шэптам спытала:

— Ці любіш ты, Ірачка, наліснікі з м'ёдам?

— Ой, цёця, ды не клапаціцеся вы, я ж не галодная. Волька мяне корміць, як у лепшых рэстаранах.

Уладзік толькі ўхмыльнуўся левым беражком вуснаў, падумаў пра маці: «От жа цікаўная. Так ужо ёй прыспічыла папытацца пра наліснікі...»

— Ну, то й добра, гаманіце сабе, болей перашкаджаць не буду,— сказала Малання і гэтак жа ціха выйшла.

— У вас ёсць мёд? — таямніча прамовіла Іра, каб падкрэсліць, што прапанова Уладзікавай маці спадабалася ёй, што яна ўзрушана такімі яе лагоднымі клопатамі.

— Развёў дзве сям'і,— абыякава адказаў Уладзік, а потым пачаў расказваць пра сваю пчалярню.

Іра слухала Уладзіка і думала: вось сустрэўся б ёй на светлаградскім праспекце такі вуглаваты хлопец, апрануты не па модзе. Пэўна, не заўважыла б, прайшла б міма. А ён жа мо самы лепшы ў свеце...

Іра амаль не чула, што гаварыў Уладзік. Яна пільна разглядала яго: якія блакітныя вочы ў яго!.. Якая ў яго пышная чупрына!.. Гузік на кашулі адарваны... Ёй захацелася нешта прыемнае зрабіць для яго. Ну хоць бы той гузік прышыць...

Яна ачнулася толькі тады, калі да яе блізка падышоў Уладзік і занепакоена сказаў:

— Ты такая ўзрушаная?..

— Ай, заслухалася пра тваіх пчол,— схамянулася Іра, запнулася, не ведаючы, што далей схлусіць, а потым пачала выдумляць: — Прыгадала, як аднойчы ў дзяцінстве ўкусіла пчала за нос. Вы тады дражнілі мяне Бабай Ягой.

— Ёсць з-за чаго...— Уладзік расчаравана махнуў рукой, прайшоў па пакоі.— Што было — сплыло...

— Сплыло, але не выветрылася.

— Склероз, як уваб'ецца, выветрыць,— зарагатаў Уладзік і пачаў расказваць: — Мой напарнік па трактару Мішка Рагалёў кажа, што ёсць тры стадыі склерозу.

— Раскажы,— павесялела Іра.

— Першая стадыя, гэта калі прыгоніш трактар на стаянку і забудзеш нанач выключыць яго... Другая, калі залезеш у кабіну, пасядзіш і вылезеш, так і не ўспомніўшы, што трэба было завесці матор...

— А трэцяя? — не ўтрымалася, прыспешыла Іра.

— А трэцяя...— Уладзік ледзь стрымаўся, каб не зарагатаць.— Гэта калі чалавек адчэплівае ад трактара плугі і едзе чорт ведае куды...

— Ну й жартаўнікі...— сказала Іра і раптам тым жа жартаўлівым тонам спыталася: — А ў цябе, Уладзік, якая стадыя?

— Аніякая,— сур'ёзна адказаў Уладзік.— Бо я нават помню, як ты яшчэ ў восьмым класе абяцала пацалаваць мяне...

— Няўжо абяцала?..

— Ага... Гэта было ранняй вясной... Я лазіў у сажалку па тваю хустачку, якую ты сама вышывала...

— Не помню.

— От, бачыш, у каго трэба пра стадыі пытацца?.. Ты мне дні праз два тады падаравала такую ж хустачку і паабяцала: «А пацалую іншым разам».

— Дык абяцанага ж тры гады чакаюць!

— Ага, даўно прайшлі тыя тры гады,— сказаў Уладзік і наблізіўся да Іры.

Ёй зрабілася страшна. Яна адчула, як закружылася галава, а ў твар шыбанула гарачыня. Але ў гэты самы момант зноў зайшла Маланння.

— Прабачце, мо перашкодзіла? Але абед — на сталe... Бацька прыйшоў...

— Пайшлі!.. Абедаць дык абедаць...— Уладзік узяў Іру за руку.

За сталом сядзеў Арцём Крупянка. Твар яго белы ад сівой шчаціны (даўно не браўся за брытву). Насіў ён кашулю навыпуск, падвязваўся рэмнікам. Каўнер любіў стаячы, каб на ім было гузікаў, як у гармоніку.

— А-а, госця ў нас, здароўма,— сказаў Арцём такім тонам, быццам Іра і не госця, а даўно жыве ў іх.

— Гэта ж Волька паслала па рэшата да вас, а я загулялася,— адказаўшы на прывітанне, дадала Іра.

— То й добра, сядайце,— павесялеў Арцём.— Гэта па-вясковаму... У нас у госці ходзяць, як памрэ чалавек ці народзіцца, а яшчэ як надумае пятлю на шыю пачапіць.

— Нешта ўжо ўсе жанатыя перавешаліся,— падтрымала гаворку Малання, бо ведала, што муж пад пятлёю разумее жонку.

— Давайце для пачатку па чарчыне возьмем, потым разбяромся,— прапанаваў Арцём і першы падаў прыклад.

— Ну, давайма, дзеткі, за нашу жызню! — Малання пачокалася з Уладзікам і Ірай.

— За нашу госцю Іру Рабянок! — дадаў Уладзік.

Іра зусім засмуцілася.

— Мы з тваім бацькам, Іра, сябравалі. От мацак быў... Што дужы, што цягавіты да працы! За калгаснае мог горла перагрызці,— пачаў успамінаць Арцём, сустрэўся з цікаўным позіркам дзяўчыны, расказваў далей.— От аднойчы вашаму Гену ўкапнуў! Той папрасіўся з ім касіць. Ну, упачатку хлопец стараўся, а потым пачаў нячыста касіць. Бацька раз сказаў, другі. А потым як даў жа яму мацюкоў, марш, кажа, свіней пасвіць... Прагнаў з калгаснай сенажаці. Круты быў мужык.

— Подбегам працавалі, мае дзеткі,— уздыхнула Маланння.— Выдумалі былі сеяць кок-сагыз. Рос, як малачай. Карэнне доўгае. Казалі, на гуму трэба. Грошы давалі за яго, але ж і тлуму з ім...

— Далі нам аднойчы за кок-сагыз на ўвесь калгас «Змагар» трыццаць дзевяць пар галошаў, семдзесят метраў мануфактуры, сорак брусоў мыла, пяцьдзесят кіло цукерак...— прыгадаў Арцём.

— Помніш нават, колькі брусоў мыла далі,— усміхнуўся Уладзік.— Ну як жа вы дзялілі гэта багацце?

— З тыдзень дзялілі,— махнуў рукой Арцём.— Хай яго ліха, перагрызліся!.. Гэта ж, што галодным сабакам костку падкінуць...

— Бабы доўга мацяр'ял дзялілі, ледзь разабраліся...— загаварыла расчырванелая Маланння.— Пасля ж вайны ў людзей нічоганькі не было. Знай-

шлі былі ў лесе ваенную палатку. Дак усе бабы пашылі сабе спадніцы. Ідзеш — шах, шах,— на другім канцы вёскі чутно...

— Цяпера адзін наш Уладзік атрымлівае стольki, як мы некалі на працадні ўсёй вёскай,— з гонарам сказаў Арцём.

— Дак жа мо й працуе за ўсю вёску,— заступілася за сына Маланння.

— Што праўда, то праўда,— пагадзіўся Арцём, а потым павярнуўся да госці: — Ён жа ў нас, Ірка, і жнец, і касец, і араты... Ды яшчэ і кніжнік які! Калі ён толькі спіць?..

— Ага, засталося толькі на дудачцы навучыцца граць,— пажартаваў Уладзік, бо станавілася няёмка ад пахвалы.

А Маланню было ўжо не ўтрымаць:

— Ён, Ірачка, у полі, што аграном... Трэ ж ведаць, як араць, на якую глыбіню: пад жыта так, пад лён гэтак...

Уладзік хацеў супыніць маці, але адчуў, што проста яму гэта не ўдасца, таму загаварыў пра сваю работу сам.

— Хапае дзялоў... Няма калі і на танцы схадзіць... Але чаго там! Спраўляемся... Запчасткі толькі душу выматваюць... Дастаў неяк два падшыпнікі, паклаў пад сядзенне. Запас бяды не чыніць. Даведаўся механік. Прылятае ў поле на тэхдапамозе: «Уладзік, выручай!.. Вернем калі-небудзь!..»

Іра адчула яшчэ большую прыхільнасць да Уладзіка.

— Ён, Ірачка, не паказваў табе сваіх медалёў? — спытала Малання.

— Мама!..— строга паглядзеў на яе Уладзік.

— Ну чаго ўпарцішся? Ірка ж свая. Няхай ведае...

Не паспеў Уладзік яшчэ нешта сказаць, як Малання прынесла да стала бляшаны куфэрачак і пачала выцягваць адтуль сынавы ўзнагароды: ордэн «Знак Пашаны», медаль «За доблесную працу», значкі «Пераможац сацыялістычнага спаборніцтва», «Ударнік працы»...

— Во, мая ты зорачка, які Уладзік наш,— прыгаворвала Малання.

Уладзік пачырванеў, рэзка падняўся з-за стала, падышоў да печы, закурыў.

Іра беражліва брала ў рукі ўзнагароды. А Малання і Арцём моўчкі сачылі за ёй і чакалі, што скажа Рабянкова настаўніца.

— Ну й малайчына-а-а! — толькі і сказала Іра, адчула, што голас яе здрыгануўся, а сэрца пераключылася на новую хуткасць. Павярнула галаву да Уладзіка і з дакорам дадала: — Бач, а сам і не пахваліўся.

Уладзік махнуў рукой. Думкі яго былі пра іншае. Сёння самай высокаю ўзнагародай для яго быў прыход Іры. Даўно чакаў гэтага імгнення, рыхтаваўся да яго... Хацеў раскрыць перад дзяўчынай

сваю душу. Не выйшла. Улезла маці з гэтымі медалямі, толькі напсавала. Што цяпер падумае пра яго Ірка?

А да грудзей Іры падкатваўся шчымлівы камяк, настолькі шчымлівы, што вочы гатовы былі восьвось напоўніцца слязамі. Іра адчула, што яе душа размякла. Мо ад пяшчотнага блакіту Уладзікавых вачэй? А мо ад гонару за працавітага затур'янца? Ці з жалю да яго халасцяцкага адзіноцтва? А мо, зусім наадварот, ад Уладзікавага шчасця — кожны дзень бачыць і гаварыць з маці і бацькам, дыхаць затур'янскім паветрам, хадзіць па затур'янскай вуліцы...

Адчуўшы на сабе пільныя позіркі, Іра схамянулася і паднялася з лаўкі.

— Цётачка Малання, трэба ж мне ісці ўжо.

— Чаму так хутка?..— абурылася Малання.

— І выпіць не давялося,— буркнуў незадаволена Арцём.

Падышоў да стала Уладзік. Але Ірына вырашыла пайсці.

— ...Забавілася ў вас. Волька чакае...— пачала апраўдвацца Іра.— Вы пазычце нам рэшата... Мы хутка вернем...

— Госпадзі, пра што гаварыць,— сказала Малання, подбегам кінулася да кладоўкі, па дарозе разгублена паўтарала: — Хіба ж нам шкода...

Яна вынесла рэшата і слоік мёду:

— Во, гасцінчык табе...

Мужчыны маўчалі. Прыпыняць Іру, угаворваць пагуляць не адважваліся, бо вельмі ж рашуча яна пакінула стол.

— Пакаштуй нашага мядку, мо часцей нас прыгадаеш...— паўтарала Малання, як бы нагаворвала замову.

Іра падзякавала за гасцінец, пацалавала цётку ў шчаку і амаль выбегла з хаты.

За парогам сенцаў яна адчула, што зараз калі не глядзяць праз акно на яе тры пары вачэй, то ўсе Крупянкі думаюць і гавораць менавіта пра яе. Малання з Арцёмам хваляць яе. Уладзік моўчкі, відаць, нальне чарку. Яна баялася падняць галаву, зірнуць на вокны Крупянковай хаты і яшчэ шпарчэй пакіравала з іх двара.

На вуліцы, адразу ж за брамкай, на яе, як прывід, наляцеў Мікіта Сідарэнка. Іра ні разу не бачыла цвярозым гэтага чалавека. Ён і цяпер, хоць дзень браўся толькі пад абед, ішоў, чапляючыся за плот.

— А-а-а, госця-я!..— расплыўся ён ва ўсмешцы і падаў абедзве рукі.

Іншым разам Іра мо абышла б п'янага, не завадзіла б з ім гаворку, але цяпер падала яму руку.

— А вы так рана, дзядзька Мікіта, ужо і вясёленькія.

— Ірачка, мая рыбка, хіба ж гэта выпіўка? — здзівіўся Мікіта.— Я ж толькі перакусіў у Яўменавых... Гэта ж прыбегла досвіткам Надзя і просіць:

«Дзядзечка, галубчык, закалеце парсюка... Захварэў...» Хіба ж можна людзям адмаўляць, як просяць, га?..

Мікіта ўтырыўся ў яе вачыма, усміхаўся, не гнуў трохпавярховых мацюкоў, як звычайна. На ім былі пааблінялыя кірзавікі, сіняе шырокае галіфэ. Пад рудым пінжаком — пакамечаная салдацкая кашуля з вялізным белым гузікам уверсе. З-пад зашмальцаванай шапкі выбіваліся кудзеркі валасоў. Да гэтых убораў дадаваліся няголеная дзядзькава барада і вусы. «Не піў бы гэты дзядзька... Ды апранаўся б лепш... Хіба ж няма за што?!.» — падумала Іра.

— Дапамагаць трэба, але ж ці абавязкова піць? — падтрымала размову Іра.

А дзядзька Мікіта зноў ухапіў яе за рукі разам з рэшатам, захітаў галавой:

— Э-эх, а як жа чарку не ўзяць, калі частуюць?.. Людзей крыўдзіць?.. Не!.. У Затур'і людзей не крыўдзяць...

Іра адчувала моцныя рукі Мікіты і думала: «Колькі ўсяго-ўсякага дзядзька перарабіў імі! Сёння, бач, свінчо ўжо ўладзіў. А яшчэ будзе касіць, дровы калоць, грэбці сена, насіць ваду...»

— Дык часта ж мо вас частуюць? — спытала Іра.

Мікіта не пакрыўдзіўся. Адпусціў яе рукі, пачаў расказваць:

— От я надоечы быў перахаўкнуў... Дзялку ка-

сіў Парасцы Коцур... Сыны ж носа не паказваюць да яе... Прыходзіць — румзае, як выкасіць... Кінуў сваё, пайшоў... Ну, трэба ж людзям памагаць, га?..

— Трэба!

— Ага, выкасіў тую яе дзялку... А Параска ведае, чым аддзячыць... Ну й прыйшоў дахаты што зямля... Аж нешта ў галаве блёхала... Раніцай прачынаюся... Ёлкі зялёныя, ляжу на шафе... Як туды ўспёрся?.. А жонка аж бокі рве... Паклікала Івана Канаплянікава, каб дапамог зняць мяне... Ужо як снедалі, расказала, як я лез на шафу. Яна ляментуе: куды ты дзярэшся? На печ лезу, адказваю ёй... А каб цябе высушыла там...

Мікіта засмяяўся. Іра таксама не стрымалася: такога нават у камедыях не ўбачыш.

— Слухай,— першы спыняецца Мікіта, яму надта ж спадабалася, што Рабянкова настаўніца так уважліва слухае яго. У мужчыны аж хмель прайшоў, захацелася сказаць нешта сур'ёзнае: — А ведаеш, Ірка, я каб не піў, мо паэтам быў бы... Аднойчы ляжу цвярозы і чую: у галаву нешта стукаецца. Узяў і запісаў. Во, зараз...

Мікіта доўга шнарыў па кішэнях. Потым у шапцы, над казырком, знайшоў пацёртую паперынку і пачаў чытаць:

А сям'я ў нас вялікая —
Чатыры сыны і тры дочкі,
А адзёжа-то якая —
Тры штаны і дзве сарочкі...

Мікіта пазіраў на Іру, чакаў ухвалы і, не дачакаўшыся, пачаў тлумачыць:

— Гэта ж я толькі гадзіну паляжаў, падумаў, а каб двое сутак, га?.. Хачу паэму напісаць, як даўней жылі і якая харошая жызня цяперака...

— Паспрабуйце...— сказала Іра і пачала развітвацца з Мікітам.

Ён хоць і п'яны, але не затрымліваў яе, не прыставаў. Толькі папрасіў:

— Прышлі мне, Ірка, вершыкаў чыіх-небудзь... Мне трэба падлаўчыцца, як пісаць...

— Абавязкова прышлю,— сказала Іра.— Толькі вы, дзядзька Мікіта, часцей цвярозым будзьце...

— А я магу і зусім не піць,— сказаў, як паабяцаў, Мікіта і на развітанне зняў шапку.

## XI

*«...Вазіў снапы жыта — 7 вазоў. Зрабіў адзёнак і склаў стог пшаніцы — 12 вазоў. Ездзіў у Восаў па дзвіжок для кіно...»*

Трэці дзень Волька не магла нацешыцца тэлевізарам. Хуценька ўходзіцца па гаспадарцы, ускіне на сябе чыстую сукенку, расчэша валасы і чынна садзіцца на канапу, просіць:

— Ірачка, пстрыкні...

Глядзіць Волька ўсе перадачы запар і не надзівіцца:

— Во дажылася — ціятр у хаце... Я ж, мая сястрычка, мо за ўсю жызню не пабачыла таго, што за гэтыя дні...

Купіць тэлевізар падбіла яе Іра. Паехалі неяк у райцэнтр. Пахадзілі па магазінах. Волька ўсё прыглядалася да квятастых хустак, шукала «мацяр'ялу» на халацік, прымервалася да чыгункоў. У магазін з тэлевізарамі не хацела нават заходзіць.

— Давай хоць зірнем,— угаворвала Іра.

Увайшлі. Было ўключана адразу некалькі тэлевізараў: спявалі, гаварылі, танцавалі. Волька заглядзелася. А Іра тым часам праводзіла агітацыю.

— Цуд, праўда?.. Сядзіш зімою на печы, а табе канцэрты паказваюць, га?..

— Ага, Ірачка, вясной і ўдод напяець, а зімой бы не шкодзіў і тэлевізар...

— Ну дык давай купім!

— Вой, што ты, поўна ж грошай трэба,— запярэчыла Волька, а потым шапнула: — У нашай Затур'і яшчэ не ўсе заможнікі пакуплялі. Да мяне яшчэ чарга не дайшла.

— А які разумнік такую чаргу ўстанавіў?

— Ды я сама,— усміхнулася Волька.

Іра не адступалася ад сваёй задумы. Адпачынак яе заканчваўся: хацелася зрабіць гаротнай Вольцы нейкую прыемнасць, пакінуць памяць.

— Я табе куплю... Выбірай, які ўпадабаеш,— рашуча сказала Іра.

— Вой, навошта траціцца. Хадзем адсюлека,— Волька спрабавала перайначыць намеры сястры, але не ўдалося. Тады яна дастала з-пад кофты вузельчык з грашыма, развязала яго і падала Іры.— Тут сто рублёў... За малако калгас даў... Давай разам купім, га?..

Цяпер Волька не магла нарадавацца:

— От, людцы, дажылася... Вой-вой, жыві і не памірай...

А Іра паціху збіралася ў свой Светлаград. З кожным днём яна адчувала ўсё большую патрэбу застацца адной, разабрацца ва ўсім і ў сабе самой. Бо за лета назапасіла столькі ўражанняў, што, здавалася, душа перапоўнілася імі.

Часовым душэўным прытулкам сталі для яе пісьмы, якія яна некалькі дзён складвала — і ў думках, і на паперы — Міколу, Генадзю, Алесю і Мілцы.

Братам пісьмы выйшлі амаль што аднолькавыя. Яна сарамаціла іх, што забыліся пра Вольку, нават не пішуць ёй. Прасіла, каб абавязкова знайшлі час і наведаліся ў Затур'ю да старэйшай сястры.

Іра не казала Вольцы, аб чым яна піша, каб тая не пярэчыла. А ёй хацелася як найбольш патурбаваць хлопцаў. Яны амаль адракліся ад бацькоўскага гнязда, ад старэйшай сястры, якая ўсіх іх разам з мамай няньчыла, падымала на ногі.

Пісьмо Мілцы давалася цяжэй. Ёй, самай меншай, «выкатанай у масле ды сырах», хацелася сказаць такое, каб працяла яе ўсю, каб запомнілася і ўсхвалявала.

«Мілая мая сястрычка Мілка! — пісала Іра.— Дзе знайсці мне словы, каб выказаць табе ўсё, што тво́рыцца цяпер у маёй душы?

Пла́чу, калі хаджу на мамчыну і таткаву магілкі. Кожны дзень нашу ім кветкі. Расказваю ім усё, аб чым не паспела сказаць пры жыцці.

Радуюся, калі нешта прыемнае раблю Вольцы альбо нашым затур'янцам. Дарадчыцай ім зрабілася. Спатрэбіліся і мае рукі. Іх так не хапае ў вёсцы спякотным летам.

Хвалююся, калі пачую нешта новае з жыцця нашых бацькоў, з гісто́рыі вёскі. Я ж, Мілачка, амаль нічога не ведала пра нашу Затур'ю, пра наш, Рабянкоў, род.

Шчыра смяюся, калі сустракаюся з затур'янцамі, асабліва старымі. Яны такія мудрыя і дасціпныя, што з кожнага можна пісаць кнігу. Яны ведаюць столькі прымавак, жартаў, баек!

Бывае, Мілачка, і сум агортвае. Але не па горадзе, у якім жыву і працую, а па вёсцы, якую мы некалі пакінулі.

Скажы мне, Мілачка, няўжо мацней Затур'і ты палюбіла Турэц, што каторы месяц не пакажашся сюды?

Іра не спяшалася закончыць пісьмо. Адкладвала

яго, займалася нечым іншым. Але ўвесь час думала, што б яшчэ напісаць сястры?

«...А ці ведаеш, Мілачка, што наша Затур'я на памяці толькі цяперашніх старажылаў гарэла двойчы? Першы раз утварыла над ёй самасуд кулаччо. Майскай ноччу зыркімі факеламі пыхнулі хаты затур'янцаў, якія падалі заявы ў калгас. Ад вёскі засталіся галавешкі. Нашы мамка з таткам выхапілі з хаты, сонных, Вольку і Мікалая ды сякія-такія транты.

Нас з табою, сястрычка, не было яшчэ на свеце, як згарэла наша Затур'я яшчэ раз. Гэта было ў 1943 годзе. І зноў жа падпальшчыкі — двуногія звяругі. Толькі на гэты раз прышэльцы ажно з Германіі. Ім, крывавым валацугам, муляла нечым наша Затур'я. Наляцелі як каршуны. Палілі ўсё, забівалі ўсіх...

Маці Фёклы Горбач і яе сястра Анця схаваліся былі пад печчу. Там яны і засталіся ў сваёй схоўні. Знайшлі ад іх пярсцёнак, вузлік ад хустачкі, абгарэлыя чаравікі...

Сяргея Макарава ў жыце адшукалі. Стары — не паспеў дабегчы да лесу. Ляжаў акрываўлены, пазіраў у бяздоннае неба. А ў кулаках трымаў зямлю, быццам не хацеў яе аддаваць ворагу. Чым ён замінаў тым ваякам?..

Наш тата, Мілачка, ухапіў з хаты лейцы, чыгунок кашы, сякеру, і разам з мамкай, Волькай, Міколам, Генадзем і Алесем кінуліся ў алёс. Два дні

марынаваліся ў камарынай багне. А вярнуліся — ад вёскі засталося папялішча. На нашай сядзібе куродыміла адно шула...»

Волька ведала, што Іра піша пісьмо Мілцы. Яна часам падыходзіла да яе і прасіла:

— Напішы, мая Ірачка, я пашукаю па вёсках аўчын. Каб толькі пашыла што людскае... Няхай будзе моднай, але розуму не губляе.

Іра слухала сястру, пагаджалася, а пісала сваё, што шчымліва сядзела ў сэрцы.

«...Давай, Мілачка, уявім, як жыла наша сям'я пасля вайны. На ўсю вёску — адна карова ў цёткі Аксінні. Малако дзялілі толькі дзецям: па шкляначцы, па глыточку.

Параска Коцур, тая маўклівая і трохі нават злая цётка, якой мы палохаліся ў маленстве, расказвала: «Выйдзем, бывала, у поле. Лапатамі, капаніцамі пляжым-пляжым. Есці няма чаго: кішкі марш іграюць. А мы жартуем, песні спяваем».

З ранку да цямна былі ў полі і нашы ўсе. Волька кажа, рабілі, як валы чорныя. І кок-сагыз сеялі, і лесанарыхтоўкі выконвалі. Адну нагу выцягнеш, другая ўвязне. Во як жылі!

Мы ж з табою гадаваліся, як ніхто з нашых: палатняных кашуль не насілі, гнілой бульбачкай не давіліся. Рана зведалі смак белых булак, цукерак. У нас былі ўжо магазінныя плацейкі, белыя туфлікі. І ў школу пайшлі ў сем гадоў.

Памятаю, сястрычка, прыбралі цябе ў блакітнае з белымі гарошынамі плацейка. У косы заплялі ружовыя шаўковыя стужкі. Маці прыгарнула цябе, заплакала: «Вучыся, донька».

Праводзілі цябе і браты нашы. Яны працавалі дзе хто — у калгасе, у лясніцтве, на падсочцы. І для іх свята было, што мы вучымся.

Але ж ты сама пераканалася — лёгкага хлеба не бывае. Правільна кажа наша Волька: «Дарма і скула не сядзе». Мы ж дамовіліся: бярэш адпачынак, прыязджаеш да мяне, рыхтуемся, і ты паступаеш у гэтым годзе ў інстытут. І раптам чытаю тваё пісьмо Вольцы: еду ў турпаход па Нёмане. Прабач, мая Мілачка, але гэта і ёсць здрада...»

Іра паднялася з-за стала. Прайшла ў чыстую палавіну, якая стала цяпер Вольчыным «ціятрам».

— Ну што, напісала? — адарваўшыся ад тэлевізара, спытала Волька.

— Яшчэ не закончыла.

— Цэльную кнігу ты ёй адбухаеш.

— Я б і дзве напісала, абы яна вывучыла іх назубок.

— Ты, Ірачка, не пішы толькі, што здароўе мяне наўхаб кідае, як калёсы. Не трэба дзяўчыну палохаць... А грыбкоў, напішы, я расстараюся. Я і табе, Ірачка, насушу, змарыную...— Волька заплюшчыла вочы, хінула галавой.— От што ў мінулым годзе было грыбоў, вой-ё-ёй! Пайшла раз на Мікітаву грыву. Ці не паверыш, ад радасці аж спужалася. От тамака ўжо ж і грабанула іх...

На вуліцы затарахцеў трактар. Іра кінулася да акна. Але рэзка супынілася. Адчула, што гарачыня шыбанула ў твар. Каб Волька не прыкмеціла гэтага, яна падышла да яе ззаду, абняла за шыю, гаварыла і глядзела ў акно:

— Клапатніца ты наша мілая, дзякуй табе... А Мілцы я напішу ўсё. Мяне крыўдзіць, што яна пачынае вочы ў сабакі пазычаць...

— Не дакарай вельма,— заступілася Волька.— Смажаны певень яе не дзёўб, таму і лёгка жывецца.

— Сумленне павінна... дзяўбсці...— ледзь дагаварыла Іра, бо ў гэты самы момант перад Вольчынымі вокнамі праехаў трактар і з кабіны ёй усміхнуўся Уладзік Крупянка. На ім — светлая чыстая кашуля, і сам ён зіхацеў, як сонечны прамень...

— Напішы ёй, Ірачка, пра мой «ціятр»,— папрасіла Волька, і Іра зразумела яе: сястра хоча, каб прыехала меншанькая, каб і яна пабыла ў роднай вёсцы.

— Пра гэта абавязкова напішу,— сказала Іра.

Яна зноў пайшла за кухонны стол, дзе былі раскладзены паперы. Але пісаць ужо з тым жа захапленнем не хацелася.

За адно толькі карцела паўшчуваць Мілку: за яе няўдалае замужжа. Каб яна хоць цяпер не аступілася... Іра ўзяла ручку, і самі сабой паліліся на паперу новыя радкі пісьма:

«...Пішу, сястрычка, мо трохі і крыўднае пісьмо, але, павер, шчыра пішу і з адзіным жаданнем — да-

памагчы табе. Я веру, ты перайначыш свае планы і прыедзеш да мяне (я буду праз некалькі дзён у Светлаградзе). А потым, калі захочаш, з'ездзім да Волькі. Яна будзе рада цябе бачыць. Тут, пад дубам на прыгуменні, дзе мы некалі вучылі школьныя падручнікі, ты змагла б спакойна падрыхтавацца да ўступных экзаменаў у інстытут...

Тое, што я напісала, не параўнальна з тым, што ў маім сэрцы. Мы развучыліся пісаць пісьмы. А калі і пішам, то самае галоўнае: Волька, прышлі аўчын на кажушок.

Дарэчы, сястрычка, каб ты ведала, вакол Затур'і мо ў паўста кіламетрах ніхто ў вёсках авечак не трымае. Дык што ж, Вольцы кідаць гаспадарку і з хворымі нагамі ісці па вёсках аўчын шукаць?

Хачу бачыць цябе, Мілка. Маю аб чым і параіцца. Бо ў маёй душы нешта такое творыцца, чаго не зведала яшчэ за ўсе пражытыя гады...

Гавораць, нарадзіўшыся, чалавек жыве, а аднойчы, навучыўшыся думаць, нараджаецца нанова, каб даведацца, навошта нарадзіўся ў першы раз. Адчуваю, што я тут, у Затур'і, нарадзілася нанова...»

Іра прачытала пісьмо Вольцы. Тая слухала ўважліва, некалькі разоў падносіла хустачку да вачэй, працірала іх.

— От хараша склала,— пахваліла Волька.— Вой-вой, да чаго ж люблю адукаваных людзей. Правільна ты ёй пра вучобу прапісала...

Волька пасядзела, журботна падпёршы шчаку рукой, а потым сказала:

— Пра аўчыны дарэмна папракнула Мілку. Mo дзе адшукаю, хай яны спрэюць...

— Вось прыедзе, тады сама з ёй дамовішся,— супакоіла яе Іра, бо ведала, што Вольчынай дабрыні няма мяжы, а перайначваць пісьмо не хацелася.

— Да ўжэ ж, буду чакаць...

— Мілка прыедзе да цябе,— упэўнена, як бы сама за сябе, сказала Іра і, крыху памаўчаўшы, дадала: — А цяпер, сястрычка, давай збіраць у дарогу мяне. Чакаюць школа і вучні...

## XII

*«...Сеяў жыта на Горвальскім рагу — 3,15 га. Уночы пасвіў коні...»*

Іру праводзіла амаль уся Затур'я.

Зранку да Волькі ў хату ўскочыла Параска Коцур. Яна паздароўкалася і пачала развязваць хвартух.

— Не пагрэбуй, Ірачка, маім гасцінцам,— з прыкметным хваляваннем сказала Параска, а далей казала Вольцы, як бы апраўдвалася перад ёй: — У цябе і свае куры нясуцца, але ж у мяне пароды іншай — жоўтыя. І яйкі ад іх, як фарбаваныя.

— Што вы, цётачка, не трэба было,— хацела пярэчыць Іра, але Параска замахала рукамі.

— Во-ой, маўчы... Даюць — бяры і ніколі не адмаўляйся... Дзе ты ў сваім горадзе такіх яек возьмеш?..

Параска падышла да Іры, чмокнула ў шчаку.

— Прыязджай яшчэ да нас. Не забывайся...— пяшчотна гаварыла цётка.

— Дак пагуляла б,— папрасіла Волька.

— Во-ой, мая ты Волечка, удома ж мыццё распачала, хай яго пярун лясне, заўжды няма часу. Мо й памерці не будзе калі...

Параска развіталася. Не паспелі сёстры ачомацца, як у хату ціхенька ўвайшла цётка Аксіння.

— Царыца нябесная, гэта ж пачула, што Ірка збіраецца ў дарогу... Прыйшла развітацца...

— То сядай пасядзі,— запрасіла Волька.

— Ага, царыца нябесная, дзе ж пасядзіш, трэба ў гумно ісці, зерне ад камбайнаў пачалі звозіць...

Цётка Аксіння дала Іры свой пакунак і сказала:

— Вазьмі ў дарогу, Ірка... Такога сыру, як я раблю, ніхто не робіць...

— От, Аксіння, любіш ты сабе цану нагнаць,— ласкава ўпікнула яе Волька, ёй падабалася, што затур'янцы так моцна ўпадабалі яе сястрычку.

— Вой, царыца нябесная, сябе не падхваліш, дак сапрэеш, не дачакаешся, каб хто прыкмеціў...

— Праўда, цётка, сыры ў вас адмысловыя... Вы ж неяк частавалі,— падтрымала Іра.

— А як жа, мая ты Ірачка, я ж смятаны не збіраю, а ўсё разам адтаплю, а потым яшчэ яек ўваб'ю туды, адцісну пад каменем і сушу на сонцы... Хіба ж параўнаеш мой сыр з куплёным...

— Дзякуй вам, цётачка,— пацалавала яе Іра.— Чым жа з вамі разлічвацца буду?

— Ат, не выдумляй,— ледзь не пакрыўдзілася Аксіння.— Будзеш замуж ісці, дак клікнеш, кульну чарку за тваё шчасце...

— Абавязкова паклічу,— запэўніла Іра і прыкметна пачырванела: спалохалася, што Аксіння можа разгадаць яе запаветнае.

Аксіння не ўмела разгадваць тайны, яна сказала тое, што блізка сядзела на языку:

— Ірачка, царыца мая нябесная, любая, толькі не ганіся за вельмі прыгожым ды багатым. Не ставіць жа такога мужа на покуце замест іконы. Глядзі, каб шчыры і працавіты быў, хаця б як Уладзік Крупянка...

Іра яшчэ больш запунсавелася, а Аксіння пачала развітвацца.

— Не баўся ж вельма ў сваім горадзе. Зноўку наведвай нас...

— Цяпер мая дарога ў канікулы толькі ў Затур'ю,— прызналася Іра, аб чым услых не прызнавалася нават Вольцы.

Бабы ўхвалілі яе намер.

За таго паўдня ў Вольчынай хаце перабывала паўвёскі. Надзя Яўменава прыходзіла забраць

пісьмы, каб аднесці на пошту. Малання Крупянка выкапала ў сваіх тайніках старадаўнюю картку: бацька Ірын з яе Арцёмам косяць. Прынесла Іры падарыць, а Іра адчула, што Уладзікава маці хацела яшчэ нешта сказаць, але, так і не адважыўшыся, развіталася.

Сёстры ласкава прымалі затур'янцаў і паціху збіралі чамадан. Іры рупіла, каб чаго не забыць. А Вольцы карцела ўпіхнуць сваіх гасцінцаў: вэнджалянай паляндвічкі, масла, сушаных грыбоў, варэння з чарніц.

— У мяне, як у вавёркі, запасаў цяпер на ўсю зіму,— жартавала Іра.

Яна не аднеквалася ад пачастункаў, каб не пакрыўдзіць Вольку.

— От на зіму не на зіму, а прыедзеш, дак у гастраном адразу не паляціш,— памяркоўна разважыла Волька.

Апоўдні да Вольчынай хаты пад'ехаў на кані — на дзіва цвярозы — Мікіта Сідарэнка. Пагрузілі на воз Ірын чамадан, сетку, сумачку і рушылі на грайвйку. На возе, як гаршчочкі, сядзелі Мікітавы пляменнікі. Па дарозе ён падбіраў усіх малых і закідваў наверх.

— Пракатайцеся, жэўжыкі,— ласкава ўсміхаўся ён і падганяў каняку.— Но-о, ты!.. Эйч, разленаваўся, дзяцей нат не хоча везці...

Конь для прыліку трохі зварушыўся, а потым ледзь пераствўляў тоўстыя ногі, азіраўся назад,

лыпаў вялізнымі бельмакамі, як бы разгадваў загадку: «Што ж ад мяне хоча той чалавек? Зняволіў у калёсы, ды яшчэ паганяе. Мне і без яго хораша на лужку...»

— Но-о, ты!.. Гультай!..— зноў панукваў Мікіта, шморгаў лейцы, але конь ішоў сваёй хадой, і тады Мікіта як бы апраўдваўся перад Ірай, якая ішла з Волькай следам: — Бачыш, да чаго калгас давёў каня — нічога рабіць не хоча. Цяперака яны ў нас як цыркавыя. Ат, калі соткі пасеяць, пабаранаваць, палена дроў прывезці... Дзяцей пакатаць...

Іра адчувала, з якім гонарам гаварыў Мікіта Сідарэнка пра сваю вёску, падтрымала яго:

— Гэта ж выдатна, дзядзя Мікіта... Тыя дзеткі, што ў вас на возе цяпер, некалі раскажуць, як каталіся на кані...

— Хіба гэта катанне,— разгаварыўся Мікіта.— Наверх сесці ды галопам праляцець, во-о дзе сіла!

Мікіта закурыў, перадаў лейцы малым і пайшоў побач з Ірай і Волькай.

— Мы ж некалі з Волькай камсамольцамі былі. Ага! — сказаў Мікіта, нібыта Іра магла не паверыць.— Дак прыходзіць, тады ж найбольш хадзілі, аднаго разу з райкома сакратар і склікае сход. Цяпер, кажа, перад намі галоўная задача, каб кожны камсамолец прывучыў сваю асабістую карову хадзіць у ярме, каб скарыстаць яе на палявых работах...

Мікіта зарагатаў, аж малыя з воза азірнуліся: дзіўна, такі сур'ёзны дзядзька і рагоча!

— Паганяйце, паганяйце канька-гарбунка, а то й сцямнее, пакуль да аўтобуса прыцягнемся,— шумнуў ён на дзяцей, выціраючы далонню вочы, а Іры сказаў: — Во, Ірка, як было...

Амаль з кожнага двара нехта выходзіў. Ці то нібыта вады зачарпнуць у калодзежы, ці да суседа, ці проста пасядзець на лавачцы. І да кожнага затур'янца, малога і старога, Іра падыходзіла, падавала руку.

Усім было шкада, што Іра ад'язджае. Яе запрашалі часцей наведваць вёску. А дзядуля Максім неяк надта ж спрытна паспеў зняць шапку і выхапіць з рота «беламорыну», якую ён трымаў сваім адзіным зубам для форсу. Трохі нахіліўся ўперад, падаў шурпатую руку. Іры кінуліся ў вочы рэдзенькія сівыя валасінкі, якія адзінока калыхаліся на лысай дзядулевай галаве. У такт ім калыхаўся і дзядулеў голас:

— Бачыш, Ірка, колькі на возе гарбузікаў... Пастараюцца маладзейшыя — яшчэ больш дзетак будзе ў Затур'і...— дзед Максім прыжмурыў вочы і не выпускаў Ірынай рукі, а калі Волька з Мікітам адышліся, сказаў ёй адной: — Вяртайся ў Затур'ю, у людзі гэтых гарбузікаў выведзі... А хату і хлопца знойдзем...

Іра сумелася, не знайшлася, што адказаць, толькі прыціснулася да халоднай шчакі дзеда.

Павозка калыхалася ўжо за вёскай. А Іра развіталася яшчэ з Просяй Канаплянікавай. Тая змахнула лёгкую слязіну, уздыхнула:

— От шчаслівая ты, Ірачка, пагасцявала і едзеш з гэнага дзеравенскага тлуму... А нам жа сядзець тут...

— Ну што вы гаворыце, цёця Прося,— разгубілася Іра.

— Ай, здэцца, кінула-рынула б усё...

— Цяпер гарадскім усё больш вёска сніцца,— на гэты раз уздыхнула Іра.

— Няўжэ ж, толькі сніцца... Вой, бяжы ж, мая Ірухна,— схамянулася Прося.— А то я разнюнілася, а табе цяжка даганяць будзе...

Яны пацалаваліся.

Іра выйшла за вёску, азірнулася. Уся ў вербах і садах, яна падалася ёй зараз такой мілай і роднай, як ніколі. Балюча заныла сэрца...

Ужо на гравійцы, калі яна сядзела ў аўтобусе і махала рукой усім, хто праводзіў яе, заўважыла, што ад Затур'і рухаецца трактар. Яна палохалася яго і ў той жа час хацела, каб шафёр аўтобуса трохі пакешкаўся з білетамі. Іра махала рукой, дзеці — ёй, Мікіта курыў, раз-пораз зацягваючыся, а Волька насоўкай церла чырвоныя вочы.

Трактар набліжаўся. Ён быў непадалёку ад гравійкі, але аўтобус нечакана і неахвотна сарваўся з месца, зашамацеў коламі. Падхапілася з сядзення і Іра. Першае жаданне было крыкнуць на

ўсю моц шаферу, каб пачакаў, затрымаўся, але адчула, што анямела. Яна прыціснулася лбом да халоднай шкліны, паспела яшчэ ўбачыць заплаканую Вольку, вясёлых дзяцей, сумнага Мікіту і... трактар.

Аўтобус набіраў хаду, а здавалася, што трактар аддаляецца, бяжыць назад. Там, удалечыні, Іра прыкмеціла: з трактара выскачыў Уладзік, ускочыў на радыятар, махаў рукой. Сіні трактар і трактарыст у белай кашулі...

Іра прысела, усміхнулася скрозь слёзы.

Аўтобус імчаў усё далей, а Іра была там, у сваёй Затур'і, і перад ёй стаялі родныя, шчырыя людзі, у вушах аддаваліся іх галасы. За акном прабягалі дрэвы, слупы, хаты. Іра раптам адчула, што пазірае на ўсё іншымі вачыма. Пачала прыкмячаць тое, чаго раней не бачыла. А мо не ўмела бачыць?

Вунь сярод хвойніку, на невялічкай палянцы пры дарозе, стаяць дзве кучаравыя бярозкі. Яны, як сястрычкі, узяўшыся за рукі, нібыта ўцяклі ад мамы, прыбеглі да асфальтаванай дарогі і дзівяцца: «Зірні, зірні, які вялізны чырвоны аўтобус... А вунь самазвал, у-ух раве...» Іра ўсміхнулася, памахала рукой бярозам-сястрычкам. Яны адказалі вясёлым «шчабятаннем» дробненькіх лісцікаў.

Іра зірнула ўверх, і сэрца ёкнула ад новага адкрыцця. Воддаль ад аўтобуса, паралельна яму, ляцеў жаўрук. «У перагонкі захацеў пагуляць»,— падумала Іра. Яна замілавалася вясёлым шэрым камячком.

Дарога прывяла ў вёску і стала вуліцай. Шафёр збавіў хуткасць, і Іра ўбачыла знаёмыя пейзажы. Хаты і людзі такія ж, як і ў яе Затур'і. На лавачках сядзелі бабулі, дзеці. У адным з двароў прыкмеціла незвычайнуюварыўню: над дахам, як комін, тарчаў ствол бярозы. «Цікава пабачыць,— падумала Іра,— гаспадара той хаты. Няйнакш, рамантык. А мо закаханы?»

У канцы вёскі, на сухім дрэве — пустая буслянка. «Няўжо не прыляталі буслы? Чаму адмовіліся ад свайго жытла? А мо былі, ды паляцелі размяць крылы?»

Іра прыгадала буслянку ў сваёй Затур'і. На тоўстай таполі, ля сажалкі, спрадвеку жылі буслы. Птушкі вельмі прывыклі да вёскі, да людзей. Былі рахманыя, амаль ручныя. У іх шыкоўным гняздзе знаходзілі прытулак бяздомныя вераб'і і галкі.

Аднойчы таполя рухнула. Вясной буслы доўга кружылі каля яе, садзіліся непадалёку, клекаталі, як бы аплаквалі старое жытло. Начавалі ў лузе. А потым, відаць, не захацелі крыўдзіць затур'янцаў і ўпадабалі кола на тэлефонным слупе.

Дзед Максім усё жартаваў:

— Бачыце, птушка і тая стала культурная. Падавай ёй тэлефон у хату... Мо званіць будуць, каб жабы самі на абед скакалі...

Далей за акном аўтобуса паплылі свежаўзараныя палеткі. Іра, здаецца, адчула пах зямлі, яе сырадойную свежасць і нібыта бачыла, які заклапо-

чаны твар у трактарыста. А яшчэ заўважыла, што на ўсім, як кінуць вокам, палетку, у сонечных промнях паблісквалі, мігцелі, як начныя зоркі, друзачкі шклінак. Адкуль яны на гэтым роўным, неабсяжным палетку? Тыя шклінкі падаліся Іры асколачкамі на целе зямлі...

Іра на імгненне прыкрыла павекі і ўбачыла перад сабой затур'янскія бярозкі за іхнім прыгуменнем. Яны стаяць купкамі, сталеюць і старэюць з гадамі, як яе вёска, як яна сама. Але, як і даўней, кожную майскую раніцу на іх кронах заліваецца салоўка. Як жа хараша будзіць вяскоўцаў той галасісты спявунчык! Якіх толькі гукаў неназапасіў лясны чарадзей! Як толькі не шчыруе ранішні музыка! Спаць у такую пару — вялікі грэх. Дык вось чаму яе вяскоўцы так раненька падымаюцца, чаму такія ласкавыя, уважлівыя, пяшчотныя! Яны ж кожную раніцу слухаюць салаўіныя спевы, бачаць узыход сонца, адчуваюць прыход вясны!

Іры захацелася загаварыць з кім-небудзь. Яна азірнулася вакол. Побач з Ірай у адкінутым крэсле сядзела ў джынсах дзяўчына. Вочы і губы яе так выкваціаны ў фарбу, што стала аж страшна. Дзяўчына спала. «Дзівачка!» — хацелася крыкнуць Іры.

Аўтобус імкліва набліжаўся да Светлаграда.

## ЗМЕСТ



---

**Владимир Степанович Липский**

**ЛАВРЕНОВЫ ТРУДОДНИ**

Повести

*Для среднего и старшего школьного возраста*

Минск, издательство «Юнацтва»
На белорусском языке

Рэдактар *К. А. Цвірка*
Мастацкі рэдактар *В. І. Кліменка*
Тэхнічны рэдактар *Г. М. Шашко*
Карэктар *М. А. Паддубская*

ІБ № 205

Здадзена ў набор 24.11.82. Падп. да друку 28.10.83. АТ 21209. Фармат 70×100 1/32. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 9,03. Ум. фарб.-адб. 9,3. Ул.-выд. арк. 7,69. Тыраж 12 000 экз. Зак. 3164. Цана 35 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.